ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

20 жніўня 2004 г. № 34/4271

## АНОНС!

**“Мусі-пусі”, альбо Трыумф пошласці**

## Ружай хоча быць калючы дрот

Некаторыя развагі Сяргея Абрамовіча з нагоды артыкула Валянціны Кадзетавай “Мусі-пусі”, альбо “Трыумф пошласці” (“ЛіМ”, 02-07-2004)

СТАР. 3

*Саша ВАРЛАМАЎ:*

**“Я прынцыпова супраць... агенцтва мадэляў!”**

*Выдумляць адзенне яму было цікава заўжды. Кожны раз, калі хлопчык хварэў ангінай ці грыпам, і сумна было ляжаць пад коўдрай, ён пачынаў гуляць са свäімі сёстрамі, разам малявац і выразаць убранне для папяровых лялек...*



СТАР. 12

# Яблычны Спас

**“Прыйшоў Спас — і лета ад нас”, — кажуць у народзе. На памежжы лета і восені — 19 жніўня адзначаецца старажытнае земляробчае свята ўраджаю яблычны Спас.**

**“Добра яблычак на Спаса!” Заўсёды ў гэты дзень царква асвячала садавіну, якую дагэтуль забаранялася есці, а ўжо “Спас — усяму час”.**

*Залацісты, спелы яблык*
*На маёй ляжыць далоні.*
*Залацісты, буйны яблык,*
*Быццам сонейка малое.*

*Быццам сонейка малое,*
*Нават горача далоні.*
*Досыць чуць яго пацiснуць,*
*І — у твар праменні*
*пырснуць.*

**Іван МУРАВЕЙКА**



Фотакалаж В. Калініна

# З нагоды будучага свята

**11-га жніўня ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбылася рабочая нарада па падрыхтоўцы да Дня беларускага пісьменства, святкаванне якога на дзяржаўным узроўні адбудзецца 5-га верасня, і ўжо не ў першы раз, у старажытным Тураве.**

На нарадзе прысутнічалі Л.Ананіч — першы намеснік міністра інфармацыі, Ул.Матусевіч — начальнік галоўнага інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення Міністэрства інфармацыі РБ, Т.Бялова — каардынатар работы з прэсай, Н.Осіпава — галоўны рэжысёр свята ды іншыя. Перад шматлікімі прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі Беларусі Л.Ананіч падкрэсліла, што Дзень беларускага пісьменства адзначаецца ўжо ў адзінаццаты раз. На ім будуць прысутнічаць афіцыйныя дэлэгацыі, пісьменнікі, журналісты, шматлікія госці. Таксама вельмі актыўна падключылася да ўдзелу ў свяце Міністэрства адукацыі: плануецца арганізаваць экскурсіі ў Тураў для школьнікаў з усіх куткоў Беларусі. Вялікую ўвагу першы намеснік міністра інфармацыі надала ролі прэсы, асабліва літаратурнага і мастацкага накірункаў. Бо, па вялікім рахунку, гэта свята ўсіх тых, хто мае дачыненне да мастацкага слова.

Для прэсы будзе адведзена Цэнтральная плошча са сцэнай, на якой з дзесяці гадзін раніцы і да шасці вечара прадстаўнікі газет, часопісаў і выдавецтваў краіны будуць з творчым падыходам рабіць прэзэнтацыі сваіх выданняў.

Акрамя таго, у праграме фестывалю адбудуцца шматлікія іншыя мерапрыемствы. Гэта і конкурс "Мой малюнак на асфальце", а таксама спартыўны конкурс-віктарына "Спартыўная Беларусь", ды конкурс юнкораў "Я — юны карэспандэнт", літаратурная віктарына "Кніга навырост" і шмат чаго іншага.

Таксама хацелася б адзначыць, што гэта не проста свята дзеля свята, гэта ў дадатак і адраджэнне такіх нашых слаўных старажытных гарадоў, як Мір, Мсціслаўль ды іншых мястэчкаў.

Урэшце, запрашаем усіх жадаючых прыняць удзел у святкаванні Дня беларускага пісьменства. Свята абяцае быць вельмі ж цікавым і запамінальным.

**Віктар КАВАЛЁЎ**

# Бусел над Ракуцёўшчынай

**Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця!**
**Зноў з ціхай радасцю цябе чытаю я...**

**М. Багдановіч**



Чароўны Маладзечанскі музычна-песенны край. Вёска Ракуцёўшчына, што недалёка ад сяла Краснага. Лясы, пагоркі, раздольныя палі... Цудоўнейшыя мясціны, асвечаныя імем класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, які ўлетку 1911 года стварыў тут свае шэдэўры, што сталі "залатым фондам" айчыннай культуры.

"Ад Максіма-Кніжніка пачатак..." — гучалі радкі багдановічаўскага "Апокрыфа" са святочнай сцэны ля Максімавай крыніцы; над ракуцёўскімі пагоркамі звінела песняроўскае "Белый аист летит...", а ў празрыста-блакітным небе сапраўды кружыў белы бусел...

Менавіта так распачалося свята паэзіі і песні "Ракуцёўскае лета 2004" — добрая шматгадовая традыцыя, якую сёлета аднавіў Літаратурны музей М. Багдановіча ў сваім філіяле "Фальварак Ракуцёўшчына".

Дырэктар музея Таццяна Шэляговіч прадставіла шаноўных гасцей: з Пецярбурга прыехала Маргарыта Пярова — нашчадак славутага роду беларускіх адраджэнцаў Луцкевічаў, з Масквы — Ніна Дзябольская, пляменніца лепшага сябра паэта Дзіядора Дзябольскага. Завітала на свята і намесніца старшыні аб'яднання нашых землякоў у Севастопалі "Беларусь" Людміла Малько. Госці, што сталі ўжо сапраўднымі сябрамі музея, прывезлі на Ракуцёўшчыну шчырыя прывітанні, цёплыя словы ў гонар беларускага песняра, а таксама каштоўныя падарункі, якія папоўняць музейныя фонды. Ізноў гучаў неўміручы "Апокрыф" — "Евангелле мастацтва", яго разам з супрацоўнікамі музея нанава перачыталі госці з Мінска, вядомыя беларускія літаратары, нашчадкі слыннага класіка на пяры: Анатоль Вярцінскі, Васіль Жуковіч, Валерый Стралко, Міхась Шавыркін, маладое пакаленне — Людка Сільнова, Міхась Скобла, Людміла Рублеўская, Віктар Шніп, Зміцер Арцюх. Пасля лірычна-філасофскай паэтычнай часткі, стварыўшай узнёслы настрой, музычнае дзейства ладзілі майстры спеваў і танцаў Маладзечаншчыны. Фальклорныя калектывы, вакальныя гурты, выканаўцы беларускіх эстрадных песень надалі асаблівую афарбоўку імпрэзе. І кожны з выступоўцаў вітаў гасцей: "Са святам!.."

Доўга ў гэты ясны летні дзень над ракуцёўскімі прасторамі ліліся песні, гучалі вершы, чуўся вясёлы людскі гоман, а напрыканцы свята пад апладысменты захопленых гледачоў у небе ізноў з'явіўся белы бусел, нібыта развітваючыся да наступнага "Ракуцёўскага лета"...

*Падымі угару свае вока,*
*І ты будзеш ізноў, як дзіця,*
*І адыдуць-адхлынуць далёка*
*Усе трывогі зямнога жыцця.*

*Ціха тучу блакіт закалыша,*
*У душы адрасце пара крыл, —*
*Узляціць яна ў сінюю вышу*
*І ў струях яе змые свой пыл...*

**Святлана КІСЛОВА,**
**загадчыца экскурсійна-масавага аддзела Літаратурнага музея М. Багдановіча**

## АДНЫМ АБЗАЦАМ

### Карысныя падручнікі?!

Што тычыцца гігіенічных патрабаванняў па вазе і аб'ёме, то толькі 35, 7 працэнта школьных падручнікаў адпавядаюць гэтым нормам. Да таго ж, дадатковую нагрузку, асабліва для навучэнцаў малодшых класаў, уяўляюць вялікія памеры дадатковых тэкстаў і табліцы, якія друкуюцца больш дробным шрыфтам.

### На вучобу ў ваенкамат

З пачаткам новага навучальнага года на ўрокі ў ваенкамат Савецкага раёна сталіцы будуць наведвацца навучэнцы бліжэйшых школ. Заняткі плануецца праводзіць у пакоі ваенна-патрыятычнага выхавання. Акрамя сустрэч з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны і ўзброеных сіл, для школьнікаў будуць арганізаваны лекцыі і экскурсіі. Плануецца, што ў хуткім часе на базе гэтага пакоя адкрыецца музей гісторыі беларускай арміі.

### Музей адукацыі

Як нам стала вядома, у сярэдзіне восені ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі адкрыецца гарадскі музей адукацыі. Ён будзе знаходзіцца паміж карпусамі, у пераходзе. У экспазіцыі размесціцца старыя парты, дзённікі вучняў першых пасляваенных гадоў, рэдкія падручнікі.

**В.К.**



Нядаўна ў музеі Янкі Купалы з нагоды 190-й гадавіны з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі адбылася ўрачыстасць і адкрыццё выставы "Пайшло слова Тарасова горда, непакорна", прысвечаныя таксама літаратурным і культурным стасункам Беларусі і Украіны, і прымеркаваныя да Дня незалежнасці Украіны.

Янка Купала быў першым перакладчыкам твораў Тараса Шаўчэнкі на беларускую мову, яго "Кабзар" наш пясняр чытаў яшчэ ў 10 год і гэты сусветна вядомы класік украінскай літаратуры з'яўляўся для Купалы ідэалам творцы, грамадзяніна, мастака, яму ён прысвяціў паэму "Тарасова доля".

Адкрылася імпрэза выкананнем верша Янкі Купалы "Прарок" (чытаў артыст філармоніі Уладзімір Цімашэвіч) і песні на словы Тараса Шаўчэнкі "Реве та стогне Дніпр широкий" (спяваў украінскі фальклорны ансамбль беларускага грамадскага аб'яднання ўкраінцаў "Ватра"). Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел: пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Пётр Шапавалаў, аташэ па культуры Валерый Казлоўскі, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц, старшыня Міжнароднага купалаўскага фонду Вячаслаў Рагойша, Таццяна Кабржыцкая, Сяргей Законнікаў, Валерый Стралко і інш.

**Н.Д.**

*Фота К. Дробава*

## Ушанаванне песняра

13 жніўня споўнілася 48 гадоў з дня смерці народнага пісьменніка Беларусі Якуба Коласа. З гэтай нагоды на Вайсковых могілках сталіцы адбылося ўскладанне кветак да магілы славутага сына бацькаўшчыны. Ушанаваць памяць песняра прыйшлі малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, акадэмік, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Ул.Гніламёдаў, адзін са старэйшых пісьменнікаў М.Аўрамчык, а таксама літаратары М.Мятліцкі, В.Спрынчан, А.Камароўскі, В.Шаранговіч, В.Стралко і многія іншыя. Ул.Гніламёдаў, у прыватнасці, зазначыў, што Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы НАН РБ рыхтуецца поўнае выданне збору твораў пісьменніка. Каля магілы песняра было сказана шмат шчырых, прачулых слоў пра яго як творцу і чалавека. Згадалі і наказ Якуба Коласа нашчадкам, што трэба заўсёды любіць і шанаваць родную мову, кожнае яе слова. М.Аўрамчык, М.Мятліцкі, А.Камароўскі прачыталі свае вершы, прысвечаныя класіку.

**В.К.**

*Фота К. Дробава*



# Ружай хоча быць калючы дрот...



Фотакалаж В. Калініна

## Некаторыя развагі з нагоды артыкула Валянціны Кадзетавай "Мусі-пусі", альбо "Трыумф пошласці" ("ЛіМ", 02-07-2004)

Артыкул Валянціны Кадзетавай выклікаў у мяне жаданне падзяліцца сваімі назіраннямі, якія вельмі блізкія да тэмы, закранутай у вышэйзгаданым артыкуле.

З некаторымі думкамі сп. Кадзетавай можна не пагадзіцца. Зразумела, што ў сферы маралі, культуры не можа быць нейкага раз і назаўсёды ўстаноўленага закону, адступленне ад якога трэба разглядаць як злачынства супраць чалавецтва. А менавіта такі падыход нагадваюць радкі з артыкула "Мусі-пусі...", прысвечаныя самвыдату. Канечне, у гэтай з'яве шмат бяздарнай графаманіі і проста мегаламаніі (т.зв. маніі вялікасці). Але калі ўлічыць, што сапраўдная высокая культура ўсё-роўна не даступная для разумення шырокіх мас (хто, напрыклад, з упэўненасцю скажа, што кожны сучасны калгаснік прачытаў "Братоў Карамазавых"?), то якая розніца, хто і што выдае? Усё роўна, кампетэнтныя людзі разбяруцца, дзе сапраўднае мастацтва, і ўвядуць у школьную праграму творы класікаў і сучасных таленавітых пісьменнікаў, а не бульварную літаратуру.

На жаль, шаноўная Валянціна Кадзетава толькі пералічыла адмоўныя факты сучаснага жыцця, выказала сваё негатыўнае стаўленне да іх, але не назвала, па-першае, прычыны, і па-другое, шляхі пераадолення гэтага культурнага занепаду. Што датычыцца першай прычыны, то гэта паспрабую давесці ў сваім артыкуле, а вось адносна шляхоў пераадолення цяжка сказаць што-небудзь пэўнае, а тым больш — аптымістычнае. (Тут усім нам думаць ды думаць...) Але давайце па парадку.

У артыкуле пра Мусі-пусі ёсць адзін вельмі важны момант, які як мне здаецца, крыху дапаможа зразумець сутнасць нашай праблемы. Аўтар піша, што кіраўніцтвам краіны выказана пажаданне, каб школы выпісвалі беларускія часопісы, але насуперак гэтаму ў шмат якіх школах тых часопісаў няма да сённяшняга дня. Хто ў гэтым вінаваты? — Канечне, канкрэтныя мясцовыя адказныя асобы, чыноўнікі. І справа, на маю думку, не ў тым, што яны не выконваюць даручэння, а ў тым, што яны проста не разумеюць яго сутнасці з прычыны сваёй неадукаванасці. Усё было б не так страшна, калі б яны проста сядзелі на сваіх крэслах ды падпісвалі свае паперкі і ставілі свае пячаткі. Але ж яны яшчэ маюць і гонар, амбіцыі, і таму не даюць працаваць людзям сферы творчасці, адукацыі (я, напрыклад, настаўнік вясковай школы і прывяду некалькі прыкладаў са сваёй практыкі).

Успамінаю свой прыход на працу пасля заканчэння універсітэта. Дырэктар той школы запрасіў мяне да сябе ў кабінет на так званы "Уводны інструктаж на працоўным месцы". Павучальным і строгім тонам, як маленькаму хлопчыку, тлумачыць па пунктах. Маўляў першае. На працу з'яўляцца своечасова. Другое. Дзяцей не біць. Трэцяе. На ўрокі заўсёды пісаць планы...

Успамінаю заняткі па метадыцы, дзе нам тлумачылі, навошта трэба пісаць планы з пунктаў гледжання навукова. І так сяджу, слухаю і з нецярплівасцю чакаю, калі ж мне пачнуць чытаць абяцаны інструктаж. Нарэшце, хвілін праз 10 кажа, што інструктаж закончаны, і дае мне распісацца. Не зразумеўшы, навошта мне пераказалі выбарачна некаторыя ісціны, якія я і сам ведаю, аб чым і сведчыць мой дыплом, пакідаю кабінет. І толькі пазней, папрацаваўшы год, адчуўшы ўсю недарэчнасць бюракратычна-кар'ерыцкай правінцыйнай сістэмы, зразумеў, навошта праводзяцца падобныя інструктажы. Яны, думаю, праводзяцца для таго, каб падначаленых зразумеў, што якім бы ён ні быў адукаваным, таленавітым майстрам сваёй справы, начальнік — разумнейшы, без начальніка ты нічога не зробіш. Гэта проста спосаб псіхалагічнага ціску з мэтай выклікаць павагу і страх. Вельмі яскрава гэта праяўляецца, калі да цябе на ўрок прыходзіць дырэктар ці завуч. Яны ў нас фізік і біёлаг, а я выкладаю мову і літаратуру. І вось, калі ўрок скончаны і дзеці пакінулі клас, мой начальнік пачынае абмяркоўваць, як я правёў урок, і даваць парады. Што гэта за парады, лепш прамаўчу, шкадуючы месца, а распавяду пра іншае.

Памёр Расул Гамзатаў. На педсавеце адзін кіраўнік, паведамляе гэтую навіну. Зноў жа, павучальным тонам, як маленькім дзецям.

Кажа, што Расул Гамзатаў быў вялікім чалавекам. Ён заслугоўвае таго, каб мы ўшанавалі яго памяць на нашым педсавеце. Гэта, другі пасля Пушкіна паэт у рускай літаратуры.

Як тут не ўспомніць радок Рыгора Барадуліна:

*"Ружай хоча*
*быць калючы дрот".*

Сапраўды, кар'ерысты-начальнікі, і тыя графаманы-самвыдатаўцы, пра якіх піша Валянціна Кадзетава, сваёй прэтэнзіяй на інтэлектуальнасць характарызуюцца такім парадуннем.

А паспрабуй скажы ім пра гэта. Аднойчы зрабіў заўвагу, што ў афармленні памяшкання школы шмат памылак. Напрыклад, трэба пісаць не "Музей Народнай Славы", а "Музей народнай славы". Адразу атрымаў здзіўлена-абураны адказ:

—Што вы! Мы заўсёды толькі так пісалі: Музей Народнай Славы...

— Зараз прынясу падручнік, — адказаў я і выйшаў у свой кабінет. Калі вярнуўся з кнігай у руках, мой апанент дэманстратыўна выйшаў сам.

Можа ўзнікнуць пытанне, як жа так атрымліваецца, што таленавітыя людзі залежаць ад бяздарнасцей і чаму, бяздарнасці прабіваюцца ў кіраўнікі, няхай і маленькія? Але пытанне гэтае зусім не такое складанае і супярэчлівае, як можа падацца на першы погляд.

Ды таму, што не ўмеюць і не могуць рабіць канкрэтную справу. Тыя ж, хто можа і ўмее — даражыць гэтым, і аб іншым не думае. Ён працуе і для сябе і для народа, і для кіраўніка аднолькава сумленна...

Аднойчы да нас у школу ў госці прыехаў былы загадчык аддзела адукацыі. Выступаючы перад настаўнікамі, так і сказаў, што роля кіраўніка заўсёды больш важная, чым роля таго, кім ён кіруе, бо ён натхняе сваіх падначаленых...

Падкрэслю, што такая сітуацыя характэрна пераважна для правінцыі. Талковых людзей менш, чым хацелася б, усе яны займаюць пасады ў вышэйшых органах улады. Успамінаю, як на адной са штогадовых жніўеньскіх настаўніцкіх канферэнцый у наш раён прыехала прадстаўніца абласнога ўпраўлення адукацыі. Шмат увагі на тым пасяджэнні надавалася дзяржаўнай ідэалогіі. Некаторыя мясцовыя чыноўнікі, кіраўнікі-натхняльнікі, выступаючы, гаварылі пра тое, што яны шмат увагі надаюць ідэалагічнай працы, што ідэалогія — гэта неад'емная частка нашага жыцця, што яны робяць усё магчымае для ўдасканалення ідэалагічнай працы і г.д., але ў рэшце рэшт ніхто так і не сказаў, што ж канкрэтна яны робяць. Калі слова далі прадстаўніцы вобласці, жанчына шчыра і справядліва сказала:

— Праслухаўшы вашы выступленні, зразумела, што вы не ведаеце, што такое ідэалогія, або ў лепшым выпадку ўяўляеце яе сабе як у далёкія савецкія часы...

Гэта было нейкім павевам свежага ветру, ці вядомым коласаўскім крынічным струменем у балотнай вадзе. Але гэтыя кіраўнікі яе і не зразумелі, а нават каб і зразумелі, то не сталі б выконваць ніякіх рэкамендацый, бо прадстаўнік вышэйшай улады паедзе, а яны зноў застануцца гаспадарамі.

Зразумела, калі такі кіраўнік неяк дыскрэдытуе сябе ў вачах людзей, то аўтаматычна падвысіцца і незадаволенасць вышэйшай уладай, скептычныя адносіны да сваёй дзяржавы. А прыкладаў такой дыскрэдытацыі вельмі шмат. Раскажу, як у мінулым годзе ў той вёсцы, дзе працую настаўнікам, адбывалася выязное пасяджэнне райвыканкама, толькі пра адзін яго эпізод.

Адзін рабочы саўгаса пачаў спрачацца са сваім дырэктарам. Спрэчка была эмацыянальная і падчас яе апаненты звярталіся адзін да аднаго на "ты". І раптам адзін кіраўнік робіць рабочаму заўвагу:

— Ну ты ж хоць бы на "вы" называў, гэта ж твой начальнік, як-ніяк...

Можа, ён (дарэчы, былы настаўнік) таксама лічыць магчымым зневажаць сваіх падначаленых, а да сябе патрабаваць павагі?..

Калі жывеш у такой атмасферы, то ўсе гэтыя "Мусі-пусі" не толькі здаюцца малазначнымі, а нават сімпатычнымі, прыносяць палёгку, эмацыянальны адпачынак.

Гэта, здаецца, справа фінансавая. Ёсць попыт — ёсць і прапанова. А попыт на ўсё дрэннае і нізкае будзе заўсёды. Яшчэ старажытныя рымляне казалі:

— Mala herda cito crescit (дрэнная трава хутка расце).

**Сяргей АБРАМОВІЧ,**
**настаўнік, в. Лошніца**
**Барысаўскага раёна**

# Абсягі

**МАГІЛЁЎШЧЫНА**

**ЧЭРЫКАЎ**

## Ганаровы грамадзянін роднага горада

Жыхары аднаго з найстаражытнейшых гарадкоў ва Усходняй Беларусі — Чэрыкава — адзначылі 400-гадовы юбілей свайго роднага паселішча.

Першая згадка пра Чэрыкаў у пісьмовых гістарычных крыніцах адносіцца да 1604 года, калі кароль Рэчы Паспалітай Зыгмунд III Аўгуст пераводзіць мястэчка ў разрад гарадоў, а ў 1641 годзе чэрыкаўцы атрымліваюць магдэбургскае права і ўласны герб.

Цягам прамінулых гадоў горад і яго жыхары зведалі многае — і роскват, і разбурэнні...

З нагоды юбілею адбыліся святочныя ўрачыстасці. Падчас іх было паказана тэатралізаванае прадстаўленне, у якім знайшлі адлюстраванне паасобныя найцікавейшыя старонкі гісторыі горада.

У гонар гэтай даты на тэрыторыі гарадскога парку ўстаноўлены памятны знак, у падножжа якога закладзена капсула са зваротам да нашчадкаў.

Рашэннем райвыканкама група слынных ураджэнцаў гэтага паселішча ўдастоена звання "Ганаровы грамадзянін Чэрыкава". Сярод іх — выбітны пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Віктар Карамазаў.

Віктар Філімонавіч не толькі нарадзіўся ў Чэрыкаве, але і пэўны час пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта працаваў тут адказным сакратаром раённай газеты. Ды і пасля, пераехаўшы на сталае жыхарства ў Мінск, стаўшы вядомым пісьменнікам, ён і сёння не парывае сувязі з родным горадам, землякамі.

**БЯЛЫНІЧЫ**

## "Натхненне" натхняе

Без малага амаль паўвека дзейнічае пры бялыніцкай раённай газеце "Зара над Друццю" літаратурнае аб'яднанне "Натхненне". Яго сябрамі ў свой час з'яўляліся сатырыкі Рыгор Ясюсеў і Васіль Найдзін, паэты Віктар Хаўратовіч, Змітрок Марозаў і Вячаслаў Казакевіч...

Яскравым сведчаннем таго, што літаратурнае аб'яднанне жыве, развіваецца, з'яўляецца не толькі рэгулярнае публікаванне твораў мясцовых літаратараў на старонках раёнкі, але і сустрэчы сяброў "Натхнення" з жыхарамі мястэчка і вёсак раёна.

Адна з апошніх адбылася па ініцыятыве супрацоўнікаў мясцовага мастацкага музея імя Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. На сустрэчу з літаратарамі, што праходзіла ў адной з музейных залаў, былі запрошаны вучні школ раёна, якія адпачывалі ў летнім аздараўленчым лагеры "Перамога".

Са сваімі новымі творамі хлопчыкаў і дзяўчынак пазнаёмілі празаік і драматург Міхась Карпечанка, паэты Уладзімір Серыкаў і Міхась Радоўскі.

Дырэктар мастацкага музея імя В. Бялыніцкага-Бірулі Надзея Палоннік распавяла падлеткам пра гісторыю дзейнасці літаратурнага аб'яднання "Натхнення", расказала пра пісьменнікаў Бялынiччыны.

**Міхась БОЛІНСКІ.**

# Запіскі юнага ад'ютанта



Перад Вялікай айчыннай вайной, у трыццатыя гады, мой бацька, Андрэй Максімавіч працаваў галоўным аграномам Старобінскай машынна-трактарнай станцыі, а Васіль Іванавіч Казлоў быў дырэктарам станцыі. Нашы дамы стаялі побач, сябравалі сем'ямі. Пазней Васіль Іванавіч быў пераведзены ў Старобін, затым у Мінск. Наша сяброўства не спынялася. Яны забіралі мяне ў сталіцу, і я падоўгу знаходзіўся ў іх гасціннай сям'і. З ягонай дачкой Тамарай мы былі аднагодкі.

Калі пачалася вайна, мой бацька пайшоў на фронт, а Васіля Іванавіча пакінулі на акупаванай тэрыторыі для арганізацыі партызанскага руху ў тыле ворага. Ён знайшоў маю маці, Веру Іванаўну, і прыцягнуў яе да падпольнай работы. Яна атрымала заданне трымаць сувязь з членамі былога партыйнага актыву, наладжваць сустрэчы, арганізоўваць іх у падпольныя групы. Так мама стала сувязной Мінскага абкама.

Першыя баявыя аперацыі партызанскіх атрадаў былі праведзеныя ўжо восенню 1941 года. Павялічвалася колькасць атрадаў — іх было створана каля дзвюх соцень.

Да партызанскага руху мама прыцягнула і свайго бацьку, Прастака Івана Інтавіча, латышскага стралка ў гады рэвалюцыі, выдатнага гаспадара і краўца. З сынам Мікалаем ён ездзіў па вёсках і шыў кажухі, іншую вопратку. Гэта давала яму магчымасць сустрэцца з многімі. Але знайшліся і здраднікі. Неяк увечар, калі вялікая сям'я дзеда сабралася за сталом, вячэрала, у хату ўварваліся паліцаі. На нашых вачах яны збівалі, дапытвалі дзеда. Потым вывелі ў двор і застрэлілі. Усіх нас, жанчын і дзяцей, адвялі ў цёмную халодную. Добра памятаю, як на дзвярах грамыхалі засаўкі, а пад нагамі шабуршалі габлюшкі... Раніцай вывелі майго дзядзьку Мікалая, які быў трошкі старэйшы за мяне, і расстралялі. Начальнік паліцыі паглядзеў на мяне і сказаў:

— Ну, гэты шчанюк не можа помсціць.

Жанчын і дзяцей адпусцілі, не здагадваючыся, што галоўнай сувязной у гэтай сям'і была мая маці. Адмысловы дом дзеда спалілі. Пачаліся нашы пакуты па вёсках, уцёкі ад карнікаў... Ніколі не забуду момант, калі мы з мамай бяжалі з вёскі, якую акружалі немцы, да выратавальнай іржы. За ёй пачынаўся лес. За спінай стракатаў кулямёт, па абодва бакі ад нас кулі ўзрывалі зямлю...

Васіль Іванавіч расшукаў нас, даслаў партызан. Так я апынуўся на востраве Зыслаў сярод Любаньскіх балот, дзе знаходзіўся штаб злучэння партызанскіх атрадаў Мінскай вобласці. Мяне, дзесяцігадовага хлапчука, Васіль Іванавіч "прызначыў" сваім ад'ютантам. Перашылі ваенную форму на мой рост, партупею, знайшлі пілотку патрэбнага памеру, штаны галіфэ, чаравікі. Далі таксама фінку і трафейны дамскі пісталет "вальтэр". Падабралі невысокага коніка "Ластаўку". Жыў я, радавы, у штабным будане, разам з двума Героямі Савецкага Саюза, партызанскімі генераламі — камандзірамі аб'яднання Васілём Іванавічам Казловым і начальнікам штаба Іосіфам Аляксандравічам Бельскім. Што ўваходзіла ў мае шматлікія абавязкі?

— Ад'ютант, перадай на радыёстанцыю...

— Ад'ютант, прынясі...

— Аднясі на вогнішча..

— Пачытай параненым газету...

— Пачысці зброю...

Маці хадзіла на баявыя аперацыі, а я стаў, калі можна так сказаць, сынам атрада імя Гастэла. У многіх партызан дома засталіся сем'і, дзеці. І, гледзячы на мяне, яны думалі пра сваіх. Стараліся ва ўсім мне дапамагчы. Нават зрабілі маленькі звярынец, дзе былі некаторыя жыхары леса. Стары Гарасім Маркавіч Гальчэня, які адкрыў для мяне многія таямніцы прыроды, знайшоў маленькае лісянё, прывучыў яго. Лісянё спала каля маіх ног, грэлася. Я зацягну яго пад коўдру, яно выбярэцца і зноў ляжа каля ног...

Колькі цікавага чуў я ў вячэрняга вогнішча!

Некалькі гадоў таму былы начальнік контрразведкі партызанскага злучэння Сяргей Самойлавіч Жукаў, гледзячы на майго рухавага ўнука Паўла, успамінаў:"Ты быў такім жа жвавым, хуткім! Ад зары да зары — на нагах! І ўсё бегма, бегма! У шпіталь, на аэрадром... "Дайце я зраблю! Дапамагу!"

Васіль Іванавіч быў строгі, але справядлівы, успыльчывы, але адходчывы. Маскоўскія аўтаматчыкі, якія ахоўвалі лагер, мне казалі:

— Ад'ютант, назбіраў бы чынарыкаў.

— А што гэта?

— Акуркі.

З сабраных у штабным будане яны рабілі цыгаркі, курылі і давалі зацягнуцца мне. Каб казацца старэйшым, тады хутчэй возьмуць на небяспечныя баявыя аперацыі, я, кашляючы і задыхаючыся, курыў. Убачыўшы аднойчы гэтую карціну, Васіль Іванавіч скамандаваў:

— Зараз жа кінь!

— Не кіну! — горда адказаў я, працягваючы зацягвацца.

Ён пачаў здымаць рэмень. Я пабег. Ён дагнаў мяне, адхвастаў... А потым сядзелі на бервяне. Абняўшы мяне за плечы, супакойваў... Можа, таму з таго часу і не смалю.

Васіль Іванавіч браў мяне ў рэйсы па атрадах і брыгадам. Там я ўбачыў маладога камандзіра кавалерыйскай брыгады, дваццацігадовага Уладзіміра Андрэевіча Ціхамірава, Героя Савецкага Саюза. Убачыў вучоных, якіх выводзілі з Мінска для адпраўкі на Вялікую зямлю. Сустракаў былых ваеннапалонных, людзей розных нацыянальнасцей. Бачыў і славакаў, якія перайшлі на бок партызан. Гэта былі гарэзлівыя вясёлыя хлопцы. І калі пасля вайны мне сумесна з чэхаславацкімі калегамі даручылі напісаць сцэнарый фільма "Заўтра будзе позна" пра Яна Налепку, які рабіў спробу перавесці славацкі поўк на бок партызан, я з задавальненнем згадзіўся, бо знаў ад Жукава, што ў Васіля Іванавіча была тайная сустрэча з Налепкам.

Пры падрыхтоўцы "рэйкавай вайны" ў штаб часта прыходзілі камандзіры брыгад і атрадаў. Бачыў я Рамана Мачульскага, Кірылу Арлоўскага, які быў пакалечаны, жанчына карміла яго з лыжкі... Калі пачыналіся сакрэтныя перамовы, нехта з гасцей, было, казаў мне:

— Хлопчык, ідзі, паглядзі, якое надвор'е, ці зможа ноччу прыляцець самалёт.

Я выходзіў са штабнога будана, але было так крыўдна — не давяраюць!

Мудрасць Казлова выявілася ў тым, што на востраве Зыслаў, у найскладанейшых умовах, за кароткі тэрмін, быў збудаваны першы партызанскі аэрадром, які мог прымаць самалёты з Масквы. Гэтым аэрадромам карысталіся не толькі атрады і брыгады рэспублікі, але і палякі, прыбалты, украінцы, у тым ліку знакаміты Каўпак. Прылёты самалётаў былі святам для партызан. У радасным настроі на аэрадром прыязджалі заўчасна. Пачуўшы гул матораў, разжыгалі вогнішчы па схеме, пра якую дамаўляліся з Масквой загадзя. Побач знаходзіўся і ілжывы аэрадром, які немцы часта бамбілі... Самалёты прывозілі зброю, узрыўчатку, медыкаменты, газеты. Там я ўпершыню ўбачыў процітанкавыя ружжа — магчыма, самае патрэбнае тады партызанам... Інакш чым возьмеш танк, што рухаецца на цябе? Адвазілі на Вялікую зямлю раненых і дзяцей, сабраныя грошы, аблігацыі, золата. Усё гэта ішло на пабудову самалётаў для арміі.

Ляцець у Маскву я вельмі не хацеў — у партызан мне было больш цікава. Але Васіль Іванавіч настаяў:

— Анатоль, табе трэба вучыцца!

— Чытаць я ўмею!(Перад вайной я скончыў першы клас.)

Неяк з паездкі Васіль Іванавіч прывёз томік вершаў Янкі Купалы і перадаў мне:

— Чытай і вучыся.

Ці мог ён тады прадбачыць, што праз шмат гадоў ягоны ад'ютант будзе пісаць п'есы і сцэнарыі?

Пасля вайны я вучыўся ў Узденскай школе імя Пушкіна. Аднойчы ў мяне забалеў жывот, быў цяжкі стан... Мама патэлефанавала Васілю Іванавічу. Ён тут жа арганізаваў машыну з хірургамі. Мяне прааперыравалі.

Калі Казлоў быў Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, не гледзячы на вялізную занятасць, заўсёды знаходзіў час падумаць пра былых партызан, уладкоўваў іх на працу, дапамагаў, чым мог, паляпшаў жыллёвыя ўмовы. Аднойчы Жукоўскаму, быламу камандзіру атрада, які з вялікай сям'ёй месціўся ў маленькім пакойчыку, ён сказаў:

— Міхаіл, я буду хадайнічаць, каб табе выдзелілі большую кватэру.

— Не трэба, Васіль Іванавіч. Ёсць людзі, якія жывуць горш за мяне.

Хто сёння мог бы так адказаць? Да, гэта былі людзі асаблівага складу, усё рабілі для перамогі і нічога не патрабавалі для сябе.

Па нядзелях, калі быў студэнтам медыцынскага інстытута, я прыязджаў у Весялоўку, на лецішча Казловых. Там заўсёды была творчая эліта — артысты, пісьменнікі, мастакі, кампазітары... Сустракаючы мяне, Васіль Іванавіч цікавіўся:"Ну, ад'ютант, як справы?"

Падчас працы ўрачом я стаў пісаць апавяданні. Да гэтага ён, ужо цяжка хворы (гады, праведзеныя ў балотах не прайшлі незаўважна), паставіўся крытычна:"Лепш бы ўдасканальваў сябе ў медыцыне". Але ўбачыўшы па тэлебачанні ўрыўкі са спектаклю "Выклік багам", сказаў:"Малайчына!"

Васіль Іванавіч шмат увагі надзяляў адзінству партызанскага руху вобласці з мінскім падполлем. Яны былі цесна звязаныя, пішалі адзін аднаго. І сёння мала хто ведае, што адразу пасля вайны, у чэрвені 1945 года, Казлоў разам з Раманам Мачульскім звярнуліся да П. Панамарэнкі з прапановай прысвоіць Мінску званне горада-героя за бессмяротныя подзвігі падпольшчыкаў. Але тады гэта не прайшло. І толькі праз трыццаць гадоў, у 1974 годзе, іхняя ідэя была ажыццёўлена.

Не сумняваюся, што ўсё бачанае і перажытае ў гады вайны, дапамагло мне напісаць сцэнарый фільма "Анастасія Слуцкая".

**Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК,**
**драматург**

**РОДНЫ КУТ**

# Бярозавічам будзе 510 гадоў!

Добра мець ціхі куточак дзе-небудзь па-за межамі мітуслівага горада. Можна перыядычна збягаць туды ад штодзённых спраў, навакольнага бруду і шуму. Добра, калі пра цябе там заўсёды памятаюць і чакаюць...

У вёску Бярозавічы Пінскага раёна прыязджаем поначы. Навокал — сапраўдная ціша. Неба — зорнае-зорнае. Паветра — чыстае-чыстае. Бабуля не спіць. Сустракае румянымі пірагамі з сырадоем і апошнімі сельскімі навінамі.

Зусім нядаўна адбыўся «дзень вёскі». У 2005-м годзе Бярозавічам споўніцца 510 гадоў! Да юбілею чарговы раз падводзяць вынікі, аглядаюць багатую падзеямі гісторыю.

Упершыню вёска ўспамінаецца ў 1495 годзе ў "Пісцовай кнізе Пінскага і Клецкага княстваў 1552—1555 гг." пад назвай Паршавічы. Паводле легенды, пан быў незадаволены сялянамі, абзываў іх "паршывымі" працаўнікамі. У 1965 годзе месца атрымала сучасную назву Бярозавічы. Тут сапраўды безліч бялюткіх зграбных бярозак.

Цяпер у вёсцы размяшчаецца дырэкцыя саўгаса імя Кутузава, культурныя і гандлёвыя ўстановы: сярэдняя школа, дзіцячы садок, Дом культуры, бібліятэка, аддзяленне сувязі і «Беларусбанка». Бярозавічы — цэнтр сельсавета і цэнтральная сядзіба саўгаса, зямельны фонд якога 6380 га.

У 1878 годзе тут была пабудавана драўляная царква на аснове капліцы XVIII ст., узведзенай па фундацыі Івана Фраловіча. Бярозавіцкая Пакроўская царква з'яўляецца помнікам народнага драўлянага дойлідства.

Падчас Вялікай айчыннай вайны Бярозавічы панеслі вялікія людскія страты. Толькі 12 чалавек вярнуліся пераможцамі. З фронту яны прынеслі медалі і ордэны розных ступеняў, а таксама шматлікія ўспаміны, прасякнутыя болем перажытага. Вялікія пакуты адчуваюцца ў галасах апавядальнікаў. Аднак дзеці кожны раз з непадробным захапленнем слухаюць гісторыі пра мужных салдат і хітрых партызанаў.

Вёска ганарыцца сваімі землякамі. Многія дасягнулі значных поспехаў у розных галінах культуры, навукі, гаспадаркі. Заслужаны настаўнік Беларусі (1957г.) Андрэй Сцяпанавіч Якубчык сярод іх.

Шкада, што моладзь кідае гэты куток. Амаль няма каму старым перадаваць пяцівяковую гісторыю Бярозавіч і свой вялікі жыццёвы досвед...

**Аліна КРУШЫНСКАЯ**

# Чаму не гучыць і не прапагандуецца беларуская класічная музыка?

Вядома, што ў нашым горадзе існуе цэлы шэраг бібліятэк як дзіцячых, так і дарослых. Сярод іх ёсць нават спецыялізаваная бібліятэка для сляпых. Але мала хто ведае, што ў Мінску ў 1992 годзе была створана і вялізная музычная бібліятэка, фонд якой на сённяшні дзень налічвае... дзве тысячы дыскаў. Супрацоўнік Акадэміі музыкі Пятро Цюрыкаў трапіў сюды на працу выпадкова, але, бясспрэчна, гэта быў кліч ягонай няўрымслівай душы.

"Больш дзесяці гадоў таму тут не было ніводнага дыска, нават такога паняцця не існавала, — узгадвае ён. — З цягам часу адны дыскі я сам запісваў, іншыя наогул перапісваў нанова". На жаль, кафедра кампазіцыі Акадэміі музыкі звяртае слабую ўвагу на такую працу. У кансерваторыі ёсць апаратура высокага класа, але поўнасцю адсутнічае камплектаванасць абсталявання.

Разам з тым на разнастайных фестывалях і міжнародных конкурсах можна заўважыць: айчынныя студэнты выконваюць творы беларускіх кампазітараў не горш за заходніх лаўрэатаў. Так, Аляксандр Музыкантаў атрымаў перамогу на Міжнародным конкурсе па фартэпіяна. Больш таго, выступіў у ЗША з двума канцэртамі. Словам, вынік гаворыць сам за сябе: студэнты шчыра адданыя класічнай музыцы. "Таму я лічу, што праца студэнтаў павінна быць звязана з навуковым працэсам... Чаму ж тады ў кансерваторыі няма сваёй канцэртнай залы і поўнай студыі запісу, дзе было б усё неабходнае?", — разважае Пятро Пракоф'евіч. Зразумела ж, музыку трэба запісваць у спецыяльнай зале з выдатнай акустыкай. "Некалі я запытаўся ў загадчыка кафедры фартэпіяна: у якой краіне прафесар працуе са студэнтам без запісу музыкі? "У Беларусі", — з сумам зазначыў суразмоўца.

Даволі цікавыя абставіны складваюцца і вакол функцыяніравання музыкі. Так, Нацыянальнае радыё запісвае музыку сімфанічнага аркестра ці калектыву, але не выконвае яе. А філарманічныя калектывы выконваюць музыку, але не запісваюць. Пры гэтым радыё запісвае музыку, аднак не агучвае. Такім чынам, узнікае патрэба ў выдавецтве, якое б здолела звесці ўсё ў адзіную сістэму: калі музыка запісваецца, яна павінна выдавацца, прадавацца і рэкламавацца, як гэта робіцца на Захадзе.




Ні адзін музыкант у свеце не прыязджае на канцэрты без сваіх запісаў музыкі, паколькі ведае, што гэта здзек над слухачом, калі той не можа набыць патрэбны яму дыск...

На вялікі жаль, сёння ў сталічным магазіне (не кажучы пра астатнія) нельга набыць дыск ні беларускага кампазітара-класіка, ні сучасніка... Знайсці сімфонію, напрыклад, Багатырова — мэтра беларускай музыкі! — сказаць сорамна, наогул немагчыма. Каб разабрацца ў гэтым парадоксе, я правяла звычайны эксперымент на вуліцах горада: назвала некалькі імёнаў кампазітараў і папрасіла ўстанавіць іх асобу. Вынік апытання быў "фантастычным": пазналі толькі Багатырова, Бетховена, Моцарта і ягоны "Рэквіем" (памыліцца немагчыма, паколькі сярод шэрагу сімфоній гэты твор самы вядомы). Астатнія прозвішчы (іх было яшчэ нямала) апытваемыя аднеслі не да музычнай галіны. А тлумачыцца гэта досыць проста. Справа ў тым, што класічная музыка беларускіх кампазітараў не гучыць і наогул не прапагандуецца.

Нягледзячы на гэта, беларускай класічнай музыкай цікавяцца, і дыскі з яе запісамі выдаюцца на... Захадзе. Так, у Польшчы выйшаў дыск Галіны Гарэлавай. "Калі я запісаў яе канцэрт, мы з сябрамі слухалі і параўноўвалі музыку з Радрыга. Галіне было вельмі прыемна чуць такое, калі яна выпадкова зайшла да нас", — узгадвае Пятро Пракоф'евіч. У ягонай калекцыі можна знайсці і музыку Смольскага — сімфонію з электрагітарай і многія іншыя шэдэўры айчыннага музычнага мастацтва.

Дарэчы, лічбавы запіс канцэрта сімфанічнай музыкі — працэс складаны, паколькі класіцы ўласцівы пераход гука ад піяна да фортэ, што патрабуе высокага тэхнічнага ўзроўню. У папулярнай жа музыцы справа значна прасцей: выстаўляецца адзіны ўзровень, музыка грукоча і чалавек уцягваецца ў аднастайны рытм. Гэты працэс можна ўмоўна параўнаць з успрыманнем навакольнага асяроддзя вокам чалавека, калі замест цэлага малюнка ўспрымаецца толькі яго частка. А са з'яўленнем нейкай кропкі на небе, вока чалавека паварочваецца і пачынае яе "сканіраваць".

Такім чынам, падчас гучання папулярнай музыкі, мозг чалавека не ўспрымае яе якасці, паколькі ён адключаецца ад музыкі і пераключаецца на свой унутраны свет. У класічнай музыцы так не бывае, а звязана гэта з непастаяннасцю ці разнастайнасцю яе гучання. "Шмат што, канечне, залежыць ад ударніка, — разважае суразмоўца. — Падчас запісу канцэрта Праватарава, я адчуваў, як узрастала напружанне і як яно эмацыйна ўздзейнічала на струны чалавека. Класічная музыка — вельмі тонкая і далікатная. А каб пачуць гэта, варта не толькі добра выканаць твор, але і выдатна, на высокім прафесійным узроўні запісаць яго".

Акрамя таго, пры запісе сімфанічнага аркестра варта выдзеліць асобныя музычныя інструменты. Вуха чалавека, у адрозненне ад мікрафонаў, пастаўленых па-за аркестрам, можа ўлоўліваць флейту, габой ці арфу. Менавіта таму для запісу сімфанічнай музыкі патрэбна спецыяльная апаратура.

Вытворчасць класікі — вельмі дарагі працэс, таму і падаваць яе сапраўднаму аматару варта ў якасным выкананні; а не выцясняць таннай (па якасці выканання і афармлення) папулярнай музыкай. Нельга гаварыць пра тое, што класіка не падабаецца. Можа, як сцвярджае мой суразмоўца, не падабацца некаторае яе выкананне. Сведчаннем таму з'яўляецца, напрыклад, канцэрт Улады Беражной, які сабраў поўную залу. Таму, бясспрэчна, можна сцвярджаць: творы беларускіх кампазітараў маюць поспех. Іншая справа — чаго хоча чалавек ад музычнага свету. І, як правіла, патрабуе тое, чаго... няма. Дык вось: якраз беларускай класічнай музыкі на дысках у свеце і няма!

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА**

НЕАБЫЯКАВЫЯ НАТАТКІ

# Мост над пространню і крызіс ідэнтычнасці

Любая ідэя звернута ў будучыню; і яна ёсць мост паміж мінулым і будучым. Не патрэбна ідэя, якая не будуецца, не развіваецца ў дзень заўтрашні. Аднак, ніводная ідэя не фарміруецца без падмурка з мінулага, былога, хаця б — учарашняга...

У тым ліку і Беларуская Ідэя. Дакладней, нацыянальная — у першую чаргу; яна не можа існаваць без самасвядомасці, без спазнання народам таго, што ён уяўляў сабой на працягу развіцця сусветнай Гісторыі. Але ці разумеем гэта мы самі?

Дыскусіі на тэму: хто мы, беларусы? "...людзьмі звацца" — і т.п. заўжды вяліся ў крытычныя, пераломныя для нашай краіны, для яе культуры часы. Ці актуальнасцьназіраецца толькі за крок да непазбежнага?! Мусіць, так, — і ў гэтым беларускі (дадам: славянскі) фенамен.

На што і на якую будучыню зарыентаваная культура нашага народа, ці сфармулявана наогул сутнасць нацыянальнай культуры? Самым яркім сведчаннем толькі што праміналай эпохі была скіраванасць на пабудову сацыялізму; колькі грунтоўных лозунгаў, тэкстаў і праграм пісалася для нас і нашчадкаў. У тую эпоху нацыянальная ідэя не была патрэбна, яе падмянілі паняццямі (псеўда-)патрыятызм, (псеўда-)роўнасць, (псеўда-)братэрства... Хаця — парадокс — беларускага ў краіне было значна больш, чым сёння: на радыё, на тэлебачанні гучала больш-менш чыстая мова, у дзяржаўных выдавецтвах друкаваліся ўсе, хто талкова пісаў на роднай мове; праўда, не было беларускіх школ і ВНУ (аднак і сёння становішча не намнога лепшае. Праўда школ, хай няшмат, ды ёсць, а ВНУ пакуль няма). Нагадаю, што яшчэ класік рускай літаратуры В. Бялінскі сцвердзіў, што нацыянальная культура робіцца не ў школе, а ва універсітэце. І вось тут мы падышлі да першага пытання: ці можна сур'ёзна разважаць пра Беларускую Ідэю без нацыянальнай школы адукацыі і сваіх ВНУ такога ж кшталту, як старадаўні Полацкі універсітэт, вядомы ў свой час на ўсю Еўропу?

Аднак паспрабуем разважаць далей. Дзякуй вышэйшай сіле, але не знікла пакуль у людзей жаданне бачыць іншага чалавека ў больш ідэальным свеце; вось гэты ідэалізм з нас не вынішчылі. А, значыць, і пра асноўныя штрыхі нацыянальнай ідэі мы можам разважаць без прыземленага прагматызму, характэрнага большасці нацый. Праўда, ідэальных людзей з нас нібыта ўжо вырошчвалі. І таму на шляху да фармулявання, а потым здзяйснення Беларускай Ідэі мы павінны быць абачлівыя, каб не пачаць ізноў ператвараць рэальнае ў ірэальнае, сапраўдных людзей — у апасталічныя, выхалашчаныя прывіды. І, што не самае апошняе: нас ужо цікавіць дабрабыт; мы не хочам больш зняважлівага: "усё вакол калгаснае, усё вакол маё" ці: "адабраць у буржуяў і падзяліць па-брацку", або вось гэтага: "чалавек чалавеку — сябра, таварыш і брат"... Дык, значыцца, мы хочам зарабляць, хочам мець уласную маёмасць, хочам грошай? І верым, што пры гэтым захаваем духоўнасць! І тут вынікае іншае пытанне: а ці насамрэч мы вызначыліся, якая Беларусь — духоўная ці прагматычная — краіна?

Нюанс: пры гэтым, ствараючы грамадства будучага, трэба ведаць, як ставіцца наша краіна да глабалізацыі, — працэсу, што адбіваецца на ўсіх без выключэння. Як па мне, дык славутая амерыканская ідэя глабалізацыі — тупіковая; каму гэта ведаць, як не нам, грамадзянам былой савецкай краіны. Хіба мы не ішлі тым жа шляхам, толькі з іншымі лозунгамі? — да канчатковай перамогі сусветнай рэвалюцыі і — усіх пад адзін грэбень... Тыя прапанавалі глабалізацыю эканамічную, нашы кіраўнікі — глабалізацыю чалавечых рэсурсаў, а ў выніку ўсё тое ж самае... Уніфікацыя і фармаванне ўсеагульнай шэрасці, аднастайнай масы — гібель чалавецтва. Нараджаецца новае пытанне: ідэалогія уніфікацыі ці ідэалогія разнастайнасці будзе ўласцівая Беларускай Ідэі?

...Калі размаўляла на гэтую тэму з сябрамі, пачула і такое: нацыянальную ідэю нельга сфармуляваць як бы наноў, яна была сфармуляваная самім мінулым і ў яе толькі адна часавая прастора — тое, што было, было, было... Аднак, прымаць рэчаіснасць, павярнуўшыся тварам да мінулага, хіба гэта не... смерць? І ці не ёсць рэчаіснасць сінтэзам былога і будучага? І калі так, мы вярнуліся да моста, які злучае два супрацьлеглыя берагі, паміж якімі павінен жывіцца дух нацыі, падсілкоўвацца ўсё той жа нацыянальнай ідэяй. Калі ў чалавеку прачынаецца самасвядомасць, ягонае "я", разам з самасцю прачынаецца памяць продкаў.

І, можа быць, перш чым вызначыцца са шматпакутнай фармулёўкай Беларускай Ідэі, трэба вырашыць першачарговыя задачы. Як для мяне, дык самай першаснай з'яўляецца персаніфікацыя каштоўнасцей айчыннай культуры. І па гэтым шляху — свядома ці не — ідуць некаторыя нашыя пісьменнікі, абраўшы героямі сваіх твораў асобы значныя, гераічныя, вялікія. Слушна. Але як доўга гэтыя героі (якіх, на жаль, адзінкі) могуць быць прыкладам для нашых дзяцей, прыкладам, па якім яны будуць ствараць нацыянальны вобраз нашчадкаў? Героі з глыбіні часоў не могуць заставацца адны, гэта абмяжоўвае нацыю ў рамках прыналежнасці да іншых эпох. Патрэбны, як ніколі, героі сучасныя і, можа, нават... будучыя. Вось так ізноў узнікае важкае пытанне: хто ж тая персона, якая павінна ўяўляць сабой чалавека-носьбіта Беларускай Ідэі?

...Прывяду такі прыклад. Пасляваенная Японія апынулася пад амерыканцамі; на той час японская эканоміка была разбурана, самасвядомасць грамадства пасля такой ганебнай паразы ніякаватая... Амерыканцы паспрабавалі прышчапіць там свой менталітэт, нават патрабавалі, каб японцы прынялі лацінскі алфавіт. І тады палітычныя дзеячы краіны Узыходзячага Сонца сказалі свайму народу: зараз нам цяжка змагацца з наймагутнай амерыканскай машынай, адзінае, што мы ўсе павінны рабіць — змагацца за сваю мову, сваю пісьменнасць, сваю культуру. І калі прыхадням гэтага не ўдасца знішчыць, значыцца, рана ці позна нацыя ўваскрэсне. Як бачым, іхнія словы спраўдзіліся, у Японіі моцная і развітая эканоміка, яна мае сваё важкае палітычнае слова на міжнароднай арэне, і... краіна стала небяспечным супернікам тым жа амерыканцам у розных галінах. У свой час японцы зразумелі, што са стратай культуры нацыя робіцца хворай, быццам душэўная хвароба ахоплівае і кожнага чалавека, і ўвесь народ.

Тое ж можа адбыцца і з намі, калі мы страцім нацыянальную сутнасць. Не сфармуляваўшы Беларускую Ідэю, мы так і застанемся ў міжчассі, паміж мінулым і будучым, на мосце над пространню, у крызісе ідэнтычнасці... спознімся — і можам больш не пазнаць самых сябе.

**Вольга КУРТАНІЧ**

# Рэвізія, дэканструкцыя, сінтэз?..

Такое пытанне адразу ж напрошваецца пры чытанні новага рамана Андрэя Федарэнкі "Рэвізія", што быў надрукаваны на старонках часопіса "Полымя" ў пачатку гэтага года. У нашай прозе мала твораў, прысвечаных праблемам літаратурнай творчасці, творчасці ўвогуле. Мне асабіста ў ліку лепшых прыгадваюцца "Апокрыф", "Апавяданне аб іконніку і залатару" М. Багдановіча, "Святыя грэшнікі" Алеся Асіпенкі, "Да сустрэчы..." Віктара Казько. Андрэй Федарэнка звяртаецца да пытанняў актуальных і "вечных": пра вытокі творчасці, пра ўзаемаадносіны літаратурных пакаленняў, пра асаблівасці нацыянальнага пісьменства і яго ўспрыманне чытачом. Аўтар выкарыстоўвае характэрны для славеснага мастацтва нашага часу прыём разгортвання апавядання ў апавяданні, дакладней было б назваць, разгортвання тэксту аб жыццёвай плыні і тэксту як плыні свядомасці аднаго з персанажаў. У сюжэце рамана ёсць доля займальнасці, бо галоўны герой твора існуе як бы ў двух часавых вымярэннях: у канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя і ў пачатку XX стагоддзя.

Алесь Трухан — студэнт гістфака, аднак у выніку збегу жыццёвых абставін яго больш цікавіла літаратура, чым гісторыя. Трухан хворы, у вольны ад лячэння час ён шмат чытаў і асмеліўся напісаць раман пад назвай "Рэвізія". Чытанне свайго твора ён даверыў скандальна вядомаму паэту Ведрычу, але па іроніі лёсу першым з яго раманам пазнаёміўся прадстаўнік органаў дзяржбяспекі. Алесь прадчуваў рэакцыю на свой твор, у думках ён ўяўляў сабе магчымую размову з Ведрычам, ад імені паэта задаваў пытанні і адказваў на іх. "Два плюсы паставіць магу, — сказаў раптам Ведрыч, і Трухан не адразу зразумеў, што ўжо пераехалі да ягонага тэксту. — Першы — што шукаеш новых формаў, другі, што выбраў ракурс, які выключае гэтую гадкую стылізацыю.

Алесь Трухан шмат чытаў, кнігі для яго былі крыніцай ведаў пра свет. Напрыклад, "Ідыёт" Дастаеўскага для яго — свайго кшталту медыцынскі дапаможнік, бо Алесь адсочваў паводзіны хворых герояў і параўноўваў са сваімі, а пісаць стаў, каб "пазбавіцца ад гэтага наслання — ад другога свайго жыцця, скінуць з сябе гэты дурман, разгрузіцца хоць такім чынам — проста запісаўшы яго на паперы". Трухан — пачаткоўца, у яго біяграфія найлепшым чынам падыходзіць да класічнага творцы — сірата, адзінокі, да таго ж хворы. У Алеся склалася пэўнае ўяўленне пра масцітага творцу, да якога асабіста ён "не дацягваў". "У яго яшчэ са школьнай парты моцна засеў у мазгах стэрэатып пісьменніка "сапраўднага" — абавязкова мужчыны, высокага, мажнага, лысага або сівога, абавязкова ў касцюме з гальштукам ці ў тоўстым ваўняным світэры і акулярах". Алесь прывык да стэрэатыпаў, ён гадаваўся на іх, імі кіраваўся ў жыцці, але для сапраўднай творчасці яны не падыходзяць, падкрэслівае і "першым", і "другім", віртуальным жыццём Трухана аўтар.

А. Федарэнка знаёміць чытачоў з нядаўняй літаратурнай гісторыяй, калі паказвае адно з пасяджэнняў "Тутэйшых", хаця аўтар не называе прозвішчы літаратараў, аднак аматарам беларускага словы яны добра вядомыя. Алесь, як і маладыя літаратары, разумее абмежаванасць мастацкіх ідэй, мастацкага стылю старых. У адрозненне ад Ведрыча, які насміхаецца са "старых", не чытаўшы іх творы, Трухан някепска арыентуецца ў роднай літаратуры. Ведрыч асуджае эпігонства, сляпое капіраванне чужых думак і ідэй, калі здзекліва гаворыць Трухану: "А я вось не ведаю іхняй творчасці, але не адабраю. (...)

...Бо ведаю, што адгарну любую кнігу, і ў соты раз прачытаю, як у Замошшы, што каля Заполля, на ўзлеску Вастраверхай пушчы каля Мікіцішынага калодзежа, дзе Дзянісава палянка, Сёмкаў дуб, вячысты, рачысты, разложысты, спракавечны, караністы і гэ-дэ і да бясконцага тэ-пэ, раскінуўся гожа і высока, і шырока, і далёка. І Іванка помніць яшчэ тыя часы, калі быў малы і бацька саджаў яго на бухматы воз сена, які плыў пад дубам і каржакаватыя яго галіны чаплялі сена і збівалі з малога шапку... Пародыя, — патлумачыў Трухану Ведрыч. — А ты, мабыць, падумаў, што гэта пачатак якогась іх эпічнага палатна?"

Калі ў Трухановіча-Трухана з'яўляецца жаданне напісаць пра родныя мясціны, то ён баіцца паўтарыць ужо сказанае, чужое, бо талент пераўзысці складана, а стаць яшчэ адным пасрэдным празаікам не хочацца.

Алесь добра разумее недахопы так званай традыцыйнай літаратуры, але яго насцярожваюць і творы маладых аўтараў. Знаёмы студэнт гістфака ўзяў Трухана на пасяджэнне маладых літаратараў. Алесь адзначае пра сябе аднастайнасць тых твораў. "Падымаўся хлопец ці дзяўчына, чыталі верш ці абразок, у вершах, як правіла былі ўсё тыя ж "вoі" — "веі", "скрыдлы" — "дзіды", "Храм" — "хлам", у абразках — адзінота, непрыкаянасць, дождж за акном, цыгарэта ў руках і "парцаляваны" кубачак кавы". Для некаторых з прысутных галоўнае ў такіх творах, што яны тэматычна новыя. Чарнявы хлопец з прэзідыума адзначае, што "дзякаваць Богу, мы выбіраемся з лапцей, амаль знікла нарэшце ў творах вясковая тэма, не кажучы пра абрыдлую запечную псіхалогію старых дзядоў і бабуль, якія дзесяцігоддзямі не вылазілі з нашай літаратуры".

Алесь — чалавек сціплы, ён не прэтэндуе на славу, у пісьменніцкім званні не бачыць вялікага гонару, яму важна пазбавіцца свайго другога жыцця, сваіх хваравітых сноў, у якіх ён бачыць сябе катуржаным і параненым чырвонаармейцам, што вярнуўся дадому. А. Федарэнка ўмела сплятае ў адно матывы савецкай літаратуры і кінематографа на тэму вяртання дадому ўдзельніка грамадзянскай вайны і дае іх арыгінальную трактоўку. Алесь Трухан, ён жа Трухановіч, адчувае штучнасць свайго знаходжання пасля шпіталю ў вёсцы, у чужой сям'і, якую ён павінен прызнаць за родную. Мінулае бачыцца героем з пункту гледжання дня сённяшняга. Трухан і Трухановіч — адзін псіхалагічны тып. Трухан лічыць: "Кожны хай ведае сваё месца і займае толькі яго — згодна з прададзеным Лёсам — касірам плацкартным білетам". Трухановіч, яго літаратурны двайнік, баіцца актыўна дзейнічаць у мінулым, каб навек там не застацца, ён не ўпэўнены, што яго ўмяшанне ў гістарычную ходу падзей дапаможа чалавецтву, але не сумняваецца, што гэтае ўмяшанне пашкодзіць яму асабіста: ён можа банальна не нарадзіцца, бо бацькі яго не сустрэнуцца, калі змяніць звыклую схему гістарычнага працэсу. Трухан і Трухановіч — героі рэфлексійнага тыпу, а не рашучага дзеяння. Такі тып характару матывуецца аўтарам найперш абставінамі. У рамане ёсць красамоўны эпізод: Трухановіч-Трухан аглядае родныя мясціны і "пазнае" іх. Тым самым пісьменнік падкрэслівае славутую стабільнасць нашага жыцця: "Студня была амаль такая, як і ў ягоным будучым часе, з дубовым развілістым крукам-жураўлём, і стаяла на тым самым месцы — на перапутцы дарог у цэнтры вёскі... Маладая ліпа побач — ну, гэтая дажыве да ягонага часу... Непадалёку крыж, атрыбут кожнай палескай вёскі — таксама стары знаёмец, абвязаны вышыванымі ручнікамі, у загародак з усіх чатырох бакоў узяты..." Пра вёску канца стагоддзя Алесь Трухан гаворыць аднакурсніцы Нэлі: "Наша — цёмная, чарнобыльская, спітая, напаўразбураная, нічым, акрамя прыроды, не цікавая..."

Трухан на жыццё прывык глядзець праз прызму літаратурных твораў, ён іранічна згадвае і знакамітую Ганну, што завіхалася каля печы, кандрат-крапівінскую жабку, і лявон-бушмараўшчыну, і Сцепанідзіну бомбу, і шмат іншага. Гэта было звыкла Трухану, "начытанаму, напіханаму мастацкімі творамі. Але жыццё па-свойму расстаўляе акцэнты. Так, калі брат Мікалор сказаў пра сход, Трухановіч хацеў тут жа назваць яго павестку. "Часам не грэблю будаваць? — іранічна спытаў Трухановіч, маючы на ўвазе мастацкія творы пра дваццатыя-трыццатыя гады. Усе без выключэння раманы і аповесці заканчваліся там сходамі, пасля якіх шляхам сумеснай працы адбывалася зліццё індывідуумаў у адзіны арганізм. Тут жа, як высветлілася, хацелі пабудаваць агульны Сялянскі дом. Да такой павесткі дня Трухановіч не быў гатовы.

"Рэвізія" звяртаецца і да традыцыйнай для Федарэнкі тэмы лёсу роднага слова. Паэт Ведрыч іранічна называе беларусаў нацыяй пісьменнікаў, бо толькі яны на Беларусі гавораць па-беларуску. На дні нараджэння студэнткі гістфака Нэлі, якая спрабавала пісаць беларускамоўныя вершы, яе сваяк юрыст Ілля Ілліч абураецца тым, што адукаваныя людзі размаўляюць па-беларуску, ён ваяўніча не ведае і не хоча ведаць беларускую літаратуру, бо апрыёры пераканаfamы ў яе другаснасці. Трухан пытанне пра магчымасці беларускай культуры ў размове з Іллём Ілліч сціпла абыходзіць, а Ведрыч паводзіць сябе груба, нетактоўна, аднак дае зразумець, што беларуская літаратура не такая ўжо і бедная на думкі і ідэі. Ваяўнічае нежаданне чытаць творы беларускіх аўтараў, падкрэслівае Федарэнка, ідзе не толькі ад людзей, якія прынцыпова не чытаюць сваіх пісьменнікаў, але і тлумачыцца эпігонскім характарам творчасці многіх аўтараў, што з году ў год перапяваюць адны і тыя ж тэмы ды выкарыстоўваюць адны і тыя ж мастацкія прыёмы.

Андрэй Федарэнка, які мае ў айчынным пісьменстве ўстойлівую рэпутацыю традыцыяналіста, падкрэслівае згубнасць эпігонства пад любымі сцягамі. Літаратура мае вострую патрэбу ў арыгінальных мастацкіх ідэях. Раманам "Рэвізія" пісьменнік засведчыў сваю павагу да літаратурных традыцый і разам з тым жаданне перамен. "Рэвізія" — плён роздуму пісьменніка над лёсам прыгожага пісьменства, над прычынамі заняпаду цікавасці да айчыннай літаратуры, якая закансервавала традыцыю апісання, а не асэнсавання рэчаіснасці.

## Дзве думкі пра раман

Новы твор Федарэнкі даказвае, што беларуская літаратура не можа ў постмадэрнісцкай сітуацыі заставацца ў баку ад агульнага літаратурнага руху. Раман інтэртэкстуальны, насычаны цытатамі з твораў айчыннай славеснасці, напоўнены іранічнай ацэнкай зробленага папярэднікамі. У самім творы вылучаюцца два ўзроўні: для масавага чытача (падарожжа псіхалагічнага двайніка героя ў мінулае) і для літаратурнага гурмана (іранічнае асэнсаванне, дэканструкцыя сітуацый, вядомых па творах іншых аўтараў, і іх сінтэз для стварэння новага мастацкага цэлага). Андрэй Федарэнка ўдала дэбютаваў у канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, яго проза прываблівала чытача шчырасцю, злабадзённасцю, псіхалагізмам. У 90-я гады ў пісьменніка былі і творчыя ўзлёты і падзенні. Кан'юнктура рынку, калі ён можа быць у нашай літаратуры, прымушала звяртацца да знешняй займальнасці. Пэўнае расчараванне ў тых чытачоў, якія палюбілі "Гісторыю хваробы", "Смуту", "Вёску", "Нічые", не магла не выклікаць яго "калядная казка" "Афганская шкатулка", дзе назіраўся адыход Федарэнкі ад мастацкіх прынцыпаў псіхалагічнага пісьма на карысць знешняй займальнасці. "Рэвізія" рэабілітуе Федарэнку як "сур'ёзнага" пісьменніка. Знешняя займальнасць у рамане не з'яўляецца сэнсавызначальнай, тут акцэнтуецца змест. Рэаліст Федарэнка застаецца рэалістам нават тады, калі звяртаецца да элементаў паэтыкі постмадэрнізму, дасціпна сцвярджаючы гісторыяй героя, што жыццё — таленавіты і пасвойму мудры творца.

**Ванда БАРОЎКА**

# Прэзумпцыя




Айчынная фалькларыстыка мадэрнізуецца значна хутчэй, чым сам фальклор, і незраўнана імклівей, чымся таго фальклору носьбіты. Аўтэнтычнасць роднанароднай творчасці сёння напавер не прымаецца — яе вартасці ўзважваюцца на "тыпалагічных" шалях, педантычна абмерваецца яе "плошча" ў кантэксце... І ліхаманкавасць, з якою мы ўзводзім абарончыя вежы вакол свайго, сведчыць пра неадступнасць нашага страху паразы — перад чужым.

Зборнік "Фалькларыстычныя даследаванні: Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі", куды ўвайшлі артыкулы студэнтаў, аспірантаў, магістрантаў ды навукоўцаў-выкладчыкаў, выдадзены ў 2004 годзе пад эгідай кафедры тэорыі літаратуры Белдзяржуніверсітэта; уражвае ён якраз спалучэннем навуковай бесстароннасці і даследчыцкай страснасці, нетрадыцыйным — для выданняў падобнага кшталту — шлюбам ratio і emotio.

Структура і гіпатэтычны змест кнігі (што "прачыняецца" ў назвах тэкстаў), на першы погляд, абяцаюць "сакральнае" чытво для аднае з гуманітарных кастаў, што нават для большасці супляменнікаў паўстае тайнапісам. Так, пяты раздзел зборніка "Фальклор і гендэр" адкрываецца артыкулам Р. Кавалёвай "Тры псіхатыпы залётніка ў беларускіх песнях пра каханне і гендэр". Сп-ня Кавалёва (на мой погляд, сёння адзін з самых цікавых і прадуктыўных беларускіх фалькларыстаў), скарыстоўваючы ў якасці "матрыцы" даследаванні А. Афанасьева, імкнецца вызначыць "дамінуючы беларускі нацыянальны псіхатып, зыходзячы з асаблівасцей беларускага фальклору — люстэрка беларускага нацыянальнага характару". У выніку адбываецца своеасаблівая лагізацыя інтымна-пачуццёвай сферы; тое мае плёнам арыгінальны — этнапсіхалагічны — вектар фалькларыстычнага пошуку і... нараджае (калі прыгледзецца да назвы артыкула) сціплае жанравае ноў-хаў — "песні пра гендэр".

Дарэчы, жвавыя назвы некаторых тэкстаў відавочна дысануюць з акадэмічнымі "шыльдамі" рубрык ("Фальклор у кантэксце культуры", "Традыцыйныя жанры фальклору: Паэтыка. Семантыка", "Фальклор — літаратура — мова" і да т.п.) і падбадзёрваюць (а часам — агаломшваюць) чытачоў задзірлівым парадаксалізмам — трэба думаць, усвядомленым як эфектыўны "піяр" калі не самімі аўтарамі, дык, прынамсі, навуковымі рэдактарамі Р. Кавалёвай і В. Прыёмка. У артыкуле "Иной" мир в волшебной сказке и в Библии: сравнительный анализ" Г. Малахава абірае ў якасці аб'ектаў параўнання "такие формы изображения "иного" мира, как тридесятое царство в волшебной сказке и Новый Иерусалим в Библии". Студэнтка другога курса аддзялення рускай філалогіі БДУ вылучае шэраг крытэрыяў для параўнання гэтых "структур" (паводле агульнасці ўнутранай арганізацыі: "основания постройки; преобладающий цвет; дополнительный материал; система ограждения; ландшафт; условия попадания вовнутрь") — і ўмацоўвае іх такімі фундаментальнымі ілюстрацыямі, што трыумф фармалізму ў айчынным гуманітарным досведзе падаецца непазбежным і незваротным. Праўда, рацыяналізм маладзейшых даследчыкаў (гл., напрыклад, артыкулы С. Шамякінай "Сказочная категория красоты в свете данных современной науки", А. Саковіч "Вобразная сістэма прыказак і прымавак як элемент наіўнай (вылучана мною. — **І. Ш.**) карціны свету (жаночыя і мужчынскія вобразы ў беларускіх і сербскіх парэміях)") ураўнаважваецца дыдактычнаю страснасцю сталых навукоўцаў. Так, доктар філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай міфалогіі і лінгвістыкі БДУ І. Казакова ў тэксце "Фальклор і магія" ўзбройваецца рытарычным арсеналам "слова"-прапаведзі ("Вартыя жалю, бездапаможныя і напалоханыя ўрываемся мы ў жыццё, знясіленыя, спустошаныя, са страчанымі надзеямі пакідаем яго назаўсёды"), якое спакваля набывае гучанне трэнсу па магіі, што сталася ахвяраю матэрыялізму: "Значна паменшылася тэрыторыя магічнага царства. Усе экстрасенсорныя здольнасці чалавека страцілі свой чароўны арэол і перайшлі ў разрад з'яў, якім навука дала права на жыццё ў матэрыяльным свеце..."

Навука сёння насамрэч можа быць асэнсаваная як дыскурс міфалагічны; на гэта звяртае ўвагу і А. Боганева, разважаючы пра небяспеку "інтэрпрэтацыйнай дасціпнасці" вучонага ў дачыненні да тэкстаў традыцыйнай культуры, калі "на выхадзе" даследчык атрымлівае не закадзіраваныя сэнсы традыцыі, а сваю ўласную міфалогію" ("Сучаснае бытаванне народнай няказкавай прозы..."). З другога боку, усведамленне быцця як міфасферы вызваляе своеасаблівую пазнаваўчую энергію (у нашым выпадку — даследчыцкую), калі ў працэсе "будаўніцтва" свайго свету ўдакладняецца ўжо вядомае і "раптам" прасвятляецца раней непадступнае. У гэтым сэнсе высокаю ступенню "крэатыўнасці" вызначаюцца артыкулы

# Рэвізія часу і памяці, альбо Раман не для ўсіх

## Андрэя Федарэнкі “Рэвізія”

*«Літаратура — гэта ў першую чаргу грамадская рэвізія сумлення, гэта вандроўка са свету знешняга ў свет унутраны, гэта не толькі прызнанне свету ў любові, але яшчэ і сігнал аб дапамозе».*
**Юрый Бондараў.**

Літаратура — з'ява унікальная. Яе ствараюць дзеля ўласных амбіцый, непрыхаванага эгаізму, патрэбы застацца ў вечнасці. А можа, па-іншаму: дзеля жадання падзяліцца з кімсьці набалелым, грамадска важным або проста выказацца, пазбавіцца надакучлівых думак, зірнуць на жыццё «знутры». Так ці інакш, а магчымасці літаратуры вялікія. У ёй, нібы ў люстры, нават скажоным (для каго як), бачыцца Час, які ўтварае гісторыю. І чалавек, вывучаючы ўрокі мінулага, шукае ў ёй паратунку для будучыні, праводзіць рэвізію назапашанага, каб лічыць сябе яшчэ разумнейшым.

Часопіс «Полымя» ў №№ 1 — 2 за 2004 год знаёміць з даволі арыгінальнай спробай «звесці рахункі» з усім без выключэння: літаратурай розных перыядаў, «тутэйшымі» воямі, грамадскімі каштоўнасцямі, палітычнымі сістэмамі... Праз прызму пісьменніцкага вока ўзнаўляюцца плыні Часу. Адлаведна аўтарскай задуме і начытанасці. Бо задума — вартая: убачыць далёкае зблізку, прапусціць яго праз сучаснасць. Своеасаблівы рэмейк. Знаёмцеся: раман Андрэя Федарэнкі «Рэвізія».

Прызнаюся, пасля першых старонак сумна было невыносна. Не пакідала думка спыніцца, бо чытанне чамусь не ішло.

Пачынаецца твор з апісання гуллівага сходу ў Доме літаратара. На двары — 1989 год, галоснасць і перабудова. Са сцэны чуюцца гістарычныя вершы. У зале шмат незадаволеных. Дыскусіі, спрэчкі. Усё як мае быць. Нацыянальна-духоўнае адраджэнне не за гарамі. Жыццё пульсуе — і раўнадушным быць немагчыма (ганебна!). У новы час — з новымі «песнямі», тэмамі. Літаратурай. Абноўленай, чыстай душою, якая верыць у лепшае. Колькі разоў тое было ўжо ў гісторыі! Паўторымся зноў.

Сярод прысутных аўтар вылучае трох маладых людзей, за якімі, як вядома, будучыня — гэта Нэлі, іранічна-няўрымслівы паэт Ведрыч і хворы на гістарычна-літаратурную шызафрэнію празаік Трухан/Трухановіч. Усе — вялікія аматары Слова, любяць багемныя кампаніі, сур'ёзныя («кухонныя») спрэчкі-размовы пра лёс мовы і нацыі... Хто больш, хто менш.

Дзеянне рамана разгортваецца вакол асобы Алеся Трухана і ягонага твора пра мінулае, куды таго «занесла ветрам» гісторыі ў машыне часу і... памяці. Тыповы постмадэрновы прыём. Персанажу здаецца, што ён адначасова жыве ў двух вымярэннях: як Трухановіч у 20-х гадах і як Трухан на пачатку 90-х XX ст. Як такое можа быць? Вельмі проста, на тое гэта і літаратура, каб немагчымае зрабіць магчымым. Алесь-сучаснік піша раман пра Алеся «лапцюжнага» з дачарнобыльскага Палесся. Аказваецца, той удзельнічаў у імперыялістычнай вайне 1914 года, быў паранены, апынуўся ў шпіталі, дзе выявілася, што «памяць у яго... вывернутая... Пасля кантузіі яму здаецца, што ён не мінулае помніць, а... будучыню!» (г. зн. пачатак 90-х). І «жыў ён не раней, а пазней...» Таму зразумела, што Трухановіч пачынае направа і налева «плявузгаць» «контррэвалюцыйную ерась»: маўляў, «праз семдзесят гадоў камуністычныя ідэалы будуць пастаўлены пад сумненне, падвергнуцца перааццэнцы, пасля чаго і сама савецкая ўлада перастане існаваць». Ну хто, скажыце, палічыць такога чалавека нармальным, асабліва ў той, акрылены рэвалюцыйнай рамантыкай (ненармальны), час? Час суцэльнага «ружовага туману». Контрык, вораг, шпіён — і ўсё тут. Адзіны паратунак — кантузія. Так спакайней. Хай лічаць вар'ятам, юродзівым і г. д., бо «лепш быць хворым, адзінокім, кім заўгодна, любым выпадкам у сям'і, чым быць «як усе», мяшчанскай бязлікаю масай, чым растварэнне ў натоўпе, зліццё з ім— небыццё...»

Творчы чалавек быць «як усе» не можа, гэта супярэчыць яго першапачаткова закладзенай сутнасці. Ён усё падвяргае сумненню, аналізу, шукае прычыны і сэнс, таму філасофска-абломаўскія развагі Трухановіча ўяўляюцца цалкам заканамернымі: «... у гэтым жыцці сам чорт нічога не разбярэ. Настолькі яно ірэальнае, незразумелае, нелагічнае, што міжволі пацягне схавацца ад яго — хоць у бальніцы ці ў шпіталі, хоць пад коўдрай з галавою, хоць між старонак «Ідыёта»... А сама лепш «у снах», у творчасці, дзе ўсё табе паддуладна, усё зразумела, дзе адным чароўным дотыкам пяра можна атрымаць усё, што пажадаеш, усё, чаго пазбаўлены тут, у гэтак званым жыцці «рэальным»...» Ох жа, хлопцы, і любім мы валяцца на ложках ды канапках і ўяўляць невядома што, будуючы «паветраныя замкі»! Так і эканоміку глядзіш узнімеш, не ўстаючы, як той Іван, з печы, — абы фантазіі хапіла.

Не і яшчэ раз не! Ад жыцця хаваюцца толькі слабыя. Няўжо мы такія? Іншая справа, што пісьменнікі не здольныя супрацьстаяць абставінам, бо ўвесь час недзе «лётаюць». А справа стаіць — летуценнямі воз з балота не выцягнеш...

Канечне, «пакрыўджаным лёсам» хочацца, каб іх шкадавалі. Але гэта ўжо невыносна! За што шкадаваць, скажам, Трухановіча? За тое, быццам не ён, а лёс абраў яго, зрабіў ахвярай, пісьменнікам-мысляром урэшце? Дык што з таго? Плакацца заўжды прасцей, чым займацца карпатлівай штодзённай асветніцкай працай...

Усё! Хопіць спрадвечных стогнаў аб долі! Далей па сюжэце.

Трухан знаёміцца з Іванам Паўлавічам, які праяўляе чытацкі інтарэс да незакончанага яшчэ твора. Усё б нічога, калі б другі не быў супрацоўнікам «органаў», што па абавязку службы вымушаны разбірацца ў тонкасцях літаратурнага рамяства (каб не здарылася чаго «падрыўнога»). Цікава супаставіць «светапоглядныя» пазіцыі службіста і Ведрыча. Першы: «... дзіўная рэч: што для вялікай, развітай літаратуры дапушчальна, натуральна, у пэўнай ступені нават другасна, тое для літаратур малых народаў — адкрыццё, знаходка, крамола, анты- і контра!» Другі: трэба «пісаць ці хоць бы старацца пісаць так, каб не прыняла ніводная афіцыйная рэдакцыя. Бо гэта не твор, калі яму аўтаматычнае зялёнае святло нават не на скрыжаваннях, а на роўнай вуліцы. Сапраўдны твор павінен парасткам падняць над сабою глыбу бетону, прабіцца, узмужаць...» Па-мойму, ні адняць, ні дадаць. А вось прычыну гэтаму, думаецца, пашукаць варта. У ідэале мастацкі твор самадастатковы і належыць да сферы творчасці, якая па-за палітычнай ангажаванасцю, ідэалагічнай кан'юнктурай і г. д. На першым плане — чалавек, яго праблемы, здольнасць супрацьстаяць абставінам. Гуманізм, пра які ўжо амаль забылі. Таму і ацэньваць твор варта з гэтых (агульначалавечых) пазіцый, а не па штучных мерках пэўных суб'ектыўных схільнасцей і аднабаковай зададзенасці. Магчыма, я пакутую ад празмернага кансерватызму і ў нечым магу памыляцца. Што паробіш — чалавечая натура недасканалая.

Некаторыя выказванні федарэнкаўскіх персанажаў гучаць як афарызмы: «Усё нашае жыццё адзін доўгі сон, а тым больш творчасць, гэта — падвойны сон, сон у сне...»

«Пісьменнік павінен быць з прэтэнзіямі» (толькі здаровымі, рэальна апраўданымі, дадам ад сябе).

«Літаратура — эгаізм, узяты ў рамку стылю».

Тут жа згадваецца С. Кінг: «... іменна з-за эгаізму нараджаюцца многія кнігі».

Чым заканчвае А. Федарэнка сваю «Рэвізію»? Нічым. Персанажы пахадзілі па старонках рамана, пагаварылі, падумалі аб вечным і... Давесці падзейна-ўмоўную лінію ў такім творы да канца складана. Увесь час рызыкуеш заблытацца. Не дзіва — звядзі два вымярэнні, змадэлюй будучыню (нават пры бязмежнай фантазіі). Але Трухана будучыня не цікавіць, ён чакае аперацыі, якая паставіць кропку ў ягоных непрыкаяных блуканнях па сутарэннях Часу, памяці і гісторыі: «... там [у будучыні] усё тое ж будзе: нараджэнне і старэнне, радасці і пакуты, Злучкі і здрады... І так да скону вякоў. Мінулае можна зафіксаваць, яго можна помніць, уцякаць у яго, жыць ім, ратавацца ім... А ў будучыню як уцячэш? Як яе зафіксуеш? Адтуль, як з таго свету, не вяртаюцца... будучыня — тое, чаго няма, гэта небыццё, гэта сінонім смерці. Альбо індывідуальнай — ад старасці, хваробы, няшчаснага выпадку, альбо масавай, агульнай — ад ядзернага выбуху, чарговага ледніка, цеплавога эфекту, астывання зямлі... матэрыяльныя «заваёвы» нагадваюць убогія казкі... камунізм... калі кожнаму будзе бясплатны трохкалёсны веласіпед. Тэхнічныя заваёвы будучага — той жа веласіпед!»

Нягледзячы на гэта, чалавек усё роўна нястомна яго вышуквае. Ніколі не бывае задаволеных сучаснасцю. Хочацца марыць аб лепшым, на нешта спадзявацца ў недасяжнай будучыні. Нават калі новае стагоддзе ў чарговы раз прад'яўляе старыя «рэцэпты» нашага існавання.

Літаратура як выйсце не падыходзіць. Бо адчуванне «абранасці» сярод людзей пазбаўлена сэнсу. Перад будучыняй усе роўныя. А творчасць — толькі сон, які адцягвае расплату за жыццё. Напісаў і задумаўся: «Не так смерць — прадчуванне яе, падрыхтоўка да яе, набліжэнне яе» палохае нас, «як раптоўна зваленае на галаву жыццё». Калі ўжо «столькі патрачана сілы, энергіі, духоўнага запасу», «дзе браць дадатковыя рэзервы? Як гэтую дыстанцыю адужаць?!» (Нібыта папярэднікам нашым лягчэй было!)

І вось парада: трэба прачынацца і жыць, «толькі не жыццём «выбранніка», не носьбітам нейкай высокай тайны ў душы, а звычайна — існаваць. Рабіцца як усе». Дык дзеля гэтых, здаўна вядомых, заключных слоў варта было пісаць гэтулькі старонак?! Ісці, ісці і раптам — стоп: а пайшло яно! І жыць як набяжыць, саграваючы недзе ўпотайкі ўспаміны аб тым, што пісаў жа некалі, халера!.. І горка ўздыхаць, што, апрача гэтага занятку, нічога ў жыцці так больш і не займеў...

Трэба прызнацца, што падобныя фантазіі на літаратурную тэму створаны на аматара, «пішучага брата». Масаваму чытачу гэтыя «завумныя» роздумы-абстракцыі нецікавыя. Тым больш што твор патрабуе ўсё ж пэўнай літаратурнай дасведчанасці: скажам, згадкі М. Гарэцкага, паралелі з мележаўскай «Палескай хронікай», іншыя «алюзіі» і супастаўленні з класікай шараговаму чалавеку малазразумелыя. Ды і што насамрэч хаваецца за знешняй сюжэтнай абалонкай рамана? Спроба перааценіць створанае, пройдзены шлях, закрануць экалагічныя, філасофскія, грамадскія праблемы? Альбо паказаць пераемнасць гістарычнага вопыту? Твор поліфанічны. І кожны знойдзе і ўбачыць у ім найбольш блізкае свайму Я. Рэвізія пражытых гадоў і ўласных каштоўнасцей адбудзецца ў любым выпадку. І толькі ад нас залежыць, колькі бараxла (у тым ліку і літаратурнага) акажацца на паверхні бязмежнага акіяну Часу. Каб не атрымалася, як у вядомым выказванні Леніна: «писатели пописывают, читатели почитывают»...

Напрыканцы дадам некалькі слоў да мовы рамана. Часам некаторыя выразы не пазбаўлены «арыгінальнага» падтэксту: «схаваць галаву між каленяў» (гэта як?), «уваходзіў» у яе хоць такім чынам» (якім дакладна?). Сярод наступных «ляпаў» —непаслядоўнае ўжыванне «ў», патрэбных знакаў прыпынку.

А тут яшчэ і прыкрая нестыкоўка з... камарамі. У адным месцы Трухановіч едзе восеньскай парою па дарозе, і аўтар зазначае: «Паявіліся і зазвінелі камары». А ў другім: « — Добра восенню... Камароў няма».

Даволі «прыкольна» выглядаюць і пісьменніцкія кепікі з жанчын: маўляў, хоць яны, паводле грэкаў, і сасуд з паскудствам, але та-а-а-кім прывабным...

Будзем лічыць, што на гэтай «аптымістычнай ноце» мая «рэвізія» федарэнкаўскага рамана скончана.

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**

---

# самабытнасці

Дз. Гарбачовай "Выслоўі як матэрыял для рэканструкцыі беларускай міфалагічнай сістэмы" (аўтар, аглядаючы наяўную функцыянальную класіфікацыю выслоўяў, даводзіць мэтазгоднасць увядзення дадатковых крытэрыяў) і Т. Зарэмбы "Фальклярызм загаловачных комплексаў у творчасці М. Багдановіча і А. Разанава" (тут шчыльнасць тэрміналагічных "аказіяналізмаў" — "фальклярэма", "аўтарэма" па аналогіі з "міфалагемай" — здольная прысарамаціць любога (неа)футурыста з ягонай моватворчаю жарсцю). Між тым, каштоўнасць некаторых іншых артыкулаў зборніка таксама звязаная са стваральнасцю адмысловага кшталту; яна вынікае не з інтэлектуальных сполахаў-азарэнняў, але з карпатлівага збіральніцтва, змагання з "эмпірыкай". Інача́й кажучы, калі ў першым выпадку памянёная крэатыўнасць дасягаецца дэдуктыўна, дык у другім выпадку яна ёсць плёнам індукцыі. Сапраўды ўражваюць разнастайнасцю фактаграфіі і спосабамі яе сістэматызацыі артыкулы В. Новак ("Чорт і ведзьма ў міфалагічнай традыцыі Гомельшчыны"), В. Прыёмка ("Жартоўныя песні беларускага вяселля"), С. Вяргеенка ("Замоўная традыцыя Гомельшчыны (адметнае ў сюжэтах)", А. Кучаравай ("Традыцыйнае і сучаснае ў дзіцячым светаўспрыманні"), К. Варанцовай ("Моделирование картины мира в творческих работах школьников"). Аўтар апошняга тэксту, насычанага цікавымі матэрыяламі "палявых" доследаў, "прагаворвае" выснову наконт таго, што арыгінальная форма папулярызацыі міфалогіі і фальклору нейтралізуе рэакцыю іх непрымання з боку моладзі; на жаль, агульнавядомасць згаданай ісціны ніяк не спрыяе яе ўрэчаўленню. Зрэшты, як паказвае найноўшая гісторыя, самых вялікіх ахвяраў ды высілкаў вымагае "стварэнне" таго, чаго стварыць якім заўгодна маштабным намаганнем (духу, соцыуму, дзяржавы) апрыёры немагчыма. "...нацыянальная ідэя штучна не выпрацоўваецца. Яна арганічна фарміруецца сама з жыццядзейнасці народа. Але яе арганічнаму фарміраванню зноў-такі перашкаджае шэраг сучасных міфаў, праз якія не прабіцца, кажучы фігуральна, багіне Жыве, інакш кажучы, нацыянальнай традыцыі", — не стамляецца даводзіць відавочныя для ўсіх (акрамя непасрэдных "рэцыпіентаў") рэчы Т. Шамякіна, якая свядома надае свайму артыкулу "Жыва ў сучаснай сацыяльнай прасторы" палемічны характар, маючы не столькі міфатворчыя, колькі "дэструктыўныя" намеры "развянчання некаторых сацыяльна-палітычных і навуковых міфаў". (У пэўным сэнсе, падобная "разбуральнасць" аказваецца больш канструктыўнаю, чым шал "дэміургічнасці").

Аднак у асобных выпадках простая дэкларацыя літаратуразнаўчых "топасаў" дыскрэдытуе даволі слушныя ідэі. Так, В. Гарністава ў якасці ілюстрацыі для назірання над "Трансфармацыяй фальклорных традыцый у кантэксце постмадэрнісцкай рэальнасці" абірае раман Ул. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", напісаны ў 1966 (!) годзе. Калі напачатку даследчык падаецца проста "рызыкантам", змушаным мірыцца з суровасцю аб'ектыўнай рэальнасці ("Аўтар абранага намі рамана ніколі не быў семіётыкам або тэарэтыкам постмадэрнізму. Ён быў проста таленавітым пісьменнікам і інтуітыўна адчуваў патрабаванні эпохі"), дык кульмінацыя артыкула ўганароўвае аўтара цернямі "навуковага фантаста": "Фальклорныя традыцыі ў рамане У. Караткевіча задзейнічаны ва ўсіх постмадэрнісцкіх прыёмах. Побач з калажам вельмі шырока ў рамане прадстаўлены прынцып карнавалізацыі".

Назва тэксту А. Каляды — "Генезіс, семантыка, кантэкст экзатычных вобразаў у беларускім фальклоры" — вабіць і грунтоўнасцю фармулёўкі, і маштабнасцю задумы. На жаль, множны лік аказваецца тут яўнай гіпербалай, бо абяцаная разнастайнасць "экзатычных вобразаў" мінімалізуецца ў вобразе паўліна/павы (зазначу, аднак, што гэтая "персона" прадстаўленая даследчыкам надзвычай аб'ёмна).

Між тым, "Фальклярыстычныя даследаванні" нагадваюць і пра звілістасць шляхоў навукі, якая можа стацца лёсам для некалькіх пакаленняў адной сям'і. П. Саламевіч, студэнт другога курса аддзялення славянскай філалогіі БДУ, прысвячае свой тэкст бытаванню і асаблівасцям выканання песні "Пасею агурочкі", запісанай ім ад дзеда, вядомага літаратуразнаўцы Янкі Саламевіча. Іван Уладзіміравіч яшчэ ў гады майго студэнцтва бліскуча даводзіў, што повязь тэорыі і практыкі гарантуецца творчаю натураю самога выкладчыка, а не міністэрскімі інструкцыямі: лекцыі па фальклоры, што ён чытаў на філфаку БДУ напачатку 1990-х, насамрэч былі песнясловамі, як цяпер згадваецца — інтэрактыўнымі.

Скамянелае, здавалася б, паняцце пераемнасці пакаленняў (навуковых, дый літаратурных) у зборніку "Фальклярытычныя даследаванні" пераўтвараецца з "гуку" ў "новую рэчыўнасць", дзе страснасць муруецца інтэлектам, а рацыянальнае напітваецца сокамі пачуццёвасці... Выбуховая ідылія.

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**


Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

## Імя

*Праз гоні мілыя здаля*
*Глядзіць радзімая зямля,*
*Дзе ты глядзеўся у нябёсы*
*І ў рэчку з возерам змалья.*

*Туды вядзе дарогі ніць,*
*Там мова родная шчыміць...*
*Табе там некалі давалі*
*Імя, што гожа так звініць...*

*Нясі, як сцяг, сваё імя,*
*Нясі, як крыж, сваё імя,*
*Хоць часам сіл ісці няма*
*І дзьме ў душу парой зіма...*

*Там за цябе стаіць гарой*
*Пагорак кожны, як герой,*
*І за цябе там лес — сцяной*
*Не пастаіць ён за цаной!*
*І там ёсць дом, дзе сцены, столь,*
*Парог, падлога, печ і стол*
*Табе гатовы памагчы*
*Тваё імя аберагчы...*

*На свет, дзе храм ёсць і турма,*
*Прыйшоў ты, пэўна ж, нездарма...*
*Нясі, як крыж, сваё імя,*
*Нясі, як сцяг, сваё імя...*

## Вечны вандроўнік

**Памяці Я. Драздовіча**

*Пад сонцам*
*І пад Шляхам Млечным*
*Дарога сцелецца радном.*
*Няспешна йдзе*
*Вандроўнік вечны*
*Мастак, паэт і астраном.*

*Старонкі роднай краявіды*
*Так западаюць у душу, —*
*Ў яго малюнках сакавітых*
*Дубрсў з гаямі чуцен шум...*

*Як знахар той збірае зёлкі,*
*Фальклор збірае ён для нас,*
*Каб не згасалі ў нас вясёлкі*
*І адступаўся змрочны час...*

*Хоць і яму парой трывожна,*
*Калі звер-вецер аж раве...*
*Ідзе наш слаўны падарожнік,*
*Жыццё складаючы, як верш.*

*Гудуць здарожаныя ногі*
*І посах стомлены гудзе...*
*...Вандроўнік вечны*
*Шляхам Млечным*
*Ў стагоддзі новыя*
*Ідзе...*

## Суніцы маленства

*Мне то ўспомніцца,*
*То прысніцца:*
*Я, маленькі, збіраю суніцы, —*
*У кашульцы*
*Адзін*
*Збег з хаты,*
*Не сказаўшы маме і тату.*
*Ля магільніку,*
*Што на ўзлеску,*
*Самі ў рукі суніцы лезуць.*
*Гэта лес мяне так частуе,*
*Гэта лета мяне пястуе.*
*Мне чатыры ішчэ будзе толькі,*
*А, глядзі, які самастойны!*
*Тут і ўбачыла мяне мама,*
*Да касцёла йдучы,*
*Нямала*
*Была здзіўлена:*
*— Мой сыночак!*
*Як ты ў лесе адзін, мой хлопчык?!*
*Ды крычаць на мяне не стала,*
*А суніц мне яшчэ набрала...*
*Тыя сонечныя суніцы*
*Будуць помніцца мне*
*І сніцца.*
*Тых суніц саладзей*
*На свеце*
*Не знайсці*
*Покуль сонца мне свеціць...*

## Часцей ты стукайся...

*Чым сумны, радасны не меней,*
*Ад'ехаў ты ў вялікі свет.*
*Як адганяючы сумненне,*
*Рукой махала мама ўслед.*

*"Знайшоў не болей ты, чым страціў" —*
*Сумленне голас падае, —*
*"Часцей ты стукайся да маці*
*Як быў пад сэрцам у яе".*

*Што да парога дарагога*
*Цябе дарога прывядзе,*
*Матуля, як цябе малога,*
*Надзею туліць да грудзей.*

*Ад слёз парою не ўтрымацца, —*
*Журба ў табе гняздзечка ўе:*
*Часцей ты стукайся да маці*
*Як быў пад сэрцам у яе.*

*Спазнаў нямала шчасця, толькі*
*Не меней зведаў і пакут.*
*Да каранёў і да вытокаў*
*Вярнуўся ты ў свой родны кут.*

*А ў родным доме, ў роднай хаце*
*Душа і плача, і пяе:*
*Часцей ты стукайся да маці*
*Як быў пад сэрцам у яе.*


Валеры БАРТАШЭВІЧ

## Курапаты

*Да занападу і дэградацыі*
*застаўся крок —*
*У Курапатах вясной манкурты*
*збіраюць сок...*
*І "некрафілы" шукаюць штосьці*
*сярод касцей,*
*А "вурдалакі" частуюць сокам*
*сваіх гасцей.*
*Там па ахвярах бярозы плачуць*
*вясновым днём,*
*А ўвосень лісцем сухім жалосяць,*
*гараць агнём.*
*Ды што тут зробіш*
*з менталітэтам такіх людзей,*
*Не паўшчуваеш ты іх,*
*не ўстрашыш*
*ні ўноч, ні ўдзень,*
*Ні Бог, ні д'ябал іх не пужае —*
*няма крыжа...*
*Няўжо між імі і родным Краем*
*лягла мяжа?..*

* * *

*Мне ўчора пазваніў Паэт.*
*Гэта была неспадзяванка*
*І я не мог заснуць*
*да ранку —*
*Са мною ж размаўляў Паэт!*
*Няўжо ў быцці будзённа-шэрым*
*Надзея расчыніла дзверы —*
*Гукнуць хацеў я на ўвесь свет:*
*"Не ўсё яшчэ, сябры,*
*так дрэнна".*
*І веру я, што недарэмна*
*Са мною размаўляў Паэт...*

## Канец зімы

*Валюе па лясах апошняя завея,*
*Апошні снег з палёў сыходзіць*
*пакрысе,*
*Апошняя зіма, апошняя надзея,*
*Што надышоўшы век збавенне*
*прынясе.*
*Узыдзе сонца круг над здубянелым*
*краем,*
*З палёгкай уздыхне, прачнуўшыся,*
*ралля*
*І крык буслоў з нябёс нам раптам*
*нагадае*
*Што Беларусь жыве,*
*пакуль жыве зямля!*

Уладзімір РУЛЬ

## САНЕТ

*Здабыткам найдаўнейшых дзён,*
*Надзвычай велічным, багатым,*
*(Які дайшоў да нас без страты)*
*Стаў роднай мовы гожы плён.*

*Яна мяне ўзяла ў палон,*
*Ператварыла будні ў святы,*
*Не вымагаючы аплаты*
*За мілагучны срэбны звон.*

*Сваёй нябеснай чысцінёй*
*І натуральнасцю сваёй*
*Яна агучаная ў свеце.*
*Хто ж скажа мне: з якой бяды*
*Яе мядовых слоў суквецці*
*Ў нас ціха блякнуць*
*праз гады?..*




Валянціна ГАРНІСТАВА

* * *

*Як ведаем, было спачатку Слова.*
*Смяецца ў вочы завіруха злая.*
*Маленькая іржавая падкова*
*Фартуну вераломную трымае.*
*Другая Аляўціна Карзянкова*
*Сур'ёзна з фотаздымка пазірае.*
*Прыгожая — куды там Моне Лізе!*

*Яна — сапраўдны прафесіянал,*
*Яна прывычна ходзіць па карнізе,*
*Вось толькі, праўда, слухае метал.*
*Анёл не ўсіх страхуе ад падзення,*
*Бо жыць, магчыма,*
*трэба без прыкрас...*
*У шафе карнавальнае адзенне*
*Чакае, што яго надыдзе час.*
*Вісіць крывое люстра ў калідоры.*
*Хаваецца спалохана адбітак.*
*І вось ужо другая Айседора*
*Ідзе да прывакзальных варажбітак.*
*Смяецца новы ідал з манітора,*
*Трымаючы клубок нябачных нітак.*
*...Схавала ноч кудысь сваіх хімер.*
*Ляціць праз час упартая планета.*
*І беларус — Гіём Апалінэр —*
*Глядзіць у вечнасць*
*са свайго партрэта.*

* * *

*Асколак шэрага неба*
*Трымаю. І кроў скрозь пальцы.*
*Палаюць апошнія крылы.*
*Навошта мне гэта трэба —*
*Хавацца кудысь, як зайцу,*
*Згубіўшы апошнія сілы?..*

*Гляджуся ў шэрае мора,*
*Збіраю ў далоні гальку —*
*Варганю з яе альбатросаў.*
*І топіцца ў моры гора:*
*Яно — чэмпіён па чарках!*
*А скалы чагосьці просяць...*

*Бягу праз шэрыя травы,*
*Шукаю апошні вецер*
*І мераю шчасце жменяй.*
*Галовы — бутэлькі тары*
*На пункт прыёму аднесці,*
*Хаваючы грошы ў кішэню...*

* * *

*Імчыць між пальцамі дарога.*
*Архівы памяці палаюць.*
*Між слоў пытальнікі блукаюць.*
*Хвіліны ў вечнасці знікаюць.*
*А я чакаю —*
*доўга-доўга...*

*Зайсёды першай,*
*як Гагарын,*
*Жахліва цяжка быць —*
*павер!*
*І вось, сляпая, як Гамер,*
*Сяджу, нібы загнаны звер —*
*Мне засталіся толькі мары...*

* * *

*Бяздоннае заўтра,*
*Забытае ўчора.*
*Нічыйная праўда*
*Співаецца з гора.*

*У будучым дзверца —*
*Пустыя лісты.*
*І дзесьці — у сэрцы —*
*Разводзяць масты.*

Ніна Парчук

## ДАЗВОЛЬЦЕ ДУМАЦЬ МНЕ ПРА ВАС

*У ціхі вечар, позні час*
*І ўдзень маркотнае самоты*
*Я разбаўляю адзіноты,*
*Калі падумаю пра Вас.*

*Прыязны позірк кожны раз*
*Мяне дагэтуль шчэ хвалюе,*
*Ад горкай роспачы ўрачуе,*
*Калі успомніцца пра Вас.*

*Хоць не было ані між нас —*
*Адно таемнае маўчанне,*
*Усмешак светлых дакрананне...*
*Мне не забыць ніколі Вас.*

*Другіх не ведаю акрас —*
*Жыццё запоўненае скрухай.*
*Ды што мне тая завіруха,*
*Калі я думаю пра Вас!*

*У ціхі вечар, позні час*
*І ўдзень маркотнае самоты,*
*Каб не забыцца той пяшчоты,*
*Дазвольце думаць мне пра Вас.*

# Аб чым іграе піяніст...

**(Старонкі з аповесці)**

Анатоль РАЗАНОВІЧ



Ён іграў пра каханне. Толькі вось пра былое ці будучае — Андрэй не ведаў. І ведаць у гэтыя хвіліны не хацеў. Падлёршы далонню шырокі лоб, уздыбіўшы цёмныя, віхрастыя валасы, у якіх ужо прыкметна пракідалася сівізна, ён слухаў музыку, у гуках якой спляталіся чаканні і стрэчы, абдымкі і прызнанні ў каханні, нечаканыя сваркі і надзеі, крыўды і дараванні...

Музыка, то спакойная і плаўная, то выбуховая і вірлівая, сцінала душу, вырывала яе з грудзей, спрабавала знесці кудысь далёка-далёка, і зноў вяртала назад, у тленнае цела, быццам кажучы, што яна служыць чалавеку, але не заўжды падуладная яго жаданням і летуценням. Нават самым запаветным, ужо амаль спраўджаным.

Прымружыўшы зашчаныя вільготнай павалокай зеленаватыя вочы, Андрэй слухаў захапляючую музыку з такою асалодаю і цікавасцю, што яго ахоплівала прага ўзляцець. Усё роўна як, на чым, але узляцець... І раптам ён услухоўваўся ў гукі лунаючай мелодыі з якойсьці разгубленасцю і няўцямнай, амаль адчайнай тугою, безвыходнасцю, нібы пад ім пачала раз'язджацца падлога, стала зеўраць і расці бяздонная, чорная яма, у якую вось-вось праваляцца ўсе і ўсё.

Андрэй слухаў доўга. Наколькі доўга — не ведаў: час неяк неўпрыкмет растварыўся і перастаў існаваць. Ён сядзеў за столікам на самоце і нязрушна. А перад ім паціху астывала амаль нечапаная ў кубачку кава, скручвалася і рассыпалася ў попельніцы памалу тлелая цыгарэта, за вялікімі рэстараннымі вокнамі, на ўзбярэжнай, задуменна стаялі тры мажныя чыгунныя статуі-бабы. Яны мясціліся проста перад уваходам у старую, з цёмна-чырвонай цэглы, пошту, нібы ў чаканні нейкага важнага для іх пісьма. І толькі ўнізе, на ўзроўні падлогі першага паверха двух'яруснай баржы-рэстарана "Барка" шумела і плюскатала ля борта цёмная вада ракі Брда — прытоку Віслы. Штосьці было такое ва ўсёй гэтай простай і ў адначас велічнай карціне жыцця, што зачароўвала і паланіла, і чагосьці не ставала.

Калі музыка скончылася, Андрэй убачыў невысокага пажылога музыку, які падняўся з-за піяніна і няспешна, з годнасцю схіліўся ў паклоне. Уважліва агледзеўшы нешматлікую публіку, ён павярнуўся і гэтак жа няспешна пайшоў да дзвярэй, што выводзілі на стромую лесвіцу — яна ішла ўніз, на першы паверх, у таксама рэстаранную, толькі трошкі меншую залу. Вузкія плечы музыкі, на якія звісалі доўгія, пушыстыя і зусім белыя валасы, уся ягоная сутулая, хударлявая постаць выклікала ў Андрэя жаль. Гэты жаль, няпрошаны і недарэчны, пачаў зносіць кудысь нядаўняе захапленне музыкай, як брудная пеністая хваля зносіць адзінокую трэску ад разбітай аб каменне лодкі.

Андрэй пасядзеў яшчэ з паўгадзіны, заплаціў за каву і ў непамысным настроі выйшаў з баржы-рэстарана.

Над старым польскім горадам Быдгашчам гусцеў красавіцкі, непрацяглы вечар. Па небакраі, які напаўзакрывалі ад людскіх вачэй высокія шпілі старадаўніх касцёлаў і зіхатлівае шкло паверхаў сучасных высотных будынкаў, каціўся вялікі сонечны шар. Яго няяркія праменні пагойдваліся на вадзе, барвавелі на стогадовых цагляных будынках, што стаялі ўздоўж узбярэжнай, паблісквалі на голым жалезным чалавеку, што на адной назе прысеў на жалезным і доўгім канаце. Прыкметна прагнуты пасярэдзіне канат цягнуўся ад аднаго берага ракі Брда, дзе швартавалася баржа-рэстаран, да другога, на самым краі якога глядзелася ў ваду разгалістая вярба. У адной руцэ жалезны чалавек трымаў доўгі шост, каб не паваліцца, а ў другой — стрэлы ад лука, што вісеў на плячы.

"У каго гэты жалезны чалавек рыхтуецца страляць?" — падумаў Андрэй.

У яго спакваля, потым усё хутчэй і больш рашуча пачала ўлівацца пустата — даўняя і ўжо добра знаёмая яму.

* * *

Быдгашч з перарывістым дыханнем назіраў за Андрэем, які пры жоўтым падслепаватым святле адыходзячых у нябыт рэдкіх чыгунных лямпаў і пры яркім бляску новых, падвешаных на тонкіх жалезных слупах люмінісцэнтных свяцільнікаў, непрыкаяна блукаў па ціхіх вулачках і завулках, выбрукаваных каменнай і бетоннай брусчаткай, прысаджваўся на лаўкі ля высачэзных старадаўніх касцёлаў і, не зважаючы, курыў адну цыгарэту за адной. У душы ягонай усё яшчэ гучала тая музыка — вірлівая, усёпаглынальная, як набег хваляў. Пасля яна прыціхла, стала далёкай і чужой. І сам ён зрабіўся ціхім, далёкім і чужым. Для горада, рэдкіх прахожых, для самога сябе. Жыццё ягонае нібы засталося там, у баржы-рэстаране, а тут, у горадзе, яго не было. А можа й было, але ішло па іншых вулках і завулках, альбо ціха і непрыкметна сядзела недзе ў паўцёмным скверы.

Андрэй самотна блукаў амаль усю ноч. Думаў пра сябе і пра людзей, сярод якіх жыў: у сям'і, у сваім доме, на рабоце і ў горадзе Смаленску, дзе атайбаваўся, тут, у Быдгашчы, куды рэгулярна прыязджаў у камандзіроўкі. Андрэй спрабаваў знайсці сэнс ва ўсім, што было, і ў тым, што ёсць. І гэты сэнс нібыта быў — у неабходнасці працягу свайго роду Рамашыных, выкананні сваёй работы, жаданні жыць. Але акурат гэтае жаданне блытала думкі, збівала з тропу і зноў вяртала гукі нядаўняй музыкі, у якой разам з радасцю і неабходнасцю быцця настойліва прарывалася сумненне ў мэтазгоднасці цяперашчыны і нават прышласці. Сумненне, у сваю чаргу, спараджала разгубленасць, тугу, безвыходнасць і разам з тым няпэўнае чаканне чагосьці і кагосьці. Ці то добрага, ці то благога — не дацяміць...

Пад раніцу, седзячы на лаўцы ля рэчкі, Андрэй задрамаў. Ён ачнуўся, калі веснавое сонца ўжо ўставала з-за ўскраінных гарадскіх новабудоўляў і накочвалася з усім сваім святлом на вялікі шырокі каменны горад. Андрэй зірнуў на супрацьлеглы бераг. Ён быў блізкі — рака ў гэтым месцы вузілася. Ля самога моста, па схіле, пласталіся густыя невысокія галіны шыпшыны, спрэс абсыпаныя буйнымі барвова-чырвонымі кветкамі, што распусціліся апошнімі днямі. Тут жа, апалыя ў траву, ляжалі напалову гнілыя, напалову сухія леташнія ягады. Перагніваючы, яны ўгнойвалі зямлю вакол кустоў, што ўпарта лезлі ўгору, цягнуліся да сонечнага святла. У шыпшыне, траве, кветках, нават у апалых леташніх ягадах, якія спакваля перамешваліся з зямлёй і пераходзілі ў яе, было жыццё. Андрэй нібы ўпершыню ўбачыў яго. І яму страшэнна захацелася жыць. Жыць!..

Знячэўку прыгадаліся словы паэта, прачытаныя калісьці ў школе: "Чарвяк я, Бог я..."

Андрэй з палёгкаю ўздыхнуў, падняўся і хутка пайшоў у гатэль.

* * *

Вуліца Шубінская, прамая і шырокая, упіралася ў дарогу, што вядзе на Варшаву. У канцы гэтай вуліцы, у атуленні з аднаго боку бензазапраўкі "Орлен", а з другога — лесу, ацяжэла ўрос у цёмную брусчатку шэры чатырохпавярховы гатэль з нечананай для ягонага масіўнага выгляду назвай "Ікар". Яна нібы гаварыла сваім кліентам: "Ікар — стварэнне зямное. Лятайце, хто хоча лятаць, але памятайце: вы —людзі".

Андрэй гэта памятаў заўсёды. Ён таксама калісьці хацеў лятаць. Скончыў вайсковае вучылішча, атрымаў спецыяльнасць верталётчыка. Адразу ж пасля выпуску маладзенькім лейтэнантам быў накіраваны на службу ў Афганістан. У першым жа баі Андрэеў верталёт душманы падстрэлілі. На падлёце да Кандагара. Запомнілася толькі яркая ўспышка, страшэнны боль у нагах і нязвычная для палёту на верталёце цішыня. А пасля — глухі ўдар, трэск, скрыгат жалеза, працяглы звон, падобны да царкоўнага. І ўсё — цемень. Ачнуўся ўжо ў шпіталі з напалову адрэзанай левай ступнёй. Далей усё як зазвычай у такіх выпадках: лячэнне, дэмабілізацыя, маленькая пенсія, пошук хоць якой-небудзь работы. Калі знайшоў гэтую самую работу, якую ў народзе ахрысцілі проста і лёгка "купі-прадай", ажаніўся. Стала нібыта лягчэй, весялей удваіх, ды не гэтак, як жадалася, марылася. Напэўна, не ставала гэтага самага палёту — лёгкага, захапляючага, вабнага. Таго самага, аб якім марыў калісьці Ікар. І без гэтага палёту Андрэева душа пакутавала і, здаралася, плакала. І сам ён часам плакаў, але без слёз: яны высахлі яшчэ ў шпіталі, калі ўведаў, што чацвёра ягоных таварышаў, гэткіх жа як ён тады, маладзенькіх лейтэнантаў, загінулі ў тым першым баі пад зусім чужым для іх афганскім горадам.

Ледзьве Андрэй пераступіў цераз парог гатэлю і падышоў да адміністрацыйнай стойкі, як круглатварая, чарнявая пані Ядзя паднялася. Падаючы ключ ад нумара, ветла ўсміхнулася:

— Цо, пан, у кобеты быў?

— Быў, — стомлена, каб не расчароўваць добрую, усмешлівую пані, прамовіў Андрэй. — Пайду спаць.

— Ох, пан,— пахітала галавой пані Ядзя. — Нема жоны — нема ўправы.

Андрэй няспешна падняўся да сябе ў аднамесны нумар і, не распранаючыся, паваліўся на ложак. Яму, страшэнна стомленаму, хацелася толькі аднаго — спаць.

* * *

У невялікім, утульным гатэльным рэстаране Андрэй абедаў у поўнай адзіноце: ужо было каля чатырох гадзін дня і нікога з наведнікаў, акрамя яго, не бачылася. Можа, і з гэтае прычыны есці не хацелася, Андрэй пасёрбаў крыху супу з флякаў — традыцыйнае польскае стравы, з'еў кавалачак стэйка з цяляціны, выпіў гарачую гарбату і, расплаціўшыся, зноў пайшоў у свой нумар, прылёг.

Была субота, выхадны, і ніякіх клопатаў не прадбачылася.

Паляжаўшы з паўгадзіны, Андрэй уключыў тэлевізар. Пашчоўкаў па каналах, польскім і еўрапейскіх, аднак нічога цікавага для сябе не знайшоў. Выключыўшы тэлевізар, сеў у фатэль, насупраць акна, і пачаў глядзець на лес. Густыя вяршыні высокіх, вострых соснаў прыкметна пагойдваліся пад свежым і яшчэ па-веснавому прахалодным ветрам. Удалечыні, на гарызонце, неба спакваля налівалася густой чырванню.

"На дождж, ці на марозік", — без пэўнае думкі зазначыў Андрэй.

У душы ў яго чынілася штосьці няўцямнае, трывожнае. Як перад навальніцай, якую ён прадчуваў інстынктыўна. Да ўсяго, балела сэрца, востра ныла напаўадрэзаная ступня. Скрыгатнуўшы зубамі, Андрэй устаў, надзеў джынсы, лёгкую куртку і выйшаў з гатэля.

"Паеду ў горад,— наважыўся ён, — крыху пашпацырую, можа, стане лягчэй..."

Горад сустрэў яго ветла і шумна: яшчэ маленькае, кволае лісцейка дрэў і кустоўя паўставала перад Андрэем у поўнай сваёй свежасці і красе; пышна зелянелі, набіраючы сілу, роўныя, яшчэ не стрыжаныя газоны; няспешна прагульваліся шматлікія прахожыя і маладыя пары; прабягалі міма і голасна смяяліся дзеці; смела і ўпэўнена спяшаліся па вуліцы ў адзін і другі бок, лагодна сігналячы, аўтамашыны. І нават будынкі, старыя і новыя, проста і дружна злучаліся асветленымі сонцам чырвонымі, шэрымі, жаўтавата-зялёнымі сценамі, утвараючы той своеасаблівы, непаўторны еўрапейскі архітэктурны ансамбль, у якім старадаўні касцёл не велічна пазірае на бліжэйшы да яго аднапавярховы прыватны дом, а паблажліва прыхоўвае яго сваім ценем, нібы праганяючы ад яго злых духаў.

Нейк адразу зрабілася лягчэй, спакайней. Аціхаў боль сэрца, а ступня, прызвычаіўшыся да хады, пакрысе супакоілася і засвярбела.

Андрэй прысеў на лаўку, незаўважна для прахожых падняў калашыну, абхапіў пальцамі левую нагу трошкі вышэй чаравіка, з усяе сілы сціснуў. Ступня спачатку знямела, а затым пачала цяплець, размякаць...

"Хораша тут,— падумаў Андрэй. — Хораша..."

Яму падабаўся Быдгашч, да душы было польскае нетаропкае і спакойнае жыццё. Не такое, як у Расіі, небяспечнае і непрадказальнае, з заўсёднымі ўзрушэннямі-катастрофамі, сацыяльнымі і ваеннымі канфліктамі, а мірнае, параўнальна сытае. Калі б была мажлівасць — застаўся б тут назаўсёды. Зрэшты, нават не мажлівасць, а жаданне: пераехаць з Расіі ў Польшчу не праблема. Гэта недалёка, ды й мова зразумелая, блізкая. Вывучыць можна хутка. Але да каго перазджаць, дзеля чаго? Простыя і ў адначас пакутлівыя пытанні. Яны выспявалі ў галаве ў Андрэя даўно. А ўзніклі яшчэ даўней. Напэўна, у вайсковым шпіталі, калі, перавярнуўшыся ад болю на жывот і абхапіўшы рукамі жалезны ложак, Андрэй, тады савецкі баявы афіцэр, упершыню задаў сабе няпростае і складанае па тым часе пытанне: "За што мы ваюем? Хіба мала ў нас сваёй зямлі, мала сваіх багаццяў?.."

Высветлілася, што мала. Мала тым, што кіравалі... Да сораму простых людзей і на здзіўленне ўсяго цывілізаванага свету.

Хваравітыя думкі, разумныя, з пошукам адказу на сваё пытанне, хоць і нудныя, зусім лішнія ў тыя далёкія гады, зноў нагадалі аб сабе тут, у Быдгашчы, дзе ніхто не ваюе і ні ад кога не збіраецца аддзяляцца. Наадварот, Польшча ўступае ў Еўрасаюз.

Андрэй уздыхнуў, закурыў.

Наперадзе, за метраў дваццаць, купкай стаяла група разнамасна і модна апранутых юнакоў, пэўна, студэнтаў. Яны штосьці захоплена абмяркоўвалі, ухвальна ківалі адзін аднаму, усміхаліся. Іх торбы стаялі побач, ля ног: маладыя людзі нікуды не спяшаліся.

"Пайду я ў рэстаран на баржу, — сцепануўся Андрэй. — Там музыка, можна не думаць, не задаваць сабе пакутлівых пытанняў, а толькі слухаць..."

У ягонай галаве ледзь чутна, а затым усе гучней і выразней азываліся гукі вірлівай, хвалюючай музыкі ў выкананні пажылога рэстараннага піяніста, які ў нейкія імгненні, калі яго ўважліва слухаеш, здаецца, іграе не для публікі, а для самой вечнасці.

* * *

У баржы-рэстаране наведнікаў было мала: вечар толькі-толькі пачынаўся. Андрэй сеў ля вакна, бліжэй да сцэны. Заказаў, як звычайна, каву. Маладзенькі хударлявы афіцыянт, які чымсьці нагадваў старраннага курсанта вайсковае вучэльні, тут жа прынёс кубачак водарнага напою.

— Дзенькую,— кіўнуў Андрэй.

Ён зрабіў колькі глыткоў, закурыў і пачаў чакаць выхаду на сцэну пажылога піяніста. Але яго не было. Праз нейкі час выйшла на сцэну высокая, сухарлявая, з доўгімі цёмна-каштанавымі валасамі жанчына гадоў трыццаці ў шыкоўнай чырвонай сукенцы з глыбокім дэкальтэ. Азірнуўшы невідушчым паглядам публіку, яна ледзь заўважна кіўнула афіцыянту. Той уключыў магнітафон, і пад ягоную музыку жанчына заспявала меладычную, але тужлівую песню, у якой былі амаль адны й тыя ж словы:

*Ніц, напраўду, не паможаш.*
*Ніц, напраўду.*
*Ніц, напраўду, не паможаш...*

Андрэй не ўсё разумеў, аб чым спявала жанчына і хто каму не можа дапамагчы. Але ейны грудны, трошкі дрыготкі голас выказваў трывогу і выклікаў жаль. І таму песня ўспрымалася не розумам, а сэрцам.

— Ніц, напраўду, не паможаж, — на тужлівай ноце скончыла песню жанчына.

Андрэй глытнуў кавы і пачаў пільна ўзірацца ў спявачку: яму падалося, што ён яе ўжо дзесьці бачыў. Можа, нават гаварыў з ёю.

Жанчына звярнула ўвагу на ягоны пагляд, ледзь прыкметна ўсміхнулася, няспешна падышла да яго, спытала:

— Вы рускі?

— Але, — разгубіўся Андрэй: ён зразумеў, чаму падумаў, што бачыў ужо недзе гэтую жанчыну — яна ж таксама руская. — Я са Смаленска.

— Гэта добра, — задаволена сказала жанчына. — Я праспяваю для вас.

Яна ўзышла на сцэну, кіўнула афіцыянту. Гэтым разам кіўнула рэзка і патрабавальна. Афіцыянт тут жа ўключыў магнітафон і павіслая было цішыня, нервова здрыгануўшыся, саступіла месца чароўным, знаёмым гукам шчымлівай мелодыі, услед за якой палілася такая ж шчымлівая песня:

*Аб чым іграе піяніст...*
*Спявала музыка, звінела.*
*У маёй руцэ — кляновы ліст.*
*Душа сцішалася і млела...*

Маладая стройная жанчына нервова сціскала мікрафон тонкімі пальцамі з доўгімі, завостранымі пазногцямі і амаль краналася яго пульхнымі, вогненнымі, пад колер сукенкі, выразна акрэсленымі вуснамі, над якімі мякка і ганарліва быў прыпадняты па-дзіцячы круглявы нос.

Спявачка неадрыўна глядзела на Андрэя: у сваёй песні яна нібы звярталася да яго, прасіла дапамогі, абароны. Андрэй бачачы, а яшчэ больш фізічна адчуваючы ейны кранальны душу, прызыўны і роспачны пагляд, міжволі адвярнуўся і ўтаропіўся ў акно. За ім у жаўтлявым паўзмроку, скрушліва і задуменна, у маўклівым чаканні стаялі тры чыгунныя статуі-жанчыны. Яны таксама чакалі дапамогі.

— Вам спадабалася мелодыя песні? — спытала, ціха падышоўшы, спявачка.

— Чаму толькі мелодыя? — памарудзіўшы з адказам, прамовіў Андрэй. — Мне спадабалася мелодыя, спадабаліся словы песні. І...

Ён хацеў сказаць, што спадабалася і сама спявачка, але прамаўчаў.

— Гэта добра, — уздыхнула жанчына і журботна ўсміхнулася. Пастаяўшы, нерашуча спытала: — А да вас можна прысесці?

— Калі жадаеце... Столік вольны, — ужо зусім разгублена прамовіў Андрэй. Ён падняўся, адсунуў ад стала крэсла. — Калі ласка, сядайце.

Спявачка прысела і вывучальным, добрым паглядам угледзелася ў Андрэя. Ён міжволі апусціў вочы долу: яму было ніякавата.

— Закажыце мне віна, — ціха папрасіла жанчына, — калі можна... І сабе.

Андрэй паклікаў афіцыянта, заказаў бутэльку чырвонага "Бардо".

— Такое віно вы п'яце?

— Так.

Андрэй наліў.

— Давайце вып'ем, — спявачка задуменна падняла бакал. — Вып'ем, вы толькі не здзіўляйцеся, за доўгае чаканне і... І надзею. Добра?

Андрэй на імгненне зазірнуў жанчыне ў вочы. Вялікія, цёмныя, яны нечакана заблішчэлі і з іх куточкаў выплылі дзве маленькія, разбаўленыя чорнай тушшу слязінкі.

— Гэта проста так, проста так... Не звяртайце ўвагі, — прамовіла жанчына.

Яна паднесла бакал да сваіх вогненных пульхных вуснаў, секунду-другую патрымала яго, быццам вагаючыся, піць не піць, і хуценька, з адчаем, асушыла да дна.

Андрэй таксама выпіў. Віно падалося яму крыху засалодкім, прытарным.

— Прыходзьце ў наш рэстаран паслязаўтра, — падымаючыся, запрасіла жанчына. — Я выступаю тут цераз дзень. Дзякую вам за размову і за віно. Дзякую...

Сэрца ў Андрэя ўскалыхнулася ад вострага і нечаканага болю. Цьмяная трывога і ў адначас невядомае прадчуванне хуткай сустрэчы з кімсьці блізкім, даўно чаканым чалавекам пачалі закрадвацца ў яго неспакойную душу.

"Шкада, што сёння не было піяніста", — чамусьці падумаў Андрэй, выходзячы з баржы-рэстарана.

# Оперны нюанс

Гала-канцэртам майстроў мастацтваў і таленавітай моладзі завяршыў сезон Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі. Лета для яго артыстаў прадоўжылася на гастролях у Германіі. А крыху раней тэатр выязджаў у Венгрыю — на фестываль "Бартак плюс Чайкоўскі". Горад Мішкальц, дзе праходзіла гэтае свята музычнага мастацтва, сабраў творчыя калектывы з Арменіі, Германіі, Латвіі, Расіі, Украіны, Чэхіі, былой Югаславіі... Беларусь, запрошаная ўпершыню, выступіла там паспяхова, прадставіўшы оперу П.Чайкоўскага "Іяланта".

Напярэдадні ад'езду ў Венгрыю наш тэатр паказаў "Іяланту" на роднай мінскай сцэне.Спектакль захапіў публіку незвычайнай лірычнасцю, цеплынёй, прыгажосцю ўвасаблення цудоўнай музыкі Чайкоўскага. Гэта новая сцэнічная версія класічнай оперы, ярка зробленая рэжысёрам-пастаноўшчыкам, мастацкім кіраўніком тэатра М.Ізворскай. Поспех мелі дэкарацыі мастака Э.Гейдэбрэхта, і ансамбль спевакоў-артыстаў, і аркестр пад кіраўніцтвам А.Галанава.

У партыі Іяланты, дачкі караля Рэнэ, бліскуча выступіла маладая спявачка Настасся Масквіна, паказаўшы цудоўны цёплы голас з "серабрыстымі" верхнімі нотамі.

Не мог не ўсхваляваць публіку і голас маладога саліста Эдуарда Мартынюка ў партыі графа Вадэмона, Бургундскага рыцара. Цікава, што да нядаўняга часу гэтага артыста ведалі як бліскучага выканаўцу вядучых роляў у спектаклях Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра. І вось — поспех маладога тэнара на мінскай опернай сцэне.

Цікавы вобраз клапатлівага бацькі — караля Праванса Рэнэ стварыў Алег Мельнікаў. Знакамітая арыя прагучала ў яго выкананні кранальна, праніклёна. Уладзімір Пятроў, чый прыгожы барытон, як заўсёды, вышэй за ўсялякія ўхвалы, стварыў пераканаўчы вобраз Раберта, герцага Бургундскага.

Найлепшых слоў заслугоўвалі ў той вечар і выканаўцы іншых роляў. Нездарма ж доўга-доўга не адпускала публіка са сцэны ўдзельнікаў спектакля.

**Вера КРОЗ**

# Прысвяцілі Солтану

Вечарынай-канцэртам памяці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі кампазітара Уладзіміра Солтана завяршыў сезон Сімфанічны аркестр Брэсцкага тэатра драмы і музыкі. У праграме, якая прайшла пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Аляксандра Сасноўскага, удзельнічалі таксама Камерны аркестр Брэсцкай абласной філармоніі, салісты з Мінска — спевакі В.Скарабагатаў, Н.Зубарава, Д.Солтан (фагот), Я.Фешчанка (віяланчэль), балалаечнік С.Носаў. Прагучалі аркестравая сюіта "Думкі ды настрої", урыўкі з оперы "Дзікае паляванне караля Стаха". Другі віяланчэльны канцэрт, п'еса для балалайкі "Думка". У вечарыне ўдзельнічалі сябры У.Солтана — кампазітары В.Войцік, Л.Мурашка, іх маскоўскі калега, народны артыст Расіі У.Камароў.

Ураджэнец Брэста Уладзімір Солтан трагічна загінуў маладым; летась ён мог бы ўжо святкаваць "залаты" юбілей. Маці кампазітара, якая прысутнічала на канцэрце, нядаўна адзначыла сваё 80. Жывая памяць пра сына знайшла ўдзячны водгук у яе сэрцы.

**С.ВЕТКА**

# ЖЫЦЦЁ ПРАЗ




Аўтар кнігі "Светлая журба" ("Светлая печаль", на рускай мове), вядомы беларускі тэатразнавец, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і Карлава універсітэта ў Празе, — не новы чалавек у нашай літаратуры і мастацтве. Яго пяру належаць п'есы "Разбег", "Выкупленне", "Не толькі пра каханне" (з. Р. Смольскім), тэатразнаўчае эсэ пра творчасць А. Макаёнка "На пульсе жыцця: Андрэй Макаёнак і беларускі тэатр" і "Жыццёвая крыніца: тэатральная самадзейнасць на сучасным этапе".

Асобнае месца ў яго даследаваннях займаюць шматлікія нарысы, рэцэнзіі, аналітычныя артыкулы пра ўвасабленні драматургічных твораў у беларускіх тэатрах, як сталічных, так і перыферыйных. Усё гэта было свайго роду парафразам, працэсам набыцця доследу на шляху да літаратурнай творчасці ў поўным сэнсе гэтага слова.

У выніку з'явілася кніга, дзе акумулююцца жыццёвыя назіранні, факты біяграфіі, роздум пра штодзённае і вечнае, пра сэнс існавання, пра існасці.

У трох частках гэтага аповеду ("Прарастанне", "Тэатральныя ўнутрыпогляды", "Непрыдуманыя гісторыі") ёсць храналогія, паслядоўнасць у часе, але яна ўмоўная, бо аўтар кожную з іх будуе паводле прынцыпу мазаікі — рознаколернай, рознафарменнай, але знітаванай думкамі пра людзей, іх лёсы, характары ў адзіны блок чалавечага жыцця, у плыні якога вырас сам ён як асоба.

Першы раздзел "Раднікі" і далейшыя — "Зерне", "Пазнанне", "Блуканні", "Хрышчэнне" ды іншыя ўяўляюць сабой эцюды-замалёўкі біяграфічнага кшталту, насычаныя шчымлівымі эпізодамі з дзіцячых гадоў, ваеннага і пасляваеннага часу. Юрко, як яго называлі жыхары вёскі Чарнешчына, што на Харкаўшчыне, дзе ён нарадзіўся і падрастаў, гадаваўся без бацькі (загінуў на фронце), яго выхоўвалі маці Галіна Аляксееўна і дзед Аляксей Зіноўевіч.

Дзіцячая памяць, як вядома, вельмі ўразлівая і трывалая. Таму асабліва дэталёва апісваюцца ў кнізе моманты, калі пэўная падзея адбіваецца на станаўленні свядомасці. Такім запамінальным момантам для сямігадовага хлапчука стаўся абрад хрышчэння, на які вадзіў яго веруючы дзед. Маляўніча, з дакладнымі падрабязнасцямі апісваецца не толькі сам рытуал, але і ідэалагічная сітуацыя тых атэістычных часоў. Акрамя гэтага канкрэтнага эпізода, дзе дзядуля не словамі, а праз учынак уплывае на фарміраванне характару свайго ўнука, ёсць у аповедзе абагульняючая думка — пра выхаванне дзеяннем, на прыкладах далучэння да справы: складанне печкі, дапамога маці і г. д. Так гарэзлівасць, непаслухмянасць саступаюць месца разуменню сваіх магчымасцей...

Другая частка кнігі — гэта дакументальныя замалёўкі унутрытэатральнага жыцця, у якім фарміраваўся прафесіяналізм Ю. Сохара, як акцёра, тэатразнаўцы. Гэтыя эпізоды, прыватныя выпадкі, часам кранальна драматычныя, альбо з горкім гумарам, заўсёды трапныя, праўдзівыя. Тут і кур'ёзы звязаныя непасрэдна са сцэнічным жыццём, — як на адным са спектакляў знік акцёр, без чыйго эпізоду нельга было працягваць сцэну, ці як драматычная гісторыя артыста, чыя жонка здраджвала яму 20 гадоў, ды іншыя чалавечыя драмы і трагікамедыі. Магчыма, прыдзірлівы чытач знойдзе ў тых замалёўках элементы "рызыкоўныя". Ды аўтар, думаю, мае права разлічваць на тых, хто адчувае і разумее гумар.

Цэнтральнае ж месца ў гэтым раздзеле, з майго пункту гледжання, займае сюжэт пад назвай "Юбілей і Машэраў".

50-годдзе тэатра імя Янкі Купалы. Юбілейную дату калектыў вырашыў адзначыць, як кажуць, маштабна. Так і адбылося. Вядома, што Пётр Міронавіч Машэраў, першы сакратар кампартыі Беларусі, не толькі быў пастаянным гледачом тэатра, але надаваў творчасці купалаўцаў, як важнаму сродку ідэалагічнага выхавання, шмат асабістай увагі.

Не буду спыняцца на падрабязнасцях аўтарскага аповеду. Скажу толькі, што побач з пэўнай апраўданай іроніяй адносна двухсэнсоўнасці ў кантактах партыйнага кіраўніцтва і тэатральных чыноўнікаў, ёсць аб'ектыўная праўда самой падзеі. А праўда ў тым, што ў той час надавалася асаблівая ўвага

# "Кабінет навукоўца — вёска..."



Абавязковая ўмова існавання культуры — пераемнасць. Таму сярод тых, хто здольны звярнуцца да каштоўнасцей адвечных, заўсёды пашана — перадавальнікам ведаў і традыцый. Гэта безумоўна тычыцца і культуры навуковых супольнасцей.

Кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры Тамара Варфаламеева належыць да той групы беларускіх даследчыкаў-музыколагаў, якія, абапіраючыся на асноўныя палажэнні інтанацыйнай тэорыі акадэміка Б. Асаф'ева, даследуюць народна-музычную (песенную і інструментальную) культуру беларусаў як спецыфічную жывую з'яву культуры вуснага тыпу ва ўсёй яе складанасці і працэсуальнасці.

Музыказнаўца з кансерваторскім дыпломам, супрацоўнік галоўнай рэдакцыі музычных праграм Дзяржтэлерадыё БССР, член Беларускага саюза кампазітараў, Варфаламеева пачала сваю навуковую дзейнасць перш за ўсё як даследчык-палявік. Якасныя, добра сплянаваныя даследаванні спеўных традыцый Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Гродзеншчыны ўтварылі значны навуковы багаж, які быў плённа выкарыстаны ў яе навуковых выданнях. Знешне гэта выглядала як тыповае для беларускага фалькларыста жыццё ў прасторавай формуле "кабінет навукоўца — вёска".

Заклапочанасць перадачай уласных ведаў меназіта тым, хто здольны іх адэкватна ўспрыняць — неўзабаве набывае ў акадэмічных рэаліях выгляд прасторавай формулы "кабінет навукоўца — вёска — кафедра настаўніка". Напэўна таму ў Варфаламеевай рэгулярна пачалі з'яўляцца аспіранты ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы. Паралельна мацнела і неабыякавасць да тэарэтыка-метадалагічных праблем фалькларыстыкі, этнапедагогікі. Пацвярджэннем апошняга стаў неадназовы ўдзел у семінарах, навуковых кангрэсаў (сярод найбольш прадстаўнічых — Міжнародная канферэнцыя "Folk music today" (Талін, 10—13.07.1989); Еўрапейская канферэнцыя IOV (Мінск, 22.09.1997), "круглых сталах" па праблемах пераемнасці фальклорных формаў. Сюды ж пападае супрацоўніцтва з цудоўнымі фальклорна-этнаграфічнымі дзіцячымі спеўнымі гуртамі Л.Рыжковай "Калыханка" і "Куманёк" в. Міханавічы Мінскага р-на, фальклорна-этнаграфічным гуртом з Барысаўшчыны "Берагіня" (кіраўнікі М. Козенка і А. Абрамовіч), з фольк-клубам Беларускай мастацкай акадэміі "Маладзёвы" (лідэр І. Мазюк).

Актыўная творчая дзейнасць Тамары Барысаўны прыпала на 80—90 гады, калі традыцыйную спеўную культуру з яе ўласнай прасторы імкліва выціскаў "фальклорны кіч" — тыражаваныя няякасныя падробкі пад вясковую культуру. Магчыма, гэта прымусіла прафесійнага навукоўца "выйсці з кабінета на вуліцу". Таму згаданая прасторавая формула набыла выгляд "кабінет навукоўца — вёска — кафедра настаўніка — сацыяльны пляц". У 1972 годзе яна заснавае радыёклуб "Фальклор", які больш за 25 гадоў слухалі і інтэлігенцыя і вясковыя жыхары; потым ажыццяўляе актыўны ўдзел у фестывальным фальклорным руху (кіраўнік групы навуковых кансультантаў І Міжнароднага фестывалю фальклору на Беларусі (Пінск, 1994), фэсцэ аўтэнтычнага фальклору Беларускага Падняпроўя (1996); старшыня эспертных груп-фэстаў "Мядоцкі край і яго таленты" (Барысаўскі раён, 1997), "Беларуская полька" (Чачэрск, 1998), "Берагіня" (г.п. Акцябрскі, 1999, 2004). Па яе задумцы і энергічным удзеле была арганізавана лабараторыя традыцыйнага мастацтва аддзела народнай творчасці Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры. Паралельна адбываўся адбор, рэдагаванне і выданне лепшых узораў этнічных спеваў: гукавая анталогія "Беларускі музычны фальклор" (разам з З. Мажэйкай і І. Назінай, фірма "Мелодыя"), "Музычны фальклор Беларускага Панямоння", "Музычны фальклор Цэнтральнай Беларусі" (на аўдыёкасетах, потым — аўдыёдысках).

Аўтарства каля 100 (!) публікацый па традыцыйнай музычнай фалькларыстыцы, вядзенне "жывой" традыцыі Беларусі дазваляе Т. Варфаламеевай арыентавацца ў пытаннях тыпалогіі культуры, суадносінах гісторыка-стылявых пластоў народнай музычнай творчасці.

Прычым яе высновы заўсёды якасна абгрунтаваны і па-акадэмічнаму самавітыя. За гэтым стаіць няспынная руплівая праца, прафесіяналізм вышэйшага гатунку, дбанне пра душу свайго народа і навуковы дослед, як адзін з інструментаў захавання і яе аховы.

**Віктар КАЛАЦЭЙ**

# СВЕТЛУЮ ЖУРБУ...

творчасці флагмана беларускай нацыянальнай сцэны.

Не магу аднак пазбегнуць спакусы выкласці пэўныя дэталі ў аўтарскія апісанні неафіцыйнай часткі юбілею. Прагучалі прывітальныя прамовы як з аднаго, так і з другога боку, і вось — цытую: “...Праз пэўны час члены бюро ЦК “спусціліся” з “перакладзіны літары П” (маецца на ўвазе размяшчэнне сталоў на банкеце) і, як кажуць, “увайшлі ў народ”. Лідзія Іванаўна Ржэцкая і Ірына Фларыянаўна Ждановіч, ужо старэнькія, высільваючыся, сталі, аблакаціўшыся на стол. Машэраў звярнуў на гэта ўвагу і асабіста прынёс ім маленькую банкетку. Гэта ўбачыла Вера Пола і папрасіла: “Пётр Міронавіч, а яшчэ адну можна?” Але банкеткі больш на аказалася, арганізатары не прадбачылі такіх нюансаў, але хутка прынеслі крэсла”.

Раздзел гэты заканчваецца сумным акордам пахавання Пятра Міронавіча, меркаваннямі і думкамі пра яго як кіраўніка партыі і дзяржавы, пра яго як асобу.

Трэцяя частка кнігі, гаворачы музычнай тэрміналогіяй, з’яўляецца кампазіцыйнай кодай усяго твора. Гэтая частка падаецца найбольш насычанай шчымлівымі душэўнымі пачуццямі, звязанымі з лёсамі людзей, якія сустракаліся на шляху аўтара, дый аб’ём яе складае амаль што палову кнігі.

Сярод сямі нарысаў — “Геніяльны авантурыст”, Хіраманты”, “Антэна”, “Паўзункі”, “У поездзе”, цікавых і незвычайных паводле зместу, — вылучу два апошнія: “Сустрэча на Лабе” і “А што ж там?” Чаму менавіта іх? Таму, што ў іх закладзены кандэнсат жыццёвых назіранняў, драматызму лёсаў іх герояў. Нават узнікае думка, што не аўтар шукаў сустрэч з людзьмі, пра якіх піша, а нібыта самі сустрэчы шукалі яго, каб знайшліся адказы на пытанні: паводле якіх законаў складваецца лёс чалавека, што прыводзіць яго да свайго аднадумца і сябра.

Нязначная падзея — рыбалка на рацэ Лабе ў Чэхіі. Аўтар заўзяты рыбак, вырашыў паспытаць удачы на забароненым месцы, не толькі таму, што ў яго няма адпаведнага дазволу, ён у Чэхіі новы чалавек, але і таму, што гэта месца пастаянна аблюбавалі лоўлі мясцовага жыхара Праслава. І вось — іхняя гаворка, але, як ні дзіўна, у “гаспадара” няма прэтэнзій да “чужака”, больш за тое: ён дапамагае выцягнуць на бераг агромністага таўсталобіка, які папаўся на кручок прышэльца.

Урэшце чэх, даведаўшыся, што яго “сапернік” — беларус, прызнаецца ў сваёй сімпатыі да Беларусі і яе жыхароў, аказваецца, што ён будаваў дом у Мінску і што там жыве жанчына, якую ён пакахаў і да якой збіраецца ехаць, каб з ёю ажаніцца, што яна чакае ад яго дзіця. Узнікае сяброўства сем’ямі, нараджаецца сапраўдная чалавечая дружба. Усё — нібы ў казцы, але гэта, рэальнасць, жывы прыклад нечаканасці як праявы заканамернасці. Усё здаецца, цудоўна, чалавек знайшоў чалавека. Праслаў запрашае беларускага сябра паехаць з ім на машыне ў Мінск, каб разам адсвяткаваць вяселле, але...

З-за нейкіх прычын паехаць разам не атрымалася, і чэх паехаў адзін. Праз пэўны час Юрый, наведаўшыся ў Мінск, сабраўся ў госці да сям’і Праслава. Па вядомым адрасе ён прыехаў з падарункамі, убачыў у двары жанчыну з дзіцячай калыскай, узрадаваўся, але ненадоўга, бо яго ўразіла “навіна”. Праслаў на дарозе загінуў у аўтакатастрофе. Выпадак? Лёс? Пытанні без адказу.

Апошні нарыс “А што ж там?” Ізноў сустрэча на прыродзе, але ўжо ў бярэзінскім лесе, у час грыбабрання. Прычым спачатку з ваўком, што нават бывалага паляўнічага, аўтара аповеду, уводзіць у шок. І раптам свіст, воўк кідаецца да гаспадара, якім аказваецца мастак-адзінотнік, што пражывае ў лясным доміку, непадалёку ад Беразіно.

Філасофскае асэнсаванне існасці чалавека — галоўны пафас гэтага нарыса. Кніга багата ілюстраваная дакументальнымі фотаматэрыяламі, якія візуальна адлюстроўваюць біяграфічныя этапы і паказваюць людзей сярод якіх Ю. Сохар жыў, жыве, якія натхняюць на творчасць.

Юрый Сохар. “Светлая печаль” (на рус. мове). Мінск, “Тэхнапрынт”, 2003 г.

**А. ЛАБОВІЧ**

---

Але памятаеце, як вынікае са славутай песні Алы Пугачовай, каралі не могуць толькі аднаго – ажаніцца па каханні. І ўладара, які пагарджае гэтым простым правілам, чакае горкае расчараванне. Менавіта пра такога неразумнага караля напісаў сваю п’есу славуты шведскі драматург Аўгуст Стрындберг. Яго “Эрыкам XIV” захапіўся мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы Валерый Раеўскі, які пры канцы сезона ўвасобіў драму на сцэне.

Ад гэтага спектакля чакалі шмат. А не расчаравалі і захапілі бадай



# Усё могуць каралі

толькі сцэнаграфічныя штукарствы, прыдуманыя мастаком Барысам Герлаванам. Адразу нават неяк не заўважаеш, што палова сцэны запоўнена вадой. Празрыста-металічны колер дэкарацый робіць нерухомую ваду нябачнай. І толькі са з’яўленнем герояў, якія моцна тупаюць па падлозе, нечакана адкрываеш, што прыгожыя макеты караблёў на авансцэне ўладкаваныя зусім не на люстэрку, а ў басейне, напоўненым сапраўднай вадой. Падаецца, што мастак Барыс Герлаван пераносіць дзеянне п’есы на карму напалову затанулага карабля, ад чаго ўзнікае няўлоўнае ўражанне сырасці і няўтульнасці.

У “сырым і няўтульным” душэўным стане знаходзяцца і персанажы спектакля. З самага пачатку яны вельмі многа мітусяцца ў вадзе, як гарэзлівыя рыбы ці сонечныя зайчыкі, замацоўваючы ў свядомасці гледачоў моцную метафару пра крохкасць і хуткі бег чалавечага жыцця.

Як шкада, што рэжысёр спектакля Валерый Раеўскі настолькі захапіўся эксперыментамі з вадой! Нават усе героі спектакля апранутыя ў неверагодна прыгожыя касцюмы, зробленыя са спецыяльнага воданепрапушчальнага матэрыялу! Менавіта з тае прычыны акцёры, якія часам не проста злоўжываюць вадой, адцягваюць увагу гледачоў ад моцных і глыбокіх перажыванняў сваіх герояў.

Зразумела, што В. Раеўскі зноў вяртаецца да сваёй улюбёнай тэмы ў тэатры: трагічнага кахання каралеўскіх асоб. Нагадаем, што некалькі гадоў таму на Купалаўскай сцэне гэтым рэжысёрам быў пастаўлены спектакль пра драматычнае каханне Барбары Радзівіл і караля Жыгімонта. П’еса А. Стрындберга распавядае пра пакуты маладога шведскага караля Эрыка XIV, які вымушаны дзеля ўмацавання сваёй кароны ажаніцца не з дачкой ахоўніка Карын, якая жыве разам з ім у каралеўскім палацы, а з малазнаёмай прынцэсай. “Усё могуць каралі, усё могуць каралі...” Нягледзячы ні на што, Эрык XIV выбірае шлюб з любай жанчынай. І таму: “Эрык...бедны Эрык!”

У ролю караля Эрыка Алег Гарбуз прыўносіць капрызлівасць дзіцяці і дабрыню пухнатага мядзведзя з казкі. Каханую Эрыка, дачку салдата — Карын іграе Святлана Анікей, якой ужо даводзілася пражываць на Купалаўскай сцэне трагічныя жаночыя лёсы (“Каварства і каханне”, “Трышчан ды Ізота”). Усім разам акцёрам удаецца як мага лепш раскрыць сваіх персанажаў, падкрэсліць у іх характарах самае галоўнае і адметнае. Увогуле, ў спектаклі “Эрык XIV” заняты каля 40 артыстаў трупы. Відавочна, што вобраз пракуратара Ёрана Персана артыст Мікалай Кірычэнка будуе з ужо назапашанага ў спектаклі “Чорная панна Нясвіжа”. Узаемасувязь яго персанажа з каралём Эрыкам, узаемасувязь народа і ўлады, робіцца ў спектаклі адной з самых адметных ліній...

Цікава, што вядомы шведскі драматург некаторы час з’яўляўся ініцыятарам і мастацкім кіраўніком Інтымнага тэатра з камернай залай на 161 месца і сцэнай памерам 6 х 4 метры. Несумненна, што гісторыя Эрыка XIV, разыграная ў Купалаўскім, закранула б мацней, калі аб’ём дэкарацый не здаваўся б больш маштабным за саму драму.

**Аляксандра ЛАТЫШАВА**

*Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА*

---

## ПЕРАКЛАДЫ

### М. ЛЕРМАНТАЎ

* * *

*Калі хвалюецца*
*і даспявае ніва,*
*І свежы лес шуміць ад гуку*
*вецярка,*
*І ў садзе тоіцца*
*малінавая слiва*
*Пад ценем слодычным*
*зялёнага лістка;*

*Калі расой апырсканы*
*зярністай*
*Румяным вечарам*
*ці ранню залатой*
*З-пад кусціка мне ландыш*
*серабрысты*
*Прыветліва ківае галавой;*

*Калі ручай у яры, як трапеча,*
*І мысль хаваючы ў нейкі*
*дзіўны сон,*
*Загадкавую сагу мне ляпеча*
*Пра мірны край,*
*адкуль імчыцца ён, —*

*Тады сцішаецца маёй душы*
*трывога,*
*Тады маршчынам на чале*
*не паглыбець, —*
*І шчасце на зямлі магу*
*я разумець*
*І ў паднябессі бачу бога.*

**1837 г.**

### Удзячнасць

*За ўсё табе я дзякую нязменна:*
*За горыч слёз і тайну*
*страсных слоў,*
*За пацалунка яд і за мучэнне,*
*За помсту ворагаў*
*і нагавор сяброў;*

*За жар растрачаный душы*
*ў пустыні,*
*За ўсё, што у жыцці*
*я не спазнаў...*
*Зрабі хоць так,*
*каб з гэтае часіны*
*Табе нядоўга ўдзячнасць*
*паўтараў.*

**1840 г.**

### Неба і зоркі

*Чыстае вечарам неба,*
*Ясныя высяцца зоркі,*
*Ясныя, як шчасце дзіцяці;*

*О! чаму і мне нельга падумаць:*
*Зоркі, вы ясныя,*
*як шчасце маё!*
*Чым ты нешчаслівы,*
*Скажуць мне людзі?*
*Тым я нешчаслівы,*
*Добрыя людзі,*
*што зоркі і неба —*
*Зоркі і неба! — а я чалавек!..*

*Людзі зайздросцяць*
*Адзін аднаму;*
*Я ж, не такі,*

*Толькі зайздрошчу*
*зоркам прыгожым,*
*Толькі іх месца заняць бы*
*жадаў.*

**1831 г.**

### Хмары

*Хмаркі нябесныя,*
*хмаркі вандроўныя!*
*Стэпам бяскрайным,*
*мяржай ліловаю*
*З вамі імчацца*
*і мне ўжо даводзіцца*
*З поўначы мілай*
*у далеч паўднёвую.*

*Хто вас так гоніць:*
*мо лёс вырашаецца?*
*Зайздрасць таемная,*
*злоба адкрытая?*
*Ці мучаць злачынствы,*
*што паўтараюцца?*
*Ці нагаворы сяброў ядавітыя?*

*Не, вам надакучылі*
*нівы бясплодныя...*
*Не з вамі пакуты*
*і страсці–ўзбуджальнікі;*
*Вечна халодныя,*
*вечна свабодныя,*
*Няма ў вас радзімы,*
*і вы не выгнаннікі.*

**1840 г.**

* * *

*На поўначы дзікай*
*стаіць адзінока*
*На горнай вяршыні сасна*
*І дрэмле пад ветрам*
*і снегам сыпучым,*
*Бы ў рызу, прыбрана яна.*

*І сніцца сасне,*
*што ў пустыні далёкай,*
*У краі, дзе сонца ўзыход,*
*Там пальма на чорнай*
*вяршыні гаручай*
*Красуняй расце з году ў год.*

**1841 г.**

### Скальны выступ

*Залатая хмарка начавала*
*На грудзях скалістых велікана.*
*А зару сустрэла рана-рана.*

*Волкі след адціснуўся*
*ў маршчыне*
*Выступа старога, бачна воку.*
*Ён стаіць, задумаўся глыбока,*
*І ледзь чуцен плач*
*яго ў пустыні.*

**1841 г.**

### Чаму

*Сумую я таму,*
*што я цябе люблю,*
*І знаю: маладосць*
*ружовую тваю*
*Не зберажэ размоў*
*каварнае ганенне.*
*За кожны светлы дзень*
*салодкага імгнення*
*Слязамі і тугой заплаціш*
*праз гады.*
*Сумую я таму,*
*бо весялішся ты.*

**1840 г.**

### І нудна і сумна

*І нудна і сумна,*
*няма каму слова сказаць,*
*Калі ўсе нягоды кладуцца*
*на грудзі...*
*Жаданні!.. Што толку дарэмна*
*і вечна жадаць?..*
*Гады ж праляцяюць —*
*іх, лепшых, не будзе!*

*Любіць... ды каго ж?.. а часова —*
*не варта зусім,*
*Сыходзіць любоў непазбежна.*
*Душу варухнеш? —*
*не захочацца жыць у былым:*
*І радасць, і мукі,*
*і ўсё там нікчэмна...*

*Што страсці? —*
*нядоўга ў душы ім кіпець,*
*Іх слодыч разводзіцца*
*розумам вечным;*
*Жыццё ж, калі пільна наўкруг*
*паглядзець, —*
*Такое пустое, як жарт*
*недарэчны...*

**1840 г.**

Пераклаў Юрась СВІРКА



*Выдумляць адзенне яму было цікава заўжды. Кожны раз, калі хлопчык хварэў ангінай ці грыпам, і сумна было ляжаць пад коўдрай, ён пачынаў гуляць са сваімі сёстрамі, разам маляваць і выразаць убранне для папяровых лялек... Потым — вучоба ў харэаграфічным вучылішчы, Інстытуце культуры, захапленне балетам, авіяцыяй, беларускім харэаграфічным фальклорам, з кінакамерай аб'ездзіў і абышоў усю Беларусь. У 1990 годзе на некаторы час ён пакінуў свет моды, потым вярнуўся зноў, як заснавальнік агенцтва моды "Саша Варламаў". А сёння ён самы вядомы дызайнер вопраткі на Беларусі, аўтар праекта "Млын моды", дырэктар агенцтва моды, рэжысёр і харэограф моды Саша Варламаў.*

*У чым прынцыповая розніца паміж агенцтвам мадэляў і агенцтвам моды, чаму маладыя дзяўчыны імкнуцца ў мадэльны бізнес, чаму вяртаецца мода мінулых гадоў і што будзе модным у новым сезоне, расказвае чытачам "ЛіМа" Саша Варламаў:*

# Саша ВАРЛАМАЎ: "Я прынцыпова супраць... агенцтва мадэляў!"

## Усё пачынаецца з моды

**— Аляксандр Леанідавіч, растлумачце нашым чытачам, чым адрозніваецца мадэльнае агенцтва ад агенцтва моды?**

Усё пачынаецца з моды. Агенцтва моды працуе з дызайнерамі вопраткі, праводзіць метадычную працу, распрацоўвае эскізы і займаецца непасрэдна паказамі моды. Такім чынам ствараецца прадмет моды: вопратка, абутак, прычоска і г.д. Словам, агенцтва моды працуе непасрэдна са стваральнікамі моды і з'яўляецца адным з яе каардынатараў.

Аднак для таго, каб мода была прадстаўлена адпаведным чынам, у яе стварэнні прымаюць удзел фатографы, тэлебачанне, прэса і ... самі мадэлі, паколькі ўсё тое, што яны робяць, прызначана для чалавека. Акрамя таго, агенцтва мадэляў уваходзіць у склад агенцтва моды. І тут галоўны арыенцір накіраваны на непасрэдную працу з людзьмі, якія "выносяць" вопратку на подыум, экран ці для фотаздымка. Менавіта ў гэтым назіраецца відавочная розніца паміж агенцтвам моды і агенцтвам мадэляў.

Я прынцыпова супраць... агенцтва мадэляў, як асобнай адзінкі. Падкрэслю, што мае мадэлі — не тыя людзі, што сядзяць за столікам і п'юць каву з багатымі людзьмі. А тыя, хто выносіць моду непасрэдна на сцэну, на экран у якасці візуальнай рэкламы.

**— Вы аднойчы сказалі, што мадэль — гэта "сімвал стандарта, а не прыгажосці". Мадэлі вашага агенцтва стандартныя, ці ўсё-такі прыгожыя?**

Мае мадэлі стандартныя. Ведаеце, у чым справа? Слова "прыгожа" суб'ектыўна. Раніцай прыгожае адно, днём — другое, увечары — трэцяе. Тое, што падабаецца мне, можа, зусім не падабацца іншаму чалавеку. Нас акаляюць нейкія прадметы, якія мы фарміруем вакол сябе ў адпаведнасці з нашым асабістым густам. Зайдзіце ў любую кватэру, і вы ўбачыце, што там усё зроблена ў адпаведнасці з густам гаспадароў...

Калі мы ацэньваем штосьці, тады і прыўносім суб'ектыўную адзнаку. Тое самае адбываецца і ў мадэльным бізнесе. Больш таго, адзначу, што мадэль не павінна быць... прыгожай, я б сказаў — штучна прыгожай. Яна павінна быць вобразнай, адметнай, з характэрнымі рысамі. Любы чалавек, які працуе мадэллю, павінен валодаць стандартнымі антрапаметрычнымі дадзенымі: гэта памер, аб'ёмы фігуры, рост (175 — 180 сантыметраў для жанчын, 182 — 190 сантыметраў для мужчын) і прапорцыі цела (так, торс не павінен быць даўжэйшы за ногі). Такі нюанс: усе калекцыі свету шыюць на адзіны размер (90 — 60 — 90). Але калі чалавеку 12 — 14 гадоў і ён працуе ў агенцтве, нельга гаварыць пра такія прапорцыі, паколькі ён сябе толькі рыхтуе для будучай кар'еры, і гэта таксама трэба ўлічваць.

**— Як звычайна плануецца будні дзень мадэлі і дызайнера вопраткі?**

Для пачатку трэба... раненька прачнуцца, паколькі тыя мадэлі, якія не могуць раніцай расплюшчыць вочы і позняцца, нікому не патрэбныя. Спазненне лічыцца некарэктнай якасцю любога чалавека, у тым ліку, і мадэлі. Потым варта падумаць, што ты ясі, паколькі менавіта ад гэтага залежыць знешні выгляд мадэлі. Тут няма правілаў; бо насамрэч аднаму чалавеку патрэбна мяса, іншаму — садавіна, трэцяму — маркоўны сок, чацвёртаму — зялёная гарбата, а пятаму — дастаткова толькі вады выпіць.

Аднак знешні выгляд для мадэлі — гэта далёка не ўсё! Так, яна павінна быць дагледжанай ад пятак да макаўкі, але павінна і ўмець размаўляць з разумнымі людзьмі. А для гэтага варта як мага больш чытаць, і набірацца ведаў. Ну і канечне, у яе абавязкі ўваходзіць абавязковае наведванне прымерак, рэпетыцый, паказаў. Яна павінна ўмець адмаўляцца ад розных спакусаў і казаць цвёрдае "Не!". Прыкладна так выглядае дзень чалавека, дзе ўсё падпарадкавана прафесіі.

...А што тычыцца звычайнага раскладу дня дызайнера вопраткі, дык ён у першую чаргу залежыць ад таго, як прайшоў яго папярэдні дзень. Скажу пра сябе: калі сёння я зрабіў шмат, заўтра магу больш спакойна ставіцца да працы. Я абавязаны ведаць, як апранаюцца людзі рознага ўзросту сёння, што ім падабаецца, чаго яны хочуць. А для гэтага трэба назіраць, слухаць, аналізаваць і... прадугледжваць, улічваючы, што ў кожнай краіне людзі апранаюцца па-рознаму. Прызнаюся: я ствараю не тое, што апраналі ўчора, а тое, што будуць апранаць заўтра. Гэта мой дэвіз...

**— Аляксандр Леанідавіч, чаму, на ваш погляд, маладыя дзяўчыны так імкнуцца трапіць у мадэльны бізнес? І дзе тут месца мужчынам, што імкнуцца прыгожа апранаць увесь свет?**

— Мне падаецца, што маладых дзяўчын прываблівоюць незвычайныя прыгоды ў звычайна-шэрым, сумным жыцці, якое падпарадкаванае зададзенаму сцэнарыю. А ў модзе — наадварот, ніхто не ведае, што будзе модна заўтра, усё мяняецца як у калейдаскопе. Чалавек, які апынуўся на прафесійнай сцэне і сярод прафесіяналаў, набывае неверагодную колькасць уражанняў, вопыту, зберагае гэта як... спадчыну і карыстаецца ёй на працягу ўсяго жыцця. Жыццё мадэлі — гэта бясконцыя сустрэчы, эмоцыі, уражанні, самапераканананасць, адыход ад комплексаў. Але, на вялікі жаль, на Беларусі мадэлі не зарабляюць грошай, паколькі адсутнічае канкурэнцыя. Адбываецца своеасаблівая цэпная рэакцыя: няма канкурэнцыі, няма рэкламы.

Што тычыцца месца мужчыны ў мадэльным свеце, скажу, як дызайнер вопраткі: я сааўтар. Бог стварыў чалавека, а я — апранаю яго стварэнне.

**—А ці існуюць перспектывы развіцця мадэльнага бізнесу ў межах нашай краіны?**

— Мадэлі будуць запатрабаваныя толькі ў тым выпадку, калі з'явіцца дастатковая колькасць тавара і кожны чалавек будзе імкнуцца прадаць тое, што ён стварыў. Мадэль — гэта прадукт моды, і яна не можа існаваць па-за модай.

## Інтрыгі, як над'емная частка жыцця

— Аляксандр Леанідавіч, што вас найперш прываблівае ў гэтай працы, бо не ўсё ж так гладка і проста, як здаецца? І падзяліцеся сакрэтам: як пазбегнуць інтрыг?

Інтрыгі існуюць нават у манастыры ды такія, якія вам і не сніліся. Што ж тады можна гаварыць пра свет моды, дзе кожны чалавек хоча падабацца ўсім, быць любімым, выглядаць лепей, атрымліваць больш увагі, апладысментаў, заказаў?! Адсюль бярэ свой пачатак канкурэнцыя. Менавіта яна з'яўляецца адзіным шляхам развіцця, руху наперад. Той, хто перамагае ў канкурэнцыі, перамагае ва ўсім.

Лічу, што наогул без інтрыг сумна існаваць, ад іх нельга пазбаўляцца, з імі трэба ісці па жыцці. Няма інтрыг — нічога няма... Бясспрэчна, у свеце моды вельмі складана жыць, таму людзям дурненькім, нервовым, са слабым характарам тут няма чаго рабіць.

**— У свой час вы былі артыстам балета. У адным са сваіх інтэрв'ю вы прызналіся: "Балет — катаржная праца, у якой усё дасягаецца праз мышачны і фізічны боль. Страх сцэны перашкаджае самавыяўленню". А што дапамагае самавыяўленню ў модзе?**

— Сапраўды, некаторы час я быў балетным артыстам. Справа ў тым, што я вырас у Оперным тэатры. У харэагрфічным вучылішчы выходзіў некалькі разоў са спектаклямі. Аднак я не адчуваю страху сцэны. А самавыяўленню ў модзе спрыяе імкненне да запатрабаванасці, жаданне выявіць свае прафесійныя магчымасці.

**— Яшчэ ведаю, што паралельна з вучобай у Інстытуце культуры вы працавалі мадэллю ў Тэатры моды. Як лічыце, модзе заўжды ўласцівы элемент тэатральнасці, ці можа, іншыя якія якасці?**

— Не, мода — гэта вечны канфлікт паміж тымі, хто пачынае разумець яе як сродак самавыяўлення (моладзь 15 — 20-ці гадоў) і тымі, хто апынуўся за мяжой элегантнасці. Гэты канфлікт нельга ўрэгуляваць, паколькі ён уяўляе сабой непазбежную вайну пакаленняў. Дзеці разумеюць: тое, што апранаюць іх бацькі не геніяльна і неверагодна сумна. Яны пачынаюць выдумляць сваё, ламаць усе стэрэатыпы. Самая галоўная тэндэнцыя сённяшняй моды — нічога святога з пункту гледжання гармоніі і маралі.

— І ўсё-ткі час перыядычна вяртае нам моду мінулых гадоў, як зараз часткова вярнуўся стыль 70-х. З чаго так адбываецца?

— Нейкім чынам зараз выкарыстоўваюцца і элементы моды пасляваенных гадоў. Назіраецца вяртанне 60 — 70-х гадоў, хіпі, ружовыя, блакітныя сукенкі ад Мэрылін Манро. Але мода не проста вяртаецца, а перапрацоўваецца, бярэцца нешта асобнае, паколькі прыдумаць абсалютна іншае і новае проста немагчыма. Вопратка выконвае былыя свае функцыі, а вось чалавек выяўляе сябе па-іншаму.

**— А на вашых калекцыях адлюстроўваецца ўплыў часу, ці ваша творчая дзейнасць накіравана толькі на сённяшні і заўтрашні дзень, а, значыць, у калекцыях толькі наватворы?**

— У залежнасці ад таго, што і дзеля каго я раблю. Вопратка маіх калекцый накіравана нават на паслязаўтра, але народжаная з майго унутранага стану, дзе перамяшана ўсё тое, што я здолеў пабачыць за пражытыя гады свайго жыцця.

## Ад тэатра да "Млына" і... кніг

**— Вы з'ўляецеся арганізатарам самага буйнога на Беларусі фестывалю "Млын моды", на якім прадстаўляюць свае калекцыі беларускія дызайнеры. Які далейшы лёс калекцый? І, дарэчы, дзе можна набыць рэч, якая спадабалася?**

На такіх мерапрыемствах дызайнеры, як правіла, выстаўляюць свае калекцыі, каб параўноўваць і адначасова набірацца вопыту. А гэта дадае прафесіяналізму. Каб набыць мадэль, якая спадабалася трэба толькі патэлефанаваць дызайнеру, і ён пашые яе для вас. Дарэчы, не толькі тое, што вы пабачылі...

Будучыня моды за індывідуальным пашывам, а не за фабрычнай вопраткай! Апошняя нікому не патрэбна. Калі чалавек як асоба даходзіць да разумення і жадання самавыяўлення, ён звяртаецца да дызайнера.

**— Як складаецца лёс вашага ўласнага брэнду "Саша Варламаў"?**

— Безумоўна, вопратку, зробленую мной, можна набыць. Але я ніколі не стаўлю на яе сваё імя, паколькі лічу гэта... смешным. Я не імкнуся быць падобным на каго-небудзь. Прыгожае выдзяляецца не імем, а талентам падачы... Краіны, якія пераймаюць штосьці ў іншых — смешныя. Так, Прыбалтыка заўсёды бярэ прыклад з Захаду; не разумею, для чаго гэта патрэбна, ці не лепей быць самім сабой?

**— І што цікава: песні вось пішаце, а яшчэ — сёлета адбылася прэзентацыя вашай кнігі "Модныя казкі". Набліжаецца да завяршэння праца над новай кнігай — "Піжонам". Што падштурхнула пісаць?**

— У мяне выйшла чатыры кнігі: дзве энцыклапедыі, адна з якіх мае назву "Этнаграфія Беларусі" і складаецца з 70-ці артыкулаў, "Супермадэль: прафесія мары", "Модныя казкі ад Сашы Варламава"... Існуюць разнастайныя спосабы выяўлення: у колеры і тканіне, альбо ў слове. Ведаеце, ствараць кнігі — не менш цікавы занятак за распрацоўку вопраткі. Шчыра кажучы, мне падабаецца выяўляцца ва ўсім. Мне заўжды ўсяго мала.

**— Аляксандр Леанідавіч, агульнавядома, што сярэдняга чалавека мода цікавіць з двух пунктаў гледжання. Па-першае, утылітарнага ("што мне заўтра апрануць?"), па-другое, відовішчнага (fashion-show у прамым сэнсе гэтага слова). А чым спадарыня Мода з'яўляецца для вас?**

— Як мяне ўспрымаюць знешне, так да мяне і ставяцца. Я прытрымліваюся меркавання, што на чалавека можна "накруціць" усё, што заўгодна і пры гэтым неабавязкова быць таленавітым і прафесійным. Наогул, чым менш прафесіяналізму, тым больш глупстваў вакол чалавека. А дызайнер вопраткі — гэта асоба, якая стварае від мастацтва, якім можна карыстацца. Таму для мяне спадарыня Мода з'яўляецца сяброўкай.

**— І, вядома ж, аніяк не абысціся без парадаў знаўцы: што будзе модна ў сёлетнім сезоне лета — восень?**

— Магчыма, нешта лацінаамерыканскае, стыль Мэрылін Манро, спадніцы ў складку. Будзе моднай вопратка, "сарваная з чужога пляча", калі паверх майкі апранаюць балахон, на некалькі памераў большы, кшталту адзення навырост. У спартыўным стыле дамінуюць пантофлі ў форме футбольных буцаў. Вострыя доўгія насы наогул выйшлі з моды. Модная будзе "вуліца", яе "працоўна-сялянская ўскраіна": непамысныя колеры, разводы і самыя разнастайныя варыянты як бы смярдзючай, кіслай памыйкі; карацей, стопрацэнтны экстрым і шок.

**Марына ЦЯРЭШЧАНКА**

# Старонка для дзяцей

Выпуск № 4


Фота Я. Залужнага

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

## Рак шыракапальцы

*У затоку па пяску, па гальцы*
*Шкандыбае рак*
*шыракапальцы.*

*Чарвякі схаваліся*
*за крушняй —*
*Грозны рак і там дастане*
*клюшняй.*

*Сам шчупак яго баіцца*
*хапаць:*
*Во які вялізны, быццам*
*лапаць!*

*Могуць толькі выдры*
*альбо норкі*
*Рака выдраць з-пад карча*
*ды з норкі.*

*Ён і ўдзень спажыву*
*бачыць слаба,*
*Пазнае на дотык:*
*жук ці жаба?*

*Растаўсцей бядак,*
*і нечакана*
*Лопнуў панцыр, як сурдут*
*у пана.*

*Рызманы цягаць, канечне,*
*сорам,*
*І вось новым рак фарсіць*
*уборам.*

*На турніры сходзяцца*
*задзіры,*
*І звіняць іх клюшні,*
*як рапіры.*

*Адрастаюць пасля гэткіх*
*сечаў*
*Вус ці клюшня, калі хто*
*знявечыў.*

*Рак уперад поўзае*
*спрадвеку,*
*А назад —*
*як чуе небяспеку.*

*Нішчыць рака вораг*
*самы розны.*
*Гэта рак на выгляд*
*вельмі грозны.*

**Валянцін ЛУКША**

## Кніжка-цацка

*Так,*
*Няпроста разабрацца*
*З чараўнічай*
*Кніжкай-цацкай*
*Разгарну яе —*
*Ракета*



*Выклік кідае*
*Сусвету.*
*Адгарну старонку*
*Спраўна —*
*А на Марсе*
*Касманаўты.*
*А далей, —*
*Вачам не веру, —*
*Карабель наш*
*На Венеры...*
*А далей, —*
*У шлях бясконцы*
*Мы ляцім,*
*Ляцім да Сонца...*
*Закрываю дзіва-кніжку,*
*А душа*
*Усё вышай,*
*Вышай...*
*Трэба мне*
*Усё,*
*Што бачыў,*
*Яваю зрабіць,*
*Няйначай.*

## Як на лузе з'явіліся кветкі

Казка

Надзейкі, Наткі і Светкі, Дзімкі, Сярожкі і Тараскі, а таксама астатнія ўсе дзеткі, раскажу я вам сёння казку пра кветкі.

Здарылася гэта так даўно, што і сведкаў таму няма, і забылася б, мабыць, яно, каб не казка сама. А казка, яна як завязка, даўно звязалася, ад прадзедаў да дзядоў перадавалася, потым да іх дачок ды сыноў дабралася. Глядзіш, якраз і дайшла да нас.

Верце ці не верце, а былі часы на свеце, калі на зямлі нашай роднай не расло кветачкі ніводнай. Куды ні кінеш вокам — адна трава зялёная навокал.

І аднойчы Луг, пазелянеўшы ад злосці, згарнуў свой дыван перад Сонейкам-госцем.

А Сонца знямогла з дарогі — ледзьве трымаюць ногі. Самы б час росаў папіць, каб сілы набрацца ды ў траве-мураве паваляцца. Толькі дзе тыя травы, што шумелі на славу? Быццам нехта скасіў іх касою і карэньчыкі ўбраў за сабою.

Засмуцілася Сонца:

— Дзе ты, Лузе бясконцы?

А Лугу быццам гэта і трэба, ён тут жа ўзмаліўся да неба:

— 0, Сонца маё бласлаўлёнае, не хачу быць толькі зялёным я.

— А якім ты быць хочаш, скажы, калі ласка?

— Такім, каб цвілі лета цэлае краскі.

— Няўжо па адных ты сумуеш так кветках?

— І толькі па гэтым...

Паслухала Сонейка Луг, азірнулася ўшыркі наўкруг:

— Сыпну табе кветак я розных, дай толькі напіцца мне росаў.

— А не падманеш мяне ты, Свяціла?

— Няхай Бог адыме тады мае сілы!

І Луг разгарнуў дыван свой зялёны — і Сонца ўпала ў травы стамлёна.

Прагна смактала расінкі, потым хвілінка спачынку — і вось ужо Сонца па Лузе бясконцым, нібыта па сходках, на неба ўзляцела так вёртка, што Луг аж прысеў:

— А краскі мне хто прынясе?

— Заўтра, мой Лузе, на золку табе прынясе іх Вясёлка. Неспакойнай была тая ноч уся. Луг і ведаў адно, што варочаўся. Змарыўся так, аднак, што на золку не здолеў сустрэць ён Вясёлку. Хіба і прачнуўся Луг, калі ўжо кветкі цвілі наўкруг. Здавалася нават яму, што бачыць Вясёлку саму. Бо Луг на яе, на Вясёлку, і сам стаў падобны на золку.

А неўзабаве промнікам тоненькім зірнула з-за лесу і Сонейка. І Луг шчаслівы гукнуў зычліва:

— Дзякуй табе за такую красу!

— Гэта табе дзякуй, Луг, за расу!

Вось так за дабро дабром плацяць.

А хіба не так кажуць і ў народзе?

**Анатоль ЗЭКАЎ**

**Вольга КУРТАНІЧ**

## Ночка

*У полі стаптаным*
*цёмная ночка*
*Стужку згубіла*
*з гарэзлівых кос;*
*Зоркамі плача:*
*нідзе ні слядочка.*
*Вецер калматы ёй коскі*
*растрос.*
*Журыцца, бедная:*
*сслеплыя вочы*

*Мружыць з пакосаў*
*узняты туман;*
*Стужку на полі*
*ці мышы паточаць,*
*Ці забярэ лесавы*
*яе пан.*

*Зганіць міжволі*
*з ілба аблачынку,*
*Месячык гляне*
*дзівак-уцякач,*
*Вытчэ праменьчыкам*
*ёй павучынку:*

*"На, прыбяры ў свае косы*
*й не плач".*





Рэбус Івана Бокія

**Серафіма БЕСТАВА**

## Кот на плоце

*Сонца свеціць, сонцаззяе,*
*Кот на плоце загарае.*
*То спіну, а то бачок*
*промням падстаўляе.*
*Усю зіму чакаў ён лета,*
*І чакаў ён цеплыні*
*І цяпер яму за гэта*
*Ззяе сонца з вышыні.*



## Пра пчолку

*Ах, як пчолку сустракалі*
*На лужочку авадні.*
*Для яе ўвесь дзень спявалі,*
*Як ўмелі танцавалі.*
*Адным словам, сустракалі,*
*Як раднейшую з радні.*
*За руплівасць паважалі,*
*Працавітасць ухвалялі.*
*Ёсць за што яе ўхваляць.*
*А вось самі не жадалі*
*Так, як пчолка, працаваць.*

## Майскі жук

*Майскі жук каля бярозы*
*Усю ноч гудзеў так грозна,*
*І так злосна.*
*Усю ночку спаць не клаўся,*
*На каго ён так злаваўся,*
*Хто яму за ўпадабаўся?*
*Ну, напэўна,*
*камары,*
*Што звінелі*
*да зары.*

## Цілі-Бом

*Грай на скрыпачцы камарык*
*Цілі-Бом, ды цілі, цілі.*
*Каля пня кружылі пары,*
*Можа, цэлы дзень кружылі.*
*Разам з мухай*
*чмель кружыўся,*
*Камару сказаўшы: "Грай!"*
*Чмель у працы не стаміўся,*
*Дзе ён стоміцца гультай?*

## Вераб'іная сямейка

*Вераб'іная сямейка*
*Вельмі любіць працаваць.*
*Татка з мамкай*
*Вучаць дзетак*
*Двор у чысціні трымаць.*
*Усе крошачкі-зярняткі*
*Чыста-чысценька збіраць.*
*Глянце, як малы сыночак*
*Абышоў кожны куточак.*
*Дзюбачкаю падабраў,*
*Хвосцікам пазаматаў.*

Малюнкі А. Патапенкі

ФОТАРЭПАРТАЖ

# Беларускі фэст... не для беларусаў



У 1990-м на паляне пад Грудэкам, невялічкім польскім мястэчкам, што за 40 кіламетраў ад Беластока, Беларуская асацыяцыя студэнтаў у Польшчы (BAS) ладзіла пікнік, запрасіўшы колькі дзесяткаў музыкаў. Нехта з прысутных пажартаваў: "Сапраўднае BASовішча".

У 2004-м юбілейны, XV фестываль музыкі маладой Беларусі "Басовішча" прыняў 30 гуртоў ды каля 15 тысяч гасцей з Беларусі і Польшчы, зрабіўшыся буйнейшым святам беларускае хард-культуры — гэткім нашым Вудстокам.





Па даўняй традыцыі, мерапрыемства ладзілася два дні. Пачатак фэсту азнаменаваўся "паказальнымі выступамі": на "вольнай сцэне" гралі музыкі, майстэрства якіх цалкам адпавядае "Басовішчу", але не адпавядае ягонаму фармату. Да прыкладу, першай песняй фестывалю стала "Малітва" на вершы Наталлі Арсеннёвай у выкананні пінскага гурта "Black Sugar". Затым гралі "зоркі", у ліку якіх — леташнія пераможцы фестывалю. Не дзіва, што менавіта яны задавалі тон, за якім не паспявала большасць астатніх выступоўцаў.

Другі дзень парадаваў большай разнастайнасцю шоу-прадукта. "Эксперты" — журналісты, якія з году ў год асвятляюць "Басовішча", у адзін голас заявілі, што вельмі цікава прагучаў 40-хвілінны сэт ветэранаў беларускага панку — гурта "Zygimont Vaza". У адной праграме з маладымі выканаўцамі выступалі прызнаныя польскія ("Rima", "Zero 85") і беларускія зоркі ("Ulis", "Крама", "Нейро Дзюбель", "N.R.M.") зоркі.

Галоўны прыз "Басовішча" атрымаў мінскі панк-гурт "Тарпач". На працягу года ў музыкаў будзе магчымасць прыехаць у Польшчу і скарыстаць 80 гадзін працы ў студыі "Radio Bialystok" на запіс альбома. Пры тым, кошт паездкі, пражывання ў Польшчы, а таксама выдання альбома ўключаны ў гран-пры. Цікава, што бубнар "Тарпача" Аляксей Яфрэменкаў выйграў "Басовішча" ў другі раз: упершыню ён атрымаў гран-пры ў складзе каманды "Partyzone" два гады таму. Другі прыз фестывалю — грашовую ўзнагароду ад мэрыі Грудэка — атрымаў мінскі калектыў "Sonca-varot".



На вялікі жаль, па невядомых нам прычынах беларускія арганізатары адмовілі журналісту "ЛіМа" ў афіцыйнай акрэдытацыі на фестывалі. Тым не менш, самая значная рок-падзея года, якой стала "Басовішча" пасля заўчаснага скону "Рок-каранацыі", вымагала шырокага асвятлення; уласныя ж крыўды на сп-ра Памідорава & Co, падаліся неістотнымі. Адзначу толькі, што, "дзякуючы" намаганням падобных персон, "Басовішча" амаль не асвятляецца ў беларускіх сродках масавай інфармацыі, у адрозненне ад польскіх, якія прадстаўлены тут ледзь не ўсімі тэлеканаламі. Як вынік, за апошнія 15 гадоў фэст так і не зрабіўся па-сапраўднаму "народным" святам беларусаў; хутчэй, ён больш нагадвае гастролі агромністай колькасці беларускіх музыкаў у Польшчы, якія выступаюць для польскай жа публікі, у той час як на іх Радзіме "Басовішча" ўспрымаецца дзесяткамі тысяч фанатаў як фэст-легенда, які "хтосьці наведвае, але не яны" — бо "яны ж не эліта".



**Мікалай АНІШЧАНКА,**
**Грудэк—Беласток—Мінск**
**Фота аўтара**

СУСТРЭЧА

# Выканаўчае майстэрства — гэта... ідэалогія!

**Яе голас вядомы многім суайчыннікам дзякуючы радыё, і не дзіва: народная артыстка Беларусі Тамара Пячынская — салістка Нацыянальнай Дзяржтэлерадыёкампаніі.**
**У яе надзвычай рэдкае мецца-сапрана, спявала яна і на опернай сцэне, аднак перавагу аддае старадаўнім рамансам...**

## Лёс даў два шанцы

— Думаецца, я спявачка ад нараджэння; ужо ў 3-4 гады мяне выстаўлялі на крэсла перад гасцямі спяваць (смяецца)... Музычнае вучылішча закончыла ў Омску, пасля вучылася ў екацярынбургскай акадэміі ў прафесара Зоі Васільеўны Шчолакавай, якая да вайны спявала ў Вялікім тэатры. Дарэчы, падчас Вялікай Айчыннай у Екацярынбург выехала шмат выкладчыкаў з Масквы і Ленінграда, вучыцца ў іх было за гонар. А вось дыпломную работу ацэньваў дырыжор з Мінска, паставіў высокі бал, а я — зусім дзяўчо — выконвала складаную "дарослую" арыю Амнерыс з "Аіды". Пасля — кансерваторыя, аспірантура, сям'я, дзіця і... ад'езд у Мінск за мужам-ваенным.

Вельмі ўдзячная тым, хто падтрымаў мяне тады: Т. Ніжнікава, Н. Гайда, Э. Тырманд. А заўважылі, хаця і з цяжкасцю, праз новую оперу "Сівая легенда" кампазітара Д. Смольскага. Я выконвала партыю Любкі; адразу ж з'явіліся артыкулы ў "Огоньке", "Известиях", іншых цэнтральных савецкіх выданнях. Трыумф? Дзе там, я ж працую па дамове ў тэатры — усё ніяк сталага месца няма... І тут адбыўся класічны выпадак: на гастролях у Маскве салістка адмовілася выйсці на сцэну, я замяніла яе. І адразу ж напоўніцу пачала ўдыхаць аўру вялікай сцэны, па якой хадзілі ножкі куміра многіх — Абразцовай.

...Як адбывалася станаўленне? Лёс даў мне новы шанц. У выніку абставін давялося ехаць за мужам у Харкаў; трапіла ў Харкаўскі оперны, выконвала маленькія ролі. І вось захварэла галоўная выканаўца партыі... Амнерыс. Так я стала вядучай. Гэта быў сапраўдны поспех!

## Свая публіка слухае сэрцам

— А як жа Мінск? Ізноў мы з сям'ёй трапілі ў гэты горад, ужо назаўсёды. Тут выйграла конкурс на радыё. Тады ж, у 80-х, праспявала амаль усіх беларускіх кампазітараў: А. Багатырова, Я. Глебава, Д. Смольскага, А. Елісеенкава, В. Сярых. Яшчэ ў кансерваторыі мне ставілі "дыягназ": камерная спявачка. У чым адрозненне ад опернага выканання? Тут патрэбны псіхалагізм, нюансасць, танчэйшае выкананне, ці што... На той час я запісала мноства класічных твораў: Баха, Бізэ, Вэрдзі, Рахманінава, Рымскага-Корсакава, Чайкоўскага, іншых. Дык вось, дзякуючы запісам, я навучылася як бы слухаць свой голас, услухоўвацца ў таны і паўтаны, навучылася атрымліваць тое гучанне, якое патрэбна.

Што радуе? Што моладзь адчувае новую цікаўнасць да класічнай музыкі. Айчынная публіка ўспрымае выступленні сэрцам. Аднак, хацелася б заўважыць, што наша культура толькі тады падымецца на належны ўзровень, стане высокадухоўнай, калі класічнае мастацтва будзе падтрымлівацца дзяржавай. Не варта забываць, што выканаўчае майстэрства — гэта свайго роду... ідэалогія. Згадайце, як на патрыятычных песнях і класічнай музыцы будавалася, мацавалася вера ў "Саюз непарушны". І гэтую ролю — змацоўваць грамадства — у музыкі нямажна адбраць.

**Вольга МЕШЧАРАКОВА**

МАЙСТЭРНЯ

# Глядач ацэньвае не тытул, а талент

Ягонае знаёмства з Беларуссю пачалося са службы ў войску, у 121-м гвардзейскім авіяпалку ў Мачулішчах. Там пры ягоным непасрэдным удзеле быў адкрыты музей славы, дзе пачэснае месца занялі бюсты 20 герояў Савецкага Саюза. Пабачыўшы і ацаніўшы талент Спартака Аруцюняна, радавога салдата з Арменіі, ваеннае начальства нават хадайнічала перад Беларускім тэатральна-мастацкім інстытутам, каб прынялі хлопца туды вучыцца. Аднак з-за кепскага ведання рускай мовы паступіць ён не змог.

— Але лёс быў літасцівы, і ў 1980 годзе, ужо пасля войска, я стаў працаваць на мастацка-вытворчым камбінаце ў Мінску. Пазнаёміўся з многімі выдатнымі мастакамі, скульптарамі; так шліфаваўся мой талент, дадзены зямлёй продкаў...

Колькі помню сябе, увесь час любіў ляпіць фігуркі, многія сяльчане пазнавалі сябе ў пластылінавых чалавечках. Магчыма, перадалося гэта ад дзеда, які быў каменячосам. Пазней прыйшло захапленне жывапісам. Але не кідаю і лепку, праўда, увесь час знаходжуся ў пошуку ідэальнага тыпажу... але знайсці ідэал не так лёгка.

**— А кантакт з беларускімі калегамі знаходзіцца лёгка?**

— Па-рознаму. У мяне былі персанальныя выставы, у тым ліку і за мяжой — у Польшчы, Германіі. Здаралася, пыталіся: а як ты выстаўляешся, ты ж не член Саюза мастакоў? Аднак зараз падобных пытанняў не задаюць, мусіць, часы не тыя... Памятаю і такое: ладзіцца аукцыён, прапануюць удзел у ім, а чыноўнікі ад мясцовага мастацтва раптам чапляюцца, маўляў, прозвішча ў мяне зусім не беларускае, няма чаго мне прадстаўляць рэспубліку. Глупства ўсё гэта, гледачу і пакупніку патрэбны не твае тытулы, а талент — вось што ён ацэньвае. Дарэчы, да службы ў войску я скончыў архітэктурна-будаўнічы тэхнікум на радзіме, у Арменіі.

**— Ці можна дзяліць мастацтва па нацыянальных прыкметах, як ты лічыш?**

— Безумоўна, не. Часта здараецца так, што прынесенае ў культуру як бы з боку, дае магутны імпульс для развіцця самой нацыянальнай культуры. Хіба патрэбны доказы? Зрэшты, для мяне самае важнае, каб на Беларусі — на зямлі, дзе мы жывём з сям'ёй, усё было спакойна, і каб у трох маіх дачок Ганны, Ануш і Лусіны ладзілася асабістае жыццё.

**— Аднак Арменія не толькі ў тваім сэрцы, а і на карцінах...**

— З узростам прыйшла свядомая, сталая любоў да роднай зямлі. Усё часцей задумваюся пра сэнс жыцця. І гэта нармальна. Сустракаюся з суайчыннікамі, у Мінску створана і працуе армянскае таварыства "АЯСТАН", тут шмат творчых людзей. Так што, калі трэба, мы дапамагаем адзін аднаму. Таксама актыўна супрацоўнічаем з нашым пасольствам, ладзім мерапрыемствы, сустрэчы. Так ствараем атмасферу малой радзімы на Беларусі — на зямлі, якая стала сапраўдным домам.

**Вольга КУРТАНІЧ**



# ...Шукаць сляды мінулага

"Янка Купала, пасёлак у калгасе імя Я. Купалы Гарэлецкага сельсавета. Створаны пасля кастрычніцкай рэвалюцыі. Паводле перапісу 1926 года 10 двароў, 42 жыхары. У 1942 г. спалены гітлераўцамі. У 1939 — 1954 гг. цэнтр Гарэлецкага сельсавета. На 1.01. 2002 г. 4 двары, 6 жыхароў". (З гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць" Пухавіцкага раёна.

Дзіўна, пагадзіцеся, было пачуць, што каторае з паселішчаў называецца Міхаіл Фрунзе альбо Аляксандр Пушкін. Ёсць, прыкладам, на нашай жа Пухавіччыне вёска Будзёнаўка. Няхай сабе ў гонар Будзённага Сямёна Міхайлавіча, але ж — толькі па прозвішчы названа. А ў выпадку з вёсачкай Янка Купала такія вось парадоксы часу, такія вось парадоксы тапанімічнага характару. І чаму ўсе ж такі менавіта гэтая вёсачка названая ў гонар народнага паэта Беларусі Янкі Купалы? І ці ў яго ўсё ж такі гонар? Каб разабрацца з гэтым выпраўляемся ў бок Гарэльца шукаць тую вёску Янка Купала.

Калі арыентавацца на карце полем-лесам, не дужа ўглядацца, ёсць там недзе дарогі ці няма, то ад Гарэльца мо які кіламетр і будзе да тае вёскі Янка Купала. Ды машыну ж па паветры не пагоніш, ды праз раку без маста не перакінеш. А мост калісьці тут праз Пціч быў пакладзены. Ды што там калісьці, цяпер — іншая справа. Таму пры цяперашніх справах і з Гарэльца ў вёсачку трэба дабірацца недзе кіламетраў за 6, лесам, праехаўшы абавязкова праз Ражышча. Нам што , мы з экскурсіяй едзем, наадварот — цікава лішнія кіламетры накруціць. А калі б кожны дзень пахадзіць так. Завітаўшы ў Ржышча, да сваёй вандроўнай купкі далучаем Уладзіміра Салаўя. Колькі хвілін — і мы ў паэтавай вёсачцы. Адразу падыходзім да котлішча Сіпачоў. Спадарожнікі згадваюць Сіпачоў — Андрэя Кірсанавіча, яго сына Міхаіла Андрэевіча. Чыйго лёсу ні дакраніся ў гэтых мясцінах — партызаны, падпольшчыкі.

І ўсё ж чаму Янка Купала?.. Старажылы ўспамінаюць: сюды на адпачынак прыязджаў паэт Янка Купала. Начаваў, хадзіў на раку. Чаму менавіта выбар паў на гэтую далёкую ад вялікіх дарог вёсачку? Дакладна адказаць ужо ніхто не зможа. Але жыхары ваколіц не дзівяцца, што едуць менавіта да іх, у іхнюю старонку. Лясы тут надзвычай багатыя на ягады, грыбы.

І едуць, збіраюць. Здараецца, блукаюць па лясах суткамі. Так, не дзівіцеся, — суткамі!.. З легенд нядаўняга часу — і гісторыя пра тое, як заблудзілі тут 3 артысткі цырка. Так грыбы ім даспадобы прыйшліся, што, пакінуўшы машыну, тры дні і тры ночы да яе выходзілі. Было такое, што аднойчы паляўнічы дэсантнікаў у лесе знайшоў. Тыя з компасам да дарогі выйсці не маглі. Мо і прыдумка гэта, легенда, дзе трохі ёсць і самалюбавання, самапавагі да сваіх нерушаў. Але ж, сапраўды, лясы тут выключныя.

Запрыкмеціўшы лясную прыгажосць, Купала не мог не пазнаёміцца з Лявонам Малахавым. Быў такі ў вёсачцы чалавек-дзівак, які так і не дапяў сваім сялянскім розумам, што ж значаць калгасы і якая з іх карысць. Таму і працаваў пры сельсавеце. Вартаваў, зімою, у халады паліў печы. А сельсавет тады быў якраз у вёсцы Янка Купала. І ўсе з ваколіц мясілі сюды дарогу па розныя паперкі. Сельсавет зусім невыпадкова атабарыўся ў маленькім паселішчы. Справа ў тым, што тут была самая лепшая на ўсю акругу хата. І належала яна пану мясцоваму. Хаця пана таго вы ні ў якіх спісах землеўладальнікаў не знойдзеце.

Уладзімір Салавей расказвае:

— У шапку каравяк збіраў... Такі працалюбівы быў, што шкадаваў і такога дабра... „ Ды і не панам быў зусім, а — заможным багатым селянінам. А прыйшло калгаснае жыцце — «пана» Кагоцьку рэпрэсавалі. Як яго звалі — не памятаюць і мае добраахвотныя экскурсаводы. З Поўначы Кагоцька ўжо не вярнуўся. А калі пачалася перабудова, прыязджаў з Латвіі яго сын — Павэлак Кагоцька. Кажуць, там у яго бізнес. Пахадзіў новы пан па бацькоўскім котлішчы, пакланіўся роднай і для яго зямельцы, ды паехаў, нічога ад новых улад не патрабуючы. Гены, моцная сялянская закваска дапамаглі, паспрыялі яму зарабіць сабе і гасподу, і грошы. Толькі да такога шчасця прайшоў ён праз многія выпрабаванні. Такая вось дыялектыка прыроды і дыялектыка . жыцця-быцця на зямлі... Няўжо абавязкова неабходны пакуты, каб нечага дасягнуць?.. Наўмысныя і страшэнныя пакуты... Лявон Малахаў сваёю мудрасцю, сваёй трываласцю на зямлі здзіўляў не толькі Янку Купалу і сваіх аднавяскоўцаў. Пагеройску партызаніў у Вялікую Айчынную...

А пасля вайны з Малахавым пасябраваў аматар рыбалкі і былы мар'інагорскі падпольшчык Макар Паслядовіч — вядомы па тым часе беларускі пісьменнік. Прыехаў аднойчы ў Янка Купалу — і прыкіпеў да мясцінкі. Лавіў рыбу, а яшчэ пісаў тут, вывучаў жыццё. І пра блізкі Ліпск напісаў вялікі раман "Святло над Ліпскам". У той кнізе ў каторых герояў — рысы, безумоўна, Лявона Малахава. Тады сярод іншых паселішчаў вёсачку вылучалі і два дубы. Адзін — на беразе Пцічы. Другі — прама ў двары Лявона Малахава. Помнікі прыроды!.. Той, што ў двары, застаўся і зараз. Жыве яшчэ помнік прыроды, жыве, спакутаваны, маланкаабпалены, абпалены вогнішчамі дзятвы неразумнай.

Дуб, рака, вёсачка памятаюць і нядаўніх знакамітасцей — пра іх другі Малахаў нам расказвае (ён, малады яшчэ мужчына, ды трое бабулек усяго толькі і жывуць у Янку Купалу):

— Калі мінскае "Дынама" ў самым росквіце было, сюды прыязджалі футбалісты на адпачынак. З усіх вёсачак збягаліся падлеткі і гулялі ў футбол з самім Мустыгіным, з Малафеевым... Дзед Малахаў і іх вучыў рыбу лавіць...

Ідзём далей па янкакупалаўскай дарозе. Крыху прытаптаная коламі легкавушкі мясцовага цяпер ужо дачніка, які жыве ў перарobленай, абкладзенай цэглай хаце Лявона Малахава. Не шмат па ёй ходзяць. Няма каму зямлю прытупаць, травінку прымяць. Ды і візіцёраў тут лішніх ніколі не бывае. Таму і нам крыху дзівяцца. А 83-гадовая Ніна Акімаўна Сачышына просіць нас перадаць удзячнасць унуку — Андрэю Сачышыну, які яе на зіму ў Мінск забірае, просіць падзякаваць і начальству, што ёй на лета сацыяльнага работніка прымацавалі. Прыязджае на веласіпедзе раз на тыдзень — і ўжо свет у бабулі ў вачах з'яўляецца. Лекі, якія трэба , прывязе, нешта з прадуктаў. А аўталаўка сюды дарогі не ведае. Ды іх , аўталавак, мусіць, на Пухавіччыне і няма, бо ў якую вёсачку ні завітаеш — не даязджаюць туды машыны. Наш спадарожнік Салавей рады, што ў Ржышча прадуктовая машына заварочвае. Хаця да нядаўняга часу ў тым жа Ржышчы і магазін працаваў.

...Прыгожыя тут мясціны. Глядзеў бы наўкола ды глядзеў! Нездарма ж рыбачыў тут і пісаў свае творы Макар Паслядовіч. Сыдуць у нябыт апошнія жыхары — і які след застанецца ад паселішча?!. І стане гэтая мясцінка "вёскай, знятай з уліку". Жах бярэ з такой перспектывы. Балюча і крыўдна, што багатая, жыццедайная беларуская вёска сыходзіць у нябыт. Пэўна, ужо не зачэпяць нашых нашчадкаў, не прымусяць іх хвалявацца, наваколлі Янкі Купалы...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

*Фота з архіва*



**ЗАХАРАВА, 19**




**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"; e-mail: minsk@lim.by**

*Адрас у Інтэрнеце — www.lim.by*





Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.







*У аматараў старой добрай "Маскі" дэпрэсія: Джым Керы скончыў сталець — і пачаў старэць. Самы здольны з сучасных амерыканскіх акцёраў-правінцыялаў (а канадскі мегаполіс Таронта, адкуль Джымі паходзіць, для амерыканцаў тое ж самае, што Мінск для масквічоў) прыкметна горш выглядае на экране, а адны і тыя ж жарты ды грымасы цягам дзесяці гадоў ужо не смешныя гледачам. Узрост адбіваецца ва ўсім, акрамя аднаго: розум акцёра застаецца халодным і чыстым. Як і яго героя ў* ***дзіўнай*** *стужцы "Вечнае ззянне чыстага розуму", што дэманструецца ў мінскіх кінатэатрах.*

## Мазгавы аборт

**Вечнае ззянне чыстага розуму /Eternal Sunshine of the Spotless Mind/**
**Рэж. Мішэль Гандры**
**ЗША, 2004**

Беларускія кіналінгвісты, відаць, так былі зачараваны чарговай галівудскай love story, што пераклалі назву фільма як "Вечнае ззянне захаплення". Назва ж сапраўдная, азначаная вышэй, літаральна гаворыць, што ў фільме ёсць месца і для амаль філасофскай ісціны: у любым выпадку галоўнае — **не губляць галаву.**

Ужо амплуа галоўнага героя Джоэля (яго грае Джым Керы) нетыповае: амерыканец-інтраверт. Калі праз некалькі хвілін пасля пачатку фільма на экране з'яўляецца гераіня **тытанічнай** галівудскай працы Кейт Уінслет (роля Клемянціны) з чырвонымі валасамі, зала кінатэатра канчаткова падзяляецца на дзве паловы: адныя пачынаюць калькуліраваць праміле выпітага дагэтуль алкаголю (ім фільм зусім не спадабаецца), другія — прагнуць сюжэта.

Апошняга не тое што бракуе — яго няма. Намёкі на тое, што ён планаваўся (але, мабыць, урэзалі бюджэт стужкі?) назіраем толькі ў завязцы. Знаёмяцца дзве супрацьлегласці і нейкім дзіўным чынам у іх атрымліваецца **нешта накшталт** кахання. Але як доўга можа амерыканка цярпець інтраверта, нават калі мае нейкія да яго пачуцці? Вось тут вучоныя трапляюць у яблычка: яны вынайшлі метад прамыўкі мазгоў ад залішніх успамінаў, брудных і не вельмі.

Усё проста: кліент плаціць грошы і заказвае, якіх успамінаў ён хацеў бы пазбавіцца. Прафесар са спецыялізаванай фірмы складае "карту" тых успамінаў, забірае ўсе рэчы, што маюць да іх дачыненне, а яго асістэнты за адну ноч праводзяць эўтаназію непатрэбных мазгавых клетак.

Вынаходніцтва скарыстоўвае Клемянціна: аднойчы цудоўнай раніцай яна прачынаецца без успамінаў пра былога каханага і пачынае новае жыццё. Пісьмо з кампаніі, што яго выкінулі з галавы, трапляецца беднаму Джоэлю. Раз'юшаны Керы (жаласнае відовішча) вырашае адпомсціць Клемянціне тым жа.

Астатнія 90 працэнтаў фільма займаюць блуканні Джоэля ва ўласных успамінах падчас аперацыі.

Керы — бясспрэчна, феномен "смешнага" кінематографа. Апошнім жа часам мы прызвычаіліся бачыць яго герояў у адчаі. Парадокс? Не.

Насамрэч, усюды, акрамя, бадай што, "Тупы і яшчэ больш тупы" (Dumb and Dumber), ён прадстаўнік шырокіх радоў тых, што належаць да катэгорыі "Добрыя хлопцы застаюцца з носам". І ў трагічным "Шоу Трумэна" (The Truman Show), і ў грамадзянска-пафасным "Брус Усемагутны" (Bruce Almighty) ён — яскравае ўвасабленне сярэднекласавага няўдаліцы, які нават сваё маўчанне тлумачыць тым, што "яго жыццё не такое ўжо цікавае".

Пафарбаваная дзяўчынка з суседняга пад'езда Каця Уінслет даверу не выклікае. У першыя хвіліны прагляду нават узнікае пытанне: "І як у такую можна закахацца?". Можна — лічаць амерыканскія сцэнарысты. Ну, не ведаю як закахацца, але **прызвычаіцца** — так.

У кожнай казцы ёсць толькі доля казкі. Жанры навуковай амаль фантастыкі і фэнтэзі (уласна казкі) пераплятаюцца **ў тэарэтычна рэальную драму** — але ні ў якім разе не ў камедыю, якую дакляруюць афішы. Падманутыя глядач заўважае, але не скардзіцца: хоць кіно тое Made in Hollywood, але з сэнсам усё ў парадку.

Ідэя фільма: чалавечае пачуццё ніякаму камп'ютэру не падуладна. Чым менш успамінаў застаецца ў памяці Джоэля, тым больш моцна ён кахае. Мазгавы аборт не ўдаецца. Хутка яны сустрэнуцца зноўку, закахаюцца зноўку і будуць жыць доўга і шчасліва. Аман.

**P.S.** Толькі не пачніце шукаць фірму, што пазбаўляе ўспамінаў. Фільм, **на вялікі жаль**, фантастычны.

Сцэнарый/ Ігра акцёраў/ Рэжысура — 9 (за цудоўную ідэю)/ 7/ 6



*Традыцыйныя дні французскага кіно, што ўжо 10 гадоў ладзяцца ў Мінску, у гэтым годзе не сталіся такім паказальным відовішчам, як, да прыкладу, шведскія кінапаказы. У Мінск не трапіла нават эліта французскай рэжысуры, хоць юбілей усталявання кінастасункаў, мабыць, і варта было б адзначыць падобным візітам.*

*Тым не менш, за дзесяцігоддзе словазлучэнне "новае французскае кіно" зрабілася вядомым у Мінску брэндам, паглядзець на які, хоць бы і не набываючы, трэба. Але часам і самы вядомы куцюр'е расчароўвае. Прычыны апошняй дысілюзіі мы паспрабуем прааналізаваць.*

## Алергія на каханне

**Толькі Бог мяне бачыць /Dieu seul me voit/**
**Рэж.Бруно Падалідэс**
**Францыя, 1998**

Калі перад пачаткам стужкі вам скажуць, што рэжысёр атрымаў за яе другога па ліку "Сезара" (французскі аналаг "Оскара" — **аўт.**), не захапляйцеся: і ў французскіх крытыкаў бываюць цяжкія дні.

Альбер зарабляе ўдзелам у "палітычна нейтральнай" выбарчай камісіі; сапраўдная ж прафесія, ці, дакладней, прызванне Альбера — трымаць мікрафонную вуду падчас здымак палітычных рэкламныхролікаў камуністаў. Таму не дзіва, што ён ездзіць на **"мініванне"** накшталт "Вартбурга" і ў вузкай кампаніі кляне "буржуяў", якія на Peugeout 406. Ганьбіць іх публічна не дае яму не сціпласць нават, а няўпэўненасць — не, не ў заўтрашнім дні — у сваіх уласных поглядах. Хіба поглядах?..

Сумніў адольвае Альбера ў кватэры (які касцюм апрануць?), на вуліцы (пераходзіць яе ці не?), за рулём (дзе ж прыпаркавацца?). Але ў рэшце рэшт, лёс канчаткова з яго здзекуецца і на працягу тыдня даруе самое нявінаватасці адразу трох жанчын. Нібыта прапануе гульню: угадай "сваю", і яна стане тваёй назаўсёды. Вось ужо сапраўды выпадак, калі мае права на існаванне словазлучэнне **"праблема выбару"**.

Першы прыпынак на шляху да асабістага шчасця — медсястра Сафі (Ізабэль Кандэлье), якая адметная трыма рысамі: працуе на пункце збору донарскай крыві, той крыві ў яе самая рэдкая група, а яшчэ яна мяняе каханкаў з газетнай перыядычнасцю.

У другі раз Альбер закахаецца праз 48 гадзін. Аб'ект — дэтэктыў Карын (Сесіль Буё), якая, у сваю чаргу, ёсць "дзеючай" палавінкай яго лепшага сябра — таксама сацыяліста-утапіста. Аб каварнасці трэцяй яго пасіі той самы сябра папярэджвае: з-за яе, маўляў, і не такія вешаліся. Рэжысёр-дакументаліст Ганна (Жана Балібар) аказваецца сапраўднай інтэлектуалкай. Бліц-крыг не ўдаецца, і гэта распальвае пачуццё, ад якога Альбера літаральна... ванітуе. Нарэшце, рэакцыю арганізма ён адолеў, але няўпэўненасць у тым, што яму сапраўды патрэбна, застаецца. Fin, канечне, шчаслівы.

Фільм атрымаўся левы ва ўсіх магчымых пераносных сэнсах. І калі б не здымалі яго тыя ж левакі Падалідэсы, выглядаў бы ён як добры сцёб над камуністычнымі ідэямі. Чаго варты толькі перадпасцельны прэзент кожнай з трох яго жанчын у стылі антыкварнасаўковага спажывізму — чыгунны імбрык...

Але ўся загваздка ў тым, што рэжысёры па азначэнні не мелі на мэце сатыру. Што хацелі яны сказаць стужкай, застаецца загадкай.

Сцэнарый/ Ігра акцёраў/ Рэжысура — 5/ 7/ 4



*Разумею, што прафесія перакладчыка назваў фільмаў — адна з самых цяжкіх (без іроніі), але зноў не магу не прычапіцца да іх. На гэты раз зрабілі яны простую лагічную памылку "пашырэння значэння тэрміну". У той час, як фільм American Splendor (паводле "афіцыйнага" перакладу — "Амерыканскае хараство") пра* ***чалавека****, які з'яўляецца прататыпам тыповага жыхара Штатаў, у прапанаванай гледачу назве чуецца прыхаваны за іроніяй палітычны матыў. Маўляў, вось яно, "Амерыканскае хараство" — глядзіце, як там усё дрэнна.*

*Мы ж пераклалі назоў паіншаму.*

## Дурням шанцуе

**Амерыканскі красунчык /American Splendor/**
**Рэж. Шары Спрынгер Берман, Роберт Пульчыні**
**ЗША, 2003**

Усё так і было. Напачатку 70-х у богам занядбаным Кліўлендзе, штат Агая, жыў ды быў звычайны амерыканскі грамадзянін, пра якога бог клапаціўся не больш. Звалі сціплага работніка бальнічнай рэгістратуры Харві Пікар.

Як стандартны лузер, Пікар не меў хобі, сяброў і перспектывы ў гэтым, па меншай меры, жыцці. Пасля таго, як ад яго пайшла жонка, ён нарэшце зразумеў: трэба мяняць стратэгію.

Цуд адбыўся сам па сабе. Аматар джаза і сур'ёзнай літаратуры, на звычайнай барахолцы Пікар знаёміцца з таленавітым рысавальшчыкам Робертам Крамбам. (Крамб хутка стане знакамітым дзякуючы серыі коміксаў пра ката Фрыца). Дарэчы прыйшлося тое, што Пікару заўсёды падабаліся коміксы, хоць і не падабаліся іх супергероі як увасабленне амерыканскай мары. "Час спусціцца на зямлю самому — і спусціць амерыканцаў", — падумаў Пікар. І сціпла прапанаваў Крамбу зрабіць героем коміксаў яго самога.

Так з'явілася знакамітая на ўсю Амерыку серыя коміксаў "American Splendor", дзе галоўнае месца займае шараговы амерыканец, што жыве сваім паўсядзённым жыццём у правінцыі, працуе не бог ведае дзе і абмяркоўвае са сваімі калегамі ўсялякую пухту — ад сусветнай палітыкі да смаку булак у суседняй лаўцы.

Герой наш вырашыў намаляваць убоства па-амерыканску ў не прыладным з першага погляду пацешлівым фармаце. Ён рупліва дакументаваў рэчаіснасць, занатоўваючы выпадковыя размовы, падгледжаныя сцэнкі і ўласныя маркотныя будні. Парваліся шкарпэткі, забалелі зубы, дасталі на працы — усё стала літаратурным матэрыялам. Пікар распавёў усяму свету, як "на старасці гадоў" пусціўся ў залёты і пазнаёміўся з другой і апошняй жонкай, як з'явілася ў іх прыёмная дачка. Не забыўся адкрыць "гісторыю хваробы" — расказаў, як захварэў на рак, і падрабязна апісаў усе стадыі лячэння.

Сапраўды, Харві Пікарператварыў хворыя зубы ў крыніцу натхнення — і зрабіўся больш папулярным за "Чалавека-павука". Таму не дзіва, што спачатку па ягонай гісторыі паставілі спектакль, а ў мінулым годзе знялі як бы і мастацкі, але збольшага дакументальны фільм.

Усё змяшалася ў стужцы пра Пікара: уласна мастацкая яе частка, фрагменты тэлешоу, мульцік і фільм-біяграфія, у якім замест галівудскай гісторыі поспеху распавялі пра гісторыю няўдач. Рэальныя людзі (у тым ліку сам Пікар з жонкай Джойс) здымаюцца ў павільёне, акцёры ж шпацыруюць па Кліўлендзе і жывуць у "сапраўдных" кватэрах. Ужо і не разбярэшся, хто каго адлюстроўвае: Пол Джамаці Пікара, Пікар Пікара; альбо ўдвух яны экранізуюць жыццё Пікара — персанажа коміксаў, альбо гэта — рэальнае жыццё рэальнага чалавека. Не прызвычаіліся мы да тэрміну "амерыканская дакументалістыка", але трэба прызнаць, што яна існуе.

Як і патрабуе амерыканская кінатрадыцыя, Пікар у канцы стужкі атрымлівае прыз. Канечне, ён працягвае бурчаць, што праблем не зменшыцца, і жыццё не стане прасцей. Але сямейная пара рэжысёраў, якія ўхапілі шмат узнагарод у Санднэсе, Кане, а таксама намінацыю на "Оскар", кажуць: глядзіце, вось чалавек, які перамог убоства мастацтвам.

Сцэнарый/ Ігра акцёраў/ Рэжысура — 8/ 7/ 7

**Мікалай АНІШЧАНКА**





**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Анатоль КАЗЛОЎ**

**Рэдакцыйная рада:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Наталля ДЗЯНІСАВА,**

**Віктар КАВАЛЁЎ,**

**Вольга КУРТАНІЧ,**

**Віктар ПАТАПЕНКА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-66-73**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-79-65**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-81-53**
**паэзіі, літаратурнага жыцця, крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04**
**прозы — 284-66-73**
**музыкі, тэатра, кіно і выяўленчага мастацтва — 284-81-53**
**бухгалтэрыя — 284-66-72**
**Тэл./факс — 284-66-73**

***Электронны адрас:***
**e-mail: minsk@lim.by**

***Адрас у Інтэрнеце — www.lim.by***

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 2385
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 18.08.2004 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ — 1233

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12